*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*





# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 20-22 (232-234) | 17-31 траўня 1995 г. | Кошт — 200 рублёў


# Рэферэндум: народу яшчэ давядзецца па-новаму зірнуць на сябе

14 траўня 1995 года ў краіне адбыўся рэферэндум, вынікам якога, сярод іншых, стала падтрымка большасцю выбаршчыкаў пытанняў пра скасаванне гістарычнай беларускай дзяржаўнай сімволікі ды наданне мове адной з нацыянальных меншасцей статусу дзяржаўнай.

**Што стала прычынай гэтых крокаў назад? Сваімі меркаваннямі з карэспандэнтам «Нашага слова» падзяліліся:**

**Паўлюк Быкоўскі — журналіст** 2 канала Беларускага радыё;

Юры Дракахруст — вядучы навуковы супрацоўнік Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў.

**ПАЎЛЮК БЫКОЎСКІ:** За два тыдні да выбараў і рэферэндуму я сказаў у эфіры: уціску на выбаршчыкаў няма. Што ж, тады яго, бадай, не было, як і хоць нейкай інфармацыі аб тым, што рыхтавалася. На выключэнні кшталту чытання з «оканнем» у менскай радыёпраграме «Сталіца» клінічнага характару вершаў, аўтар якіх не ўяўляў жыцця без спрадвечных сваіх сімвалаў — сярпа і молата, увагі можна было не звяртаць. Але сітуацыя хутка мянялася. І ўжо праз некалькі дзён, сустрэўшыся з назіральнікамі ад Рады Еўропы, я змушаны быў ім заявіць: на журналістаў радыё аказваецца ўціск з мэтай паўплываць праз іх на фармаванне грамадскай думкі на карысць ініцыятара рэферэндуму. Рэч у тым, што тады нас азнаёмілі з дакументам, які адразу ж атрымаў неафіцыйную назву «ліст Шындлера». Гэта быў спіс асобаў, якім рэкамендавалася ў першую чаргу прадастаўляць эфірны час і якія мелі тлумачыць народу, як належыць галасаваць падчас рэферэндуму. Там непрыхавана гаварылася аб неабходнасці фармавання ў народа жадання галасаваць «за», а прозвішчы агітатараў асабіста мне найбольш нагадвалі спіс сяброў і прыхільнікаў «Славянскага Сабора».

Музычнай рэдакцыі рэкамендавалася праводзіць канцэрты пад лозунгамі «Оба языка нам дороги», «Мы поем на двух языках» і г.д. Рэдакцыі Другога канала прапанавалі зрабіць перадачы на тэму «На каком языке говорил Скорина?» ці правесці апытанне — «А родной ли белорусам русский язык?» і гэтак далей. Далей быў спіс тэлефонаў людзей, рэкамендаваных да запрашэння ў эфір. Многія з іх аказаліся кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета, што і забаронена законам, супярэчыла асобнаму ўказу Прэзідэнта. Тым не менш іхнія галасы ў эфіры гучалі, у тым ліку і па Радыё-2.

Нягледзячы на такую паслухмянасць, 11 траўня Радыё-2 у эфір не выйшла — з той, думаецца, прычыны, што загады кіраўніцтва мы выконвалі менш пунктуальна, чым астатнія, спрабуючы прадставіць слухачам розныя меркаванні. Частка нашага часу аказалася нескарыстанай — не транслявалася нічога, а рэшта яго была запоўнена сімфанічнай музыкай. Класіка замест інфармацыйных праграм гучала і на другі дзень — дзейнічала зробленая ў вуснай форме забарона нашай працы намеснікам старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Уладзімірам Ядранцавым. Ніякага афіцыйнага дакумента не існавала — папросту не была падпісана падрыхтаваная да эфіру мікрафонная папка, а замест яе з'явіліся пяць папак музычнай рэдакцыі. У першы дзень забароны здарылася цікавая рэч: не паглядзеўшы, на нашае месца паставілі запіс перадачы, што адбылася ўчора, і а восьмай уранні слухачы пачулі «Добры вечар!»

Чаму нас закрылі? Не ведаю. Мы і сапраўды не імкнуліся агітаваць «за» ці «супраць» нейкіх палітыкаў ці абмяркоўваць пытанні рэферэндуму. Самае большае, што мы маглі і хацелі зрабіць, — пазнаёміць слухачоў з меркаваннямі людзей, маючых незалежныя погляды, а не займацца агітацыяй і прапагандай... Але нам забаранілі нават гэта — быць аб'ектыўнымі.

Супрацоўнікаў радыё папросту прымусілі агітаваць слухачоў галасаваць за пытанні рэферэндуму. З эфіру здымалася любая інфармацыя, нават дзяржаўных агенцтваў, якая магла б выклікаць у людзей сумлеў у неабходнасці адказаць 14 траўня «так». І, што самае дзіўнае, гэта рабілася неафіцыйна. Адсутнічаў загад, зацверджаны якой-небудзь афіцыйнай асобай. Нават «спіс Шындлера», які даваў дазвол на ўдзел у тэле- і радыёпраграмах, не быў падпісаны і распаўсюджваўся з тытулам «ДСП» паймення. Цікава, што розныя яго асобнікі трохі розніліся зместам, каб, магчыма, у выпадку яго публікацыі лягчэй было б адшукаць таго, чый асобнік трапіў у друк.

**ЮРЫ ДРАКАХРУСТ:** Што ж, дзейнасць уладаў і сапраўды мела вынікам адпаведнае фармаванне грамадскай думкі. Напомню, як гэта адбывалася:

У 1994 годзе непасрэдным распараджэннем Прэзідэнта ў Беларусі была ўведзена цэнзура: шэраг дзяржаўных і недзяржаўных выданняў быў пазбаўлены магчымасці надрукаваць даклад дэпутата Сяргея Антончыка аб карупцыі. Пазней Прэзідэнтам была зроблена заява: тыя рэдактары, якія ў сваіх выданнях апублікуюць гэты даклад, будуць звольнены з дзяржаўных пасад. Гэта было зроблена — заменены былі рэдактары газет «Советская Белоруссия», «Знамя юности», «Народная газета», «Рэспубліка», нягледзячы на тое, што заснавальнікам «Народнай газеты» быў не Прэзідэнт, а Вярхоўны Савет. Тады ж быў арыштаваны нумар прыватнай «Газеты Андрея Климова», якая таксама змясціла даклад дэпутата.

Пачатак 1995 года: друкарня «Беларускага Дома друку» — буйнейшага выдавецтва краіны — адмовілася друкаваць шэраг выданняў — «Газету Андрея Климова», «Свабоду», «Фемиду», «Белорусскую деловую газету». Падставай да гэтага стала зноў жа распараджэнне першай асобы дзяржавы. Праз каторы час адміністрацыя Прэзідэнта запатрабавала ад кіраўніцтва Аршанскай друкарні, дзе пачала выдавацца «Свабода», скасаваць пагадненне аб друкарскіх паслугах.

Красавік 1995 года: банкрутам у выніку спынення дзяржаўнага фінансавання абвешчана выдавецтва «Полымя». У выніку стварылася пагроза закрыцця 44 перыядычных выданняў, пераважна беларускамоўных.

Травень 1995 года: за тыдзень да рэферэндуму ў праграме «Праспект» тэлекампаніі «ФІТ» меліся адбыцца выступленні вядомых палітыкаў і паслоў замежных дзяржаў на тэмы, што датычылі пытанняў рэферэндуму. Кіраўнік інфармацыйнай службы Прэзідэнта Уладзімір Замяталін даў загад зняць тыя фрагменты перадачы, у якіх яе ўдзельнікі выказвалі нязгоду з прапановамі, вынесенымі на рэферэндум. Гэты загад быў выкананы кіраўніцтвам тэлерадыёкампаніі, пасля чаго кіраўнік праграмы «Праспект» Павел Шарамет заявіў, што праграма больш не выйдзе, і падаў у адстаўку.

Травень 1995 года: рэспубліканскай тэлевізіяй па-за праграмай, у вечаровы час быў двойчы паказаны дакументальны фільм «Ненависть», стваральнікі якога праводзілі паралелі паміж дзейнасцю калабарантаў у гады Другой сусветнай вайны і дзейнасцю сучасных палітычных і нацыянальных дзеячаў Беларусі.

14 траўня рэферэндум адбыўся і вынікі яго вядомыя. Тым не менш трэба памятаць: у кожным грамадстве, якое яшчэ не стабілізавалася, не вызначыла прыярытэты, арыентацыя людзей лёгка мяняецца ў залежнасці ад розных, нават выпадковых чыннікаў. Таму можа выклікаць сумлеў сцвярджэнне, што рэферэндум — найвышэйшая форма выяўлення волі народа. Я нагадаю, што пасля крушэння германскага фашызму немцы збудавалі сваю дзяржаву, карыстаючыся метадам прадстаўнічай дэмакратыі. Там увогуле не праводзяцца нацыянальныя рэферэндумы ні па якіх пытаннях. Гэта — памяць аб часе, калі ў выніку непасрэднага выбару народа да ўлады прыйшоў Гітлер.

А якія высновы з таго, што адбылося, павінны рабіць беларусы, асабліва тыя, што прадстаўляюць нацыянал-дэмакратычную плынь у палітыцы? Яны мусяць зразумець: 14 траўня большасць выбаршчыкаў выявіла свае схільнасці, і аказалася, што той вобраз беларускага народа, які малявалі палітыкі нацыянальнай арыентацыі, не адпавядае рэчаіснасці.

Таму, што адбылося, ёсць некалькі прычын. Успомніце, як прымаліся герб і сцяг у 1991 годзе! Паклаўшы руку на сэрца, трэба прызнаць: і незалежнасць, і гістарычная сімволіка літаральна зваліліся з неба на насельніцтва. Іх прынящце не было вынікам выканання патрабаванняў большасці, выказам агульнага настрою грамадства. Тады ў Маскве — сталіцы СССР — пацярпеў паразу путч, наменклатурная большасць у беларускім парламенце была гэтым напалохана. Гэтыя людзі, погляды якіх былі вельмі кансерватыўнымі, больш баяліся Ельцына, чым Пазьняка.

З таго часу мінула чатыры гады. Страх у апаратчыкаў даўно прайшоў, а ідэя нацыянальнай незалежнасці так і не набыла шырокай падтрымкі, як гэта здарылася ў краінах Балтыі ці часткова на Украіне. Трэба казаць шчыра: у Беларусі гэтая ідэя не аб'яднала нацыю. Да таго ж нацыянальная ідэя па сутнасці стала здабыткам пэўных палітычных сіл, і ў выніку прынятую ў 1991 годзе сімволіку шмат хто разглядаў як сімволіку БНФ, а не як сцяг і герб нацыі і дзяржавы. Ведаю: шмат каму пачуць гэта будзе горка, але вынікі рэферэндуму паказалі: палітыкам, якія спрабавалі гаварыць ад імя беларускага народа, трэба было па-іншаму інтэрпрэтаваць нацыянальную ідэю і нацыянальную сімволіку. Бо відавочна: трактоўка іх, ужываная дагэтуль у якасці палітычнага інструмента, аказалася неэфектыўнай. Народ яе не ўспрыняў, гэта засведчылі яшчэ выбары ў мінулым годзе.

Так, успамінаючы падзеі вакол рэферэндуму і выбараў, можна сказаць: быў ціск, яны не былі свабоднымі. Гэта вядома ўсім. Але ж успомніце: у мінулым годзе перад прэзідэнцкімі выбарамі ўлада таксама ціснула на ўсіх, акрамя Кебіча. Той быў на старонках газет, на плакатах, тэлеэкранах... Але ж народ, прагаласаваўшы супраць афіцыйнай прапаганды, аддаў свае галасы Лукашэнку.

Чаму так адбылося — і год таму, і цяпер? Рэч, здаецца мне, у тым, што беларускія нацыянальныя палітыкі дэмакратычнага кірунку імкнуліся спалучыць у сабе дзве ролі: і прарокаў, і палітыкаў. Калі лідэр, прайграўшы выбары, кажа: народ да мяне не даспеў, людзі мяне яшчэ не зразумелі, я ніякіх памылак не раблю — гэта не палітык. Так можа гаварыць толькі прарок. Хрыстос не быў палітыкам і лічыў дастатковым тое, што яго разумеюць толькі дванаццаць апосталаў.

Тое, што сталася ў Беларусі, стала драмай не аднаго чалавека, не адной партыі. Прайграў дэмакратычны рух, прайграў нацыянальны рух. І таму, гаворачы аб выніках рэферэндуму, трэба сказаць: беларусам давядзецца яшчэ асэнсоўваць іх. Ім, магчыма, давядзецца па-новаму зірнуць на сябе, давядзецца ствараць нейкія новыя нацыянальную ідэалогію і нацыянальны міф. Беларусы, жадаючы перамагчы, мусяць помніць, чаму перамаглі нацыянальныя сілы ў іншых краінах. Я ведаю: пяць гадоў таму, у час СССР, на сходах літоўскага «Саюдзіса» сядзелі дырэктары заводаў, старшыні калгасаў, афіцэры міліцыі і КДБ, сакратары райкамаў. А сёння беларуская нацыянальная ідэя карыстаецца падтрымкай адно некалькіх невялікіх партый ды часткі інтэлігенцыі. Нацыянальныя сілы прайгралі таму, што аказаліся падзеленымі. Ці здолеюць яны аб'яднацца — пакажа час.

**Распытваў Уладзімір ПАНАДА.**

***Гэты «аб'яднаны» нумар газеты — вяртанне чытачам доўгу, што зрабіўся не з віны калектыву рэдакцыі. Яшчэ раз просім прабачэння.***

***Рэдакцыя.***

АЛЕ!

# Не варта абуваць Беларусь у чужыя лапці

Калі па шчырасці, мне цікава чытаць «Газету Андрея Климова». Незалежная, рэспектабельная, нікога і нічога не баіцца. Хто што хоча, тое там і кажа. І пра ўціск друкаванага слова. І наконт Прэзідэнта. І пра таталітарызм мыслення. І пра нашую залежнасць ад Расіі — сапраўдную і ўяўную. Толькі вось адчуваецца: наконт усяго таго, што называецца беларускай культурай, гэта выданне яшчэ аніяк не можа вызначыцца. І прыклад таму — дзевяты нумар газеты. А больш канкрэтна — публікацыя артыкула Юрыя Уладзімірава «Чаму расійскія хадакі зачасцілі ў Беларусь?» (раздзел «Прайграўшая культура») і рэпартажу Вольгі Залескай «Музыка разумных... але простых». дзе журналістка расказала чытачу пра знакаміты гурт «Палац».

Такое рэдка сустрэнеш: два расійскамоўныя журналісты, нібыта не ведаючы пра існаванне матэрыялаў адзін аднаго, наладзілі ў адным жа выпуску газеты сапраўдны двубой, вызначаючы змест, характар і перспектыву беларускай культуры. Праўда, Ю.Уладзіміраў казаў пра беларускую культуру, так бы мовіць, у цэлым, наогул, а В.Залеская гаварыла пра тое ж, але спасылаючыся на прыклад згаданага «Палаца».

Хто ж перамог у дуэлі?

Мяркую, чытач зробіць сам пэўны вывад, калі супаставіць асобныя вытрымкі з матэрыялаў маіх калег:

**У Ю.Уладзімірава:** «Зараз Беларусь проста не стварае культурную прадукцыю сусветнага ўзроўню...»

**У В.Залескай:** «Не кожнаму калектыву дадзена за чатыры гады зрабіць столькі, колькі ўдалося музыкам «Палаца». Не, справа не ў гастролях па Германіі, Францыі, Італіі, дзе «Палац» прымалі на «ўра». Хаця, наогул, і гэта прыемна. Справа ў той агромністай аўдыторыі моладзі, штохвілінна арыентаванай на Захад, якая палюбіла родную, існа беларускую музыку, адроджаную і нановастворaную «Палацам»...

**У Ю.Уладзімірава:** «Арэол дзеяння ўласнай беларускай культуры — гэта пераважна сельская мясцовасць, а ў горадзе яна рэгулюе толькі абрадавыя і бытавыя адносіны...»

**У В.Залескай:** «...Тое, што многім маім аднагодкам можа паказацца сумным у выкананні бабуляў і дзядуляў беларускай глыбінкі, літаральна захоплівае, зачароўвае, прымушае закахацца ў выкананні гурта («Палаца» — **А.М.**).

**У Ю.Уладзімірава:** «...Па вялікаму рахунку, беларуская культура неканкурэнтназдольная не толькі на сусветным рынку культуры, але і ў параўнанні з суседнімі — расійскай, польскай, прыбалтыйскай».

**У В.Залескай:** «...У беларускай народнай песеннай творчасці ёсць усё, што душа пажадае: і рок, і джаз. Але ўсё гэта асаблівае, нашае, беларускае, а не прывезенае афрыканскае... На прэс-канферэнцыі перад сакавіцкім канцэртам у Мінску музыканты расказалі журналістам, што толькі ў адной экспедыцыі (па Палессю — **А.М.**) з Паўлінай (Паўлінай Сурвілай, амерыканскім прафесарам штата Паўночная Караліна — **А.М.**) было занатавана 14 гадзін відэа- і аўдыёматэрыялу. Зараз ён знаходзіцца ў Амерыцы, запісы запатэнтаваныя».

**У Ю.Уладзімірава:** «...Асноўная прычына, па якой беларуская культура апынулася ў пройгрышы — гэта яе падабенства да рускай, украінскай... Расійская культура з'яўляецца найбольш развітай, і мы пастаянна ідзём у яе фарватэры. Мы не можам прапанаваць нічога радыкальна новага, таго, што не было б ужо напрацавана ў нейкай ступені ў рускай культуры».

**У В.Залескай:** «...Многія нацыі на працягу дзесяцігоддзяў распрацоўвалі ды развівалі сваю фальклорную музыку. У нас жа фальклор застаўся як гістарычны помнік. На гэтай ступені ён не цікавы моладзі. Калі б беларускім фальклорам усур'ёз заняліся ў 30-я гады, зараз мы мелі б моцную базу. Але нічога не страчана. Беларусь мае закансерваваны патэнцыял для стварэння свайго стылю, не горшага, чым блюз або, скажам, англійскі рок».

Мяркую, у двубоі перамагла Вольга Залеская. І чытачы, канешне, паставілі ёй самы высокі бал за яе рэпартаж. А вось Юрыю...

Так, шаноўны калега: і «Палац», і «Песняроў», і «Сяброў», і аўтэнтычныя фальклорныя групы ды ансамблі ведаюць у Еўропе і Амерыцы. Вы паспрабавалі абуць у лапці нашу культуру — і музычную, і моўную, і ўсялякую іншую, не ведаючы дасканала прадмета гаворкі, не ведаючы гісторыі беларускага народа і гісторыі яго духоўнасці. Таму ў адрозненне ад сваёй каляжанкі Вы паскідалі ўсё ў адну ёмістасць... І атрымалася лухта.

Ды не выцясняла беларускую культуру культура расійская! Наадварот, нашыя Францыск Скарына, Сімеон Полацкі, Мялецій Сматрыцкі (гэты спіс можна працягваць) зрабілі ў часы сярэднявечча магутны ўплыў на станаўленне расійскай культуры і навукі. А ў прысавецкія часы расійскія інтэлігенты Усевалад Пічэта, Іван Замоцін, Мікалай Байкоў (гэты спіс таксама можна працягваць) добра-такі папрацавалі на ніве Беларускага Адраджэння, пакуль іх разам з нашымі нацдэмамі не рэпрэсавалі «сталінскія сокалы». Ва ўмовах дэмакратыі, якая, найперш, уключае ў гэта разуменне незалежнасць і суверэннасць кожнай нацыі, родныя «па крыві» культуры не выцясняюць адна адну, а ўзаемаўзбагачаюць. Іншая рэч, што нашых продкаў гвалтам мусілі асіміляваць каралі ды цары, зачыняючы нацыянальныя універсітэты, школы, уніяцкія цэрквы, забараняючы мову ў сценах навучальных і дзяржаўных установ.

Што ж, калі вельмі хочацца лішні раз ударыць і без таго хворую беларускую культуру, то можна і не звяртаць увагі на гістарычныя факты.

Хаця сягоння сітуацыя не такая ўжо крытычная, як мяркуе спадар Юрый. Хацеў бы, калега, у гэтым плане даць адну параду.

Не трэба, паважаны спадар, рабіць лёгкадумных высноў, не зазірнуўшы ў «святцы». Лепш памажыце, Юрый, сваім пяром, як гэта зрабіла Ваша каляжанка Вольга, у будаўніцтве вось гэткіх беларускіх «Палацаў». Не верце тым палітыкам, якія, падобна крумкачам над нашымі галовамі крумкаюць, што на беларускай мове нельга нічога «великого» сказаць. Брэшуць!

Казалі беларусы «великое» неаднойчы. Ды так, што цэлы Сусвет у захапленне прыходзіў. І нос уціралі той самай заходняй мас-культуры, якую Вы так мусілі хваліць. І яшчэ неаднойчы пра наш боль і радасць скажуць нашыя Быкавы, Гілевічы, Марачкіны, Роўды. І тады пад назвай «Кіно для Беларусі» ваша газета з гонарам змесціць каталог такіх фільмаў студыі «Беларусьфільм», у якіх будзе ўсё нашае, пачынаючы ад мовы сцэнарыя... Дайце час толькі, каб адагнаць прэч ад Бацькаўшчыны крумкачоў — культуртрэгераў таталітарнага ўзору — і нашыя «Палацы» з яшчэ большай чароўнай сілай загіпнатызуюць беларускай культурай — музыкай, словам, непаўторным талентам — бабульку-Еўропу і матухну-Расію.

Будзем аптымістамі!

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

## У газетах

### Рэцэпт утрымання ўлады: падсунь людзям пустышку...

«...Які ўсеагульны парыў, якое аднадушша! А гэта братанне ў банкетнай зале! І хай бы ўсё адбывалася на нейкай канструктыўнай глебе, а Прэзідэнт з парламентам сышліся на рашэнні глабальных, важных для росквіту народа і дзяржавы пытаннях. Дык не ж, іх аб'яднала адна, але палымяная, страсць: утрымаць камандныя вышыні ўлады, а значыцца, і сваё выключнае становішча ў грамадстве. Рэцэпт вядомы даўно і напісаны бальшавікамі яшчэ задоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Падсунь людзям пустышку, накшталт громкіх лозунгаў або, у нашым выпадку, сімвалаў, а калі тыя заглынуць прынаду, падсякаць, цягнуць, куды пажадаецца.

...Няўжо змена герба і сцяга — зараз вастрэйшая праблема?! Нават ідэалагічныя папярэднікі аддавалі перавагу пачынаць з больш сур'ёзных спраў, такіх, як мір, хлеб, зямля.

Цяпер пра статус расійскай мовы. Гэта пытанне можна выносіць на ўсенароднае абмеркаванне толькі ў адным выпадку: калі б расійская мова апынулася ў рэспубліцы пад забаронай...»

**(«Фемида», № 17, 1995 г.)**

### Прафсаюзныя стыпендыі

«Вось ужо тры гады, як Федэрацыя прафсаюзаў і Асацыяцыя прафсаюзных арганізацый студэнтаў вышэйшых і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных установ прысуджаюць 10—12 прафсаюзных стыпендый выдатнікам вучобы і актывістам ВНУ і вучылішчаў рэспублікі. У працяг гэтага пачынання Менскі абкам прафсаюза работнікаў аховы здароўя прыняў рашэнне аб зацвярджэнні 20 стыпендый. Яны будуць прысуджацца студэнтам і навучэнцам медыцынскіх навучальных установ вобласці».

**(«Беларускі час», № 17, 1995 г.)**

### Якіх літар больш у слоўніку паэта

**Журналістка Ала БАБКОВА:**

«Калі б нехта — чаму не памарыць! — выдаў Слоўнік паэзіі Барадуліна, у першую чаргу трэба было б разгарнуць яго на літары М: Маці, Маленства, Млечны Шлях. А далей я спынілася б на літары П: ПІЛІГРЫМ. Таму што больш за 30 гадоў паэт нясе з сусвету чалавечыя запаветы, «блукае» па душах тых суайчыннікаў, хто прыняў ягоную веру, маліўся ягонымі малітвамі, імкнуўся да ачышчэння сумлення...»

**(«Добры вечар», № 61, 1995 г.)**

### Нябожчыкі твораць разор жывым

**Ветэран фізічнай культуры і спорту Вячаслаў ІШЧАНКА:**

«...Назаўжды развіталася са сваёй невялічкай пенсіяй бабулька аднаго майго родзіча. І я разам з ім акунуўся ў сусвет фантастычнай арыфметыкі. За капанне магілкі давялося заплаціць такія грошы, за якія яшчэ два гады таму можна было выкапаць алімпійскі басейн. Выдаткі на пахавальную музыку! Пры тым, што гэта не сімфанічны аркестр венскай оперы, а пяць мужыкоў з пабітымі трубамі ды няголенымі фізіяноміямі. Пра адляцеўшых у свой вырай — добра ці нічога. Але нябожчыца ўтварыла разор сваёй радні. Робіцца зразумела, што як бы ні дорага нам жыць, а смерць куды больш даражэйшая... Канешне, гэта прэстыжна — праплыць па-над натоўпам па вуліцах роднага горада пад музыку, увесь у кветачках, кожная з якіх каштуе кілаграма сыравэнджанай кілбасы. Але ці можам мы турбавацца аб прэстыжы з нашымі даходамі? Так што ў сіле застаецца такая рэкамендацыя: жыць доўга, не хварэць, не курыць, не піць, па бабах не хадзіць...»

**(«Минский меридиан», № 14, 1995 г.)**

***Заўвага «Нашага слова»:*** *Важную праблему ўзняў В.Ішчанка. І ўсё ж, спадар Вячаслаў, пра мёртвых трэба «добра ці нічога», як Вы і самі заўважылі. Бо цяпер у рот шмат каму з сяброў нашай рэдакцыі не тое што сыравэнджаная, але і звычайная, «мокрая», кілбаса не палезе. Бо з людзьмі ўсё ж трэба развітвацца па-людску, па-хрысціянску. Нягледзячы ні на якія эканамічныя крызісы...*

### У народным ансамблі перавага народным песням

«Ні адно ўрачыстае свята, якое праводзіцца як у горадзе Чэрыкаве, так і ў раёне, не абыходзіцца без актыўнага ўдзелу народнага ансамбля раённага Дома культуры. Створаны і дзейнічае гэты ансамбль даўно, але званне «народны» атрымаў толькі ў пачатку бягучага года. На чале з мастацкім кіраўніком Міхаілам Маркавічам Канашынскім, салістамі ансамбля распрацоўваецца і выконваецца цікавы і ўсебаковы рэпертуар. Але перавага ўсё ж такі аддаецца народным песням...»

**(Чэрыкаўская райгазета «Заклік Ільіча», № 29, 1995 г.)**

### Не прэзідэнцкая справа!

«...На словах Вы — гарант Канстытуцыі, а на справе атрымліваецца, што законы для Вас не пісаныя. Інакай як разумець усё гэта? Дзе, у якой яшчэ дзяржаве Прэзідэнт здымае і прызначае галоўных рэдактараў? Паверце майму слову сумлення, Аляксандр Рыгоравіч: не прэзідэнцкая гэта справа! Але мэта дасягнута: уведзена жорсткая прэзідэнцкая цэнзура. І вынікі не прамарудзілі выявіцца: у адным рэдакцыйным калектыве — развал, у іншых — напружанасць, страх і нервознасць. Тут ужо не да творчасці, тым больш — не да крытычных матэрыялаў».

**(З адкрытага ліста Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Лукашэнку А.Р. ад Леаніда Екеля, старшыні СЖ Беларусі. «Знамя юности», № 61, 1995 г.)**

## ІНФАРМАЦЫЯ З КАМЕНТАРАМ

### ПЕДАГОГІ: СТРАЧАНА ЦЯРПЕННЕ

Савет Беларускага Свабоднага прафсаюза педагогаў (БСПП) звярнуўся да працоўных калектываў сваёй галіны з ініцыятывай аб увядзенні прадстрайкавага становішча.

Да Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў высунутыя наступныя патрабаванні: па-першае, павінен быць неадкладна ўведзены ў поўным аб'ёме Закон «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», бо да гэтага часу не выконваюцца жыццёва важныя артыкулы, што асабліва датычацца матэрыяльнага ўтрымання людзей, якія прысвяцілі сябе служэнню выхавання падрастаючага пакалення, узбраенню яго неабходнымі для самастойнага існавання ведамі і навыкамі; па-другое, трэба, нарэшце, каб мінімальны заробак педагогаў, што і так фактычна значна адстае ад заробкаў рабочых прамысловасці, не быў ніжэйшы, чым мінімальны спажывецкі бюджэт; па-трэцяе, у сувязі з інфармацыяй неабходна перайсці на штотыднёвую выплату заробку, а несвоечасова выплачаныя сумы індэксаваць у памеры аднаго працэнта за кожны дзень адтэрміноўкі, а пакуль у якасці кампенсацыі за невыкананне з 1 студзеня 1994 г. Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» зрабіць педагогам аднаразовыя грашовыя выплаты.

Савет Беларускага Свабоднага прафсаюза педагогаў, акрамя ўсяго, патрабуе ад уладных структур для забеспячэння эфектыўнага кантролю выканання памянёнага Закона штотыдзень друкаваць у рэспубліканскіх газетах звесткі аб мінімальным спажывецкім бюджэце і сярэднетыднёвым заробку асноўных катэгорыяў рабочых і служачых.

Калі патрабаванні не будуць выкананыя да канца красавіка, Савет БСПП пачне галіновы страйк. У час, калі наша газета апублікуе гэтую інфармацыю, настаўніцкая забастоўка можа распачацца.

**Алесь СЯРГЕЕЎ.**

***Ад рэдакцыі.*** *Як растлумачыў «Нашаму слову» адзін з сяброў савета БСПП Станіслаў Губар, пытанні з заробкамі педагогаў, якія вагаюцца на адзнацы. ніжэйшай за 500 тысяч рублёў у месяц, у кабінетах вышэйшай беларускай улады зайшлі ў тупік. Педагогаў, якія патрабуюць у гэтым сэнсе ад дзяржавы аднаго — выконваць прыняты Закон «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», то просяць «пацярпець», то самых «нецярплівых» падводзяць пад звальненне з працы. Але відавочна адно: настаўніка, выкладчыка, вучонага чалавека «ў інстанцыях» не любяць. Як не любяць «лішні рот», які даўней нараджаўся ў шматдзетнай беднай сям'і і пра дакастрычніцкі лёс якога было расказана столькі слёзных бальшавіцкіх казак.*

*Але ж педагог — не лішні рот. Ад педагога шмат у чым залежыць, будзе наша грамадства цывілізаваным або яно абрасце каростай злачыннасці, хамства, вандалізму. Некалі другі чалавек у іерархіі фашысцкай Германіі Герынг сказаў, што яго рука цягнецца да пісталета, калі ён чуе слова «культура».*

*Ці не такія часы насталі для Беларусі? Хто ж нарэшце дапаможа педагогу, калі ён не пойдзе на крайнюю меру — страйк падчас здачы экзаменаў і залікаў у школах, тэхнікумах і ВНУ? Хто прымусіць уладу выконваць Закон? Пракуратура Рэспублікі Беларусь? Канстытуцыйны суд? Станіслаў Губар у гэтым сумняваецца.*

*Калі вялася наша гаворка, распачынаць страйк, па словах сумоўніка, былі гатовы калегі Станіслава Мікітавіча ў Гомелі, Салігорску і іншых гарадах краіны.*

АЛЕ! АЛЕ!

# Мове вас навучалі? Значыць — не ахвяры...

Спачатку вытрымка з дакумента:

***«...У мэтах аказання дапамогі выхавацелям у іхняй рабоце былі падрыхтаваны і разасланы па дзетдамах метадычныя рэкамендацыі па пытаннях развіцця інтарэсаў, любові да прыроды ў дзяцей, праграма працоўнага навучання дзяцей, рэгламент для дзіцячых установў, у якім указвалася, што клопат пра здароўе, пра іхняе правільнае фізічнае і духоўнае развіццё з'яўляецца найважнай задачай дзіцячай установы. Першаступеннае значэнне надавалася парадку дня. У рэгламенце прыводзіліся прыклады рэжыму дня для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту, разглядаліся пытанні фізічнага выхавання, выхавання культурна-гігіенічных звычак, гульні дзяцей, знаёмства з прыродай, вывучэнне роднай мовы, вызначалася, якімі якасцямі павінен валодаць выхавацель дзіцячай установы, асобна абумоўлівалася, якімі мерамі ўздзеяння павінны карыстацца выхавацелі ў рабоце з дзецьмі.***

Ва ўсіх метадычных рэкамендацыях падкрэслівалася, што ўся работа дзіцячага дома і выхаванне дзяцей у ім павінна праводзіцца ў духу беларускага нацыянальнага выхавання:

«Прышчапіць дзецям любоў да маці-Беларусі, беларускага народу, беларускай культуры, песняў, музыкі, казкаў і звычаяў». Таму ў рабоце з дзецьмі можна было карыстацца толькі беларускай мовай, катэгарычна забаранялася размаўляць у дзіцячых установах па-расійску або па-польску. Усе кіраўнікі і выхавацелі дзіцячых установў павінны быць «сябрамі БНС».

Не менш важным накірункам выхаваўчай работы з'яўлялася выхаванне любові і павагі да Германіі, да Гітлера, да нямецкай арміі. Так, напрыклад, у «Рагляміне для дзіцячых установў» было падкрэслена: «Вялікае палітычнае і выхаваўчае значэнне мае азнаямленне дзяцей па малюнках і апавяданнях аб жыцці і дзейнасці правадыра Вялікай Нямеччыны Адольфа Гітлера, яго цёплых і чулых адносінах да дзяцей, для чаго скарыстаць брашуру «Адольф Гітлер і дзеці», пазнаёміць дзяцей з жыццём і мужнасцю нямецкіх жаўнераў, выхаваць у дзяцей прыхільныя адносіны да нямецкага войска, пазнаёміць з жыццём нямецкіх службоўцаў, рабочых і сялян...»

Як здагадаўся чытач, размова ідзе аб рэгламентацыі жыцця дзіцячых дамоў у нашай краіне ў часы фашысцкай акупацыі.

Цяпер толькі засталося здагадацца: хто ж аўтар гэтага салажавага дакумента, падобнага на справаздачу чыноўнікаў нямецкіх штадткамісарыятаў перад, магчыма, самім Вільгельмам Кубэ?

Ды не, сябры! Гэтая вытрымка пра тое, як добра жылі і выхоўваліся ў дзіцячых дамах пад крылом нямецкага арла з фашысцкай свастыкай у кіпцюрах беларускія ды іншых нацыянальнасцей дзеці-сіроты, з «Даведкі аб становішчы ў дзіцячых дамах, што знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі ў перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі 1941—1944 гг.». А падпісаў яе параўнаўча нядаўна не нямецкі чын, а начальнік аддзела навуковага карыстання дакументаў і інфармацыі Камітэта па архівах і справаводству пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь У.І.Адамушка.

На адзінаццаці з хвостком старонках ён даводзіць, як цудоўна жылося сіротам у дзетдамах пад гітлераўскай ды калабаранцкай апекай: і нормы харчавання прыстойныя, і чысціня ў тых дамах адметная, і дагледжаныя самі дзеткі, і нават, бачыце, германскія нацысты ледзь ці не рупіліся пра адраджэнне беларускай мовы і культуры ў гэтых дашкольных установах.

Ну адно, можа, кепска, што любоў да збаўцы-Гітлера і нямецкіх ваякаў прывівалася... Вось так: супраць чаго змагаліся, на тое і нарваліся!

Чаму ж узнік гэты дакумент? Гэты канцылярскі цуд у пер'і?

Ды таму, — што ацалелыя былыя выхаванцы тых самых дамоў, дзеці, у каторых фашысцкія эскулапы бралі кроў для сваёй салдатні, а яшчэ — марылі голадам, «гартавалі» холадам, на вачах расстрэльвалі і кідалі ў газавыя аўтакамеры іхніх таварышаў па няшчасці, сягоння выставілі свой рахунак да дзяржавы. Яны запатрабавалі раздзяліць з імі, цяпер хворымі, ледзь жывымі, матэрыяльны цяжар будзённых клопатаў. Яны (о жах!) патрабуюць прыраўняць іх у льготах да непаўналетніх вязняў канцлагераў, патрабуюць, каб дапамога з Германіі, што выдзелена тым насельнікам Беларусі, каторыя пацярпелі ад акупантаў, распаўсюдзілася і на іх, маленькіх вязняў дзіцячых дамоў.

Але якую можна зрабіць выснову з даведкі, дзе на падставе нямецкіх дакументаў спадар У.І.Адамушка на поўным сур'ёзе даводзіць:

***«...У дзіцячых дамах функцыянавалі гурткі. Планаваліся раённыя выстаўкі, куды неабходна было прадставіць нумары мастацкай самадзейнасці, узоры дзіцячай працы (вышыўка, маляванне, лепка, аплікацыя, шыццё і г.д.). Захаваўся «План паказу мерапрыемстваў па дзіцячаму дому Астрашыцкага Гарадка на раённую выставу ад 30 ліпеня 1942 года»?***

Атакую: жылі вы, даражэнькія, за нямецкімі плячыма, як за каменнай сцяной, нават беларускім адраджэннем займаліся — дык чаго вы яшчэ сёння хочаце!

Усе мы ведаем, як адраджалі фашысты Беларусь, у тым ліку і беларускае маленства: праз кулю, пятлю ды полымя Хатыні, дзе, дарэчы, цяпер ёсць і ўвекавечаная ў мемарыяльным комплексе памяць пра знішчаны фашыстамі Дамачоўскі дзіцячы дом. А перад пагібеллю гэтым дзеткам, канешне, можна штосьці набубніць на беларускай мове, каб потым у Міжнародны Чырвоны Крыж далажыць: турбуемся на ўсходніх тэрыторыях пра дзетак, нават «***многіх выхаванцаў дзіцячых дамоў старэйшага ўзросту» накіроўваем у Нямеччыну...для навучання розным прафесіям***».

А можа гэтак жартуе спадар урадавы чыноўнік? Толькі вось падобныя «жарцікі» народу зразумець цяжка.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

## З рэдакцыйнай пошты

# Амаль як Нічыпар з Малінаўкі

Кіраўніка народнага музея сярэдняй школы № 4 г. Слоніма Аляксандра Сямёнавіча Жукоўскага ў горадзе над Шчарай усе добра ведаюць. Амаль да кожных свят ён стараецца выдаць у мясцовай друкарні віншавальныя паштоўкі. І вось зараз, да 50-годдзя Вялікай Перамогі, А.Жукоўскі выдаў чарговую прыгожую паштоўку, якая складаецца з чатырох старонак. На першай, побач з малюнкам, на беларускай мове напісана «Са святам Перамогі». Разгортваю паштоўку і вачам не веру: увесь віншавальны тэкст напісаны па-расійску. А побач — дзве страфы з верша Якуба Коласа. І што вы думаеце — і яны таксама... па-расійску! Дзе і ў якой яшчэ краіне можа быць такое!? Мне здаецца, што з прыемнасцю атрымалі б віншаванне на беларускай мове не толькі жыхары Беларусі, але і ўсіх краін свету і ўсе зразумелі б. А тут, відаць, ці не сіндром таго Нічыпара з фільма «Вяселле ў Малінаўцы». Калі прыходзяць бальшавікі — ён адзяе будзёнаўку, калі «белыя» — хавае яе за пояс. Але ж мову нашу за пояс не схаваеш. Ды і не варта.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**
г.Слонім.

## Навіны Нацыянальнай бібліятэкі

# Да свята Перамогі

У памяшканні Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі праходзіць выстава «І радасць, і смутак, і боль...», прысвечаная 50-годдзю Перамогі. Урачыстае адкрыццё адбылося 27 красавіка. Сярод афіцыйных асобаў на ім прысутнічалі міністр культуры і інфарматыкі А.І.Бутэвіч, пасол Вялікабрытаніі і пасол Румыніі ў Беларусі. А.І.Бутэвіч звярнуўся з прывітальнымі словамі і віншаваннямі да запрошаных на ўрачыстасць ветэранаў. Дырэктар нацыянальнай бібліятэкі Г.М.Алейнік расказала прысутным пра асобныя выданні, прадстаўленыя на выставе.

Сярод экспанатаў — падпольна выдадзеныя ў часы акупацыі пракламацыі, газеты і часопісы, партызанскія ўлёткі. Частку з іх перадаў для паказу на выставе Музей гісторыі ВАВ, а іншыя захаваліся ў фондах самой бібліятэкі. У лекцыйнай зале экспазіцыі прадстаўлена таксама багатая калекцыя палітычных агітацыйных плакатаў, далёка не ўсе лозунгі якіх вядомыя нам па школьных падручніках гісторыі. Многія з выстаўленых дакументаў існуюць зараз у адзіным паасобніку. Акрамя арыгінальных выданняў ваеннага часу, для азнаямлення прапануецца вялікая колькасць публіцыстычных і мастацкіх выданняў на расійскай і беларускай мовах, якія выходзілі пасля вайны.

**Ала ЗМІЁВА.**

## *НАВІНЫ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»*

# Госці з Англіі

Сядзібу згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» наведалі Янка Ясвіловіч і Хведар Лемяшонак, беларусы з Англіі, якія жывуць у г.Брэдфардзе. Яшчэ ў 50-я гады тамтэйшыя беларусы займелі трохпавярховы будынак і назвалі яго Беларускім домам. Ён і сёння з'яўляецца цэнтрам беларускага асяроддзя ў гэтым горадзе. Хведар Лемяшонак мае намер адзначыць сваё васьмідзесяцігоддзе на Бацькаўшчыне, якую ён наведаў у другі раз. Янка Ясвіловіч і Хведар Лемяшонак заўсёды з'яўляліся актыўнымі працаўнікамі беларускай суполкі ў Брэдфардзе.

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» сумесна з Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам Ф.Скарыны рыхтуецца прыняць у Менску мэра нямецкага горада Ляймен, з якім будзе весціся гутарка аб тым, каб аднавіць дзейнасць Беларускага музея ў гэтым горадзе.

# *Дыялог, падобны на данос?*

Шчыра скажу, я даўно вывучаю унікальнасць той кухні, на якой варылася крывавая спажыва для сталінісцкіх катаў у 30—50 гады XX стагоддзя: і на 1/6 частцы сушы планеты Зямля, і на «кляновым лісточку» — у Беларусі. Мяркую, пачатак рэпрэсій супраць «буржуазных нацдэмаў» у тыя часы клаўся сродкамі масавай інфармацыі і, найперш, — бальшавіцкім друкам, журналістамі-«выкрывальнікамі», якія, напрыклад, па ўказцы ГПУ ці НКУС, «заўважалі» ў той ці іншай кнізе таго ці іншага паэта або празаіка «кулацкія настроі», «настальгію па буржуазным ладзе», «класавую слепату» («глухату», «блізарукасць», «несвядомасць»). Дзень выхаду ў свет нумара газеты з падобнай рэцэнзіяй, поўнай гнюснага пралетарскага кляймення «замаскаванага ворага народа», быў яго апошнім днём жыцця на волі. Ноччу літаратара, які дрэнна адрозніваў самаахвярнага рэвалюцыянера ад кулака, адвозілі ў чэкісцкія скляпенні, дзе «прадажнаму пісаку» пачыналі чысціць мазгі, пачыналі цікавіцца, на якую замежную разведку працуе. Пасля высвятлення «дэфензіўных» сувязей кропку ў крымінальнай справе ставілі Курапаты. Раз і назаўжды.

Так вынішчаліся творцы, ювеліры і скарбнікі беларускай мовы. Так вынішчаўся інтэлект нацыі.

Пра гэта ўсё я падумаў, калі прачытаў у нумарах 14 і 15 газеты «Товарищ» «дыялог» паміж сакратаром ЦК ПКБ Васілём Новікавым і намеснікам галоўнага рэдактара выдання Віктарам Вольскім. Бо ў часы Берыі ды Цанавы шмат каму з ліку нацдэмаў не пашчасціла б пасля публікацыі гэтага матэрыяла пад загалоўкам «Как выберем — так и жить будем!»

Каму ж выдалі б нкусаўцы «пуцёўкі» ў Курапаты з падачы ўдзельнікаў названага «дыялогу»? Які, акрамя нібыта нічым не аздобленага загалоўка, меў вынасачку: «Наша позиция: гробовщики Союза и Беларуси не должны пройти в парламент». Ну, проста не вынаска, а сігнальны ліхтар для спецслужбаў: маўляў, чытайце, таварышы, наш дыялог, ды высновы свае рабіце!..

Зразумела ж, з матэрыяла вынікае: найпершы кандыдат на загародні курапацкі шпацыр лідэр БНФ Зянон **ПАЗЬНЯК.**

**«Крымінал», які інкрымінуецца яму аўтарамі:**

*«...Аказваецца, і «сам» лідэр БНФ Пазьняк сваволіць вершыкамі. Бач — і выйдзе збор паэтычных палітсачыненняў... Аднак галоўная яго мэта стварыць «новую дзяржаву» — па свайму ўяўленню, зразумела. Але калі Пазьняк да 50 год не стварыў сям'і, ці ж дзяржаву ён збудуе?! Калі так, дык з абавязковым запрашэннем «мирового жулья», «подлецов всех стран» — і будзе Беларусь «мировой биржей»(?) З пашпарта пад уціскам БНФ выключана нават графа аб нацыянальнасці. Значыцца гэта некаму патрэбна?!»*

Канешне ж, З.Пазьняку будзе сумна ехаць у курапацкі лес без свайго баявога намесніка **Юрася ХАДЫКІ.**

«Крымінал» на таго:

*«...Ю.В.Хадыка не быў выбраны ў Вярхоўны Савет. Але ён актыўна ўключыўся ў разбуральную дзейнасць БНФ».*

Пры ўсім гэтым аўтарам «дыялогу» нельга адмовіць у творчых знаходках свайго расповяду. Б'юць яны «гробовщиков» не толькі ў «розніцу», але і цэлымі групамі. Дэпутацкімі, напрыклад.

**«Крымінал» у адрас народных дэпутатаў Беларусі:**

*«...Калі б гэта журналістыка, трэба сказаць, здольная, была аб'ектыўная, то не зблытала б адрас свайго абвінавачвання — «сорамна нацыі...» А ўказала б на наваяўленых і самазваных бацькоў нацыі, з падачы якіх яна гробіцца.* ***Такіх, як З.Пазьняк, С.Шушкевіч, У.Заблоцкі, Г.Карпенка, Н.Гілевіч, А.Трусаў і дэмагогі-капіталізатары, што калібрам больш дробным, тыпу С.Навумчыка, Л.Баршчэўскага, Г.Сямдзянавай...*** *А астатнія што тварылі і твораць з народам? Гэта яны наладжвалі дзікунскія скокі захаплення з нагоды развалу Саюза, крушэння сацыялістычнай сістэмы, што была гарантам «сацыяльных правоў грамадзяніна...»*

Ну, а ўжо, мусіць, журналістаў трэба жыўцом закопваць у курапацкую зямлю. Вельмі дасталося за здраду чырвонаму колеру Паўлу Якубовічу, Іосіфу Сярэдзічу, Івану Макаловічу — гэтым «кан'юнктурщчыкам».

Мала таго, што ў наяўнасці маецца наш брат, які выракся каштоўнасцяў марксісцка-ленінскай тэорыі (а галоўнае — сацыялістычнай курапацкай практыкі), дык мы яшчэ атрымалі буржуазных замежных ідэалагічных дыверсантаў тыпу фонду Сораса.

**У традыцыях 30—50-х гадоў Віктар Вольскі так вось і сігналізуе:**

«Давайце назавём, хто з журналістаў уваходзіць у склад праўлення гэтага «божественного» фонду? Зразумела, першы сярод роўных — былы «марксіст» **Іосіф Сярэдзіч.** За імі ідуць — галоўны рэдактар газеты «Свабода», што хуліганствуе на палітыцы, **Ігар Германчук** (дэпутат Вярхоўнага Савета), **Анатоль Гатоўчыц** («Народная газета»), **Аляксандр Шкут, Міхаіл Валодзін** («Minsk Ekonomik News»), **Аляксандр Вальвачоў** («Белорусская деловая газета»), **Павел Жук** («Свабода», Тэлерадыёкампанія «ММ4»), **Юрый Дракахруст** (Руская служба «Радыё «Свабода»), **Сяргей Ваганаў** (кар.газеты «Труд»), **Таццяна Мельнічук** (газета «Беларуская маладзёжная», **Аляксандр Міхальчук** («Белорусская деловая газета»), **Аляксандр Ступнікаў** (працуе на шматлікія агенцтвы краіны) і многія-многія іншыя. Ушчаміўся ў гэту кампанію і ліберал, як ён сябе называе, міністр працы **Аляксандр Сасноў** на пару з народным паэтам **Рыгорам Барадуліным.** Так што ёсць каму змагацца за гонар і незалежнасць Беларусі, — робіць на поўным сур'ёзе выснову са спісу мой калега, інкрымінуючы людзям, якімі можа ганарыцца і айчынная журналістыка, і літаратура, і нават урад, такую «загану», як беларускі патрыятызм.

Жахлівы сон? Але не сон. У Авальнай зале дубінкамі збіваюць дэпутатаў. Прынята рашэнне аб правядзенні рэферэндуму, мэтай якога з'яўляецца ліквідацыя нашага роднага слова і дзяржаўнай сімволікі. З гэтай нагоды нават прамаўчаў Канстытуцыйны суд. Пра ўціск жа на журналістаў і гаварыць надакучыла.

Так што самы раз, шаноўны калега Віктар Вольскі, распачаць «паляванне на ведзьмаў». Як гэта было некалі ў савецкай імперыі, фашысцкай Германіі і «звышдэмакратычных» Злучаных Штатах Амерыкі. Наперад, аматары і прафесіяналы Варфаламееўскіх начэй! Дзверы вашых ахвяраў пазначаны!

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

# СТАТУТ

## Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

*У адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь аб Грамадскіх аб'яднаннях і згодна пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб грамадскіх аб'яднаннях» у Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь здзейснена перарэгістрацыя Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны (пасведчанне № 0129 ад 22 сакавіка г.г.).*

*Рэдакцыя газеты «Нашага слова» друкуе тэкст Статута для выкарыстання пры перарэгістрацыі ў мясцовых органах улады і выкарыстання ў практычнай рабоце.*

**Сакратарыят ТБМ імя Ф.Скарыны.**
**Рэдакцыя.**

Нацыянальная мова — неацэнны духоўны скарб, які жывою повяззю яднае пакаленні і вякамі назапашваецца і адлюстроўваецца ва ўдзячнай памяці, свядомасці і нацыянальнай годнасці нашчадкаў. Страта нацыянальнай мовы народам ідзе поруч з заняпадам нацыянальнай культуры і вядзе за сабою паступовае знікненне народа як самабытнай этнакультурнай супольнасці. Узровень развіцця нацыянальнай мовы і яе становішча ў грамадстве сведчаць аб агульным стане яго культуры, дэмакратычных традыцый і народаўладдзя.

Найвышэйшай мэтай стварэння і сэнсам існавання Таварыства беларускай мовы (скарочана — ТБМ) з'яўляюцца аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы як да нацыянальнай святыні, адраджэнне на гэтай падставе гістарычнай памяці, традыцыйнай культуры і сімволікі нашага народа.

Адзначаючы, што беларусы з'яўляюцца карэннай нацыяй Рэспублікі Беларусь, бо жывуць на сваёй этнічнай і гістарычнай радзіме, і што тут і толькі тут могуць поўна і плённа рэалізаваць свой духоўны і культурны патэнцыял, ТБМ выступае за паскоранае і поўнае забеспячэнне беларускай мове статуса адзінай дзяржаўнай мовы ў Рэспубліцы Беларусь.

ТБМ лічыць, што справа сумлення і патрыятычнага абавязку кожнага беларуса, кожнага жыхара рэспублікі шанаваць і вывучаць беларускую мову, свабодна валодаць ёю, карыстацца ў штодзённым жыцці. ТБМ заахвочвае вывучэнне і распаўсюджванне гістарычных ведаў пра Беларусь.

Падтрымліваючы імкненне прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцей, што жывуць у рэспубліцы, да захавання і развіцця іх моў, ТБМ спрые і заахвочвае авалоданне імі моваай карэннай нацыі рэспублікі — беларускай.

З ініцыятывай аб стварэнні ТБМ у 1989 годзе выступілі: Саюз пісьменнікаў БССР (Саюз пісьменнікаў Беларусі), Міністэрства народнай адукацыі БССР (Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь), Міністэрства культуры БССР (Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь), Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа АН БССР (Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа АНБ), Інстытут літаратуры імя Я.Купалы АН БССР (Інстытут літаратуры імя Я.Купалы АНБ), Беларускае рэспубліканскае аддзяленне Савецкага фонду культуры (Беларускі фонд культуры), Дзяржкамвыд БССР, Таварыства «Радзіма», «Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі», Дзяржтэлерадыё БССР (Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Рэспублікі Беларусь).

### 1.АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

1.1. ТБМ — добраахвотная масавая грамадская арганізацыя, у якой аб'ядналіся грамадзяне з мэтай адраджэння беларускай мовы ў Беларусі і праз яе — усёй беларускай нацыянальнай культуры. ТБМ дзейнічае ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь Аб грамадскіх арганізацыях, Законам Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, іншымі палажэннямі дзейнага заканадаўства і гэтым Статутам.

1.2. ТБМ дзейнічае на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, а таксама за яе межамі ў асяродках беларускай дыяспары.

1.3. ТБМ арганізуе сваю работу на прынцыпах дэмакратызму, плюралізму, самакіравання, галоснасці, падтрымлівае і развівае творчую актыўнасць і ініцыятыву яго сяброў і дзейнічае супольна з дзяржаўнымі, навуковымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь.

1.4. ТБМ з'яўляецца юрыдычнай асобай, мае самастойны бухгалтарскі баланс: пячатку, штампы вызначанага ўзору з адлюстраваннем сімволікі і назвы ТБМ, разліковыя рахункі ў банкаўскіх установах (у тым ліку валютныя); ад свайго імя выступае ва ўзаемаадносінах з юрыдычнымі і фізічнымі асобамі. Юрыдычнымі асобамі з'яўляюцца і арганізацыйныя структуры ТБМ.

1.5. ТБМ ажыццяўляе заканадаўчую ініцыятыву і ўдзельнічае ў выбарах у парадку, які вызначаны дзейным заканадаўствам.

1.6. ТБМ можа мець ва ўласнасці рухомую і нерухомую маёмасць дзеля ажыццяўлення статутных мэтаў і задач, за выключэннем аб'ектаў, якія згодна з законам могуць знаходзіцца толькі ва ўласнасці дзяржавы.

1.7. ТБМ мае сваю сімволіку і іншую атрыбутыку, якая зацвярджаецца Радай і рэгіструецца ў адпаведнасці з заканадаўствам.

1.8. Справаводства ў ТБМ вядзецца ў парадку, які вызначаны заканадаўствам. Адпаведная дакументацыя ў абавязковым парадку здаецца ў Дзяржаўны архіў.

1.9. У адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь ТБМ ажыццяўляе знешнеэканамічную дзейнасць, накіраваную на вырашэнне статутных мэтаў і задач.

1.10. ТБМ мае права выдавецкай дзейнасці і свой перыядычны друкаваны орган.

1.11. ТБМ можа ўступаць у міжнародныя грамадскія аб'яднанні, удзельнічаць у стварэнні міжнародных саюзаў, грамадскіх аб'яднанняў, падтрымліваць прамыя міжнародныя кантакты і сувязі, заключаць адпаведныя пагадненні і рабіць іншыя захады, якія не супярэчаць заканадаўству Рэспублікі Беларусь і яе міжнародным абавязацельствам.

1.12. Юрыдычны адрас ТБМ: 220005, г.Мінск, Румянцава, 13, тэл. 33-25-11, 33-13-52. Разліковы рахунак 700510, код 764 у Гардырэкцыі Белбізнесбанку г.Мінска, Валютны — № 00700704 у Банку Знешнеэканамічнай дзейнасці Рэспублікі Беларусь.

### 2. МЭТЫ, ЗАДАЧЫ І МЕТАДЫ ДЗЕЙНАСЦІ ТБМ

2.1. Першаступенная задача ТБМ — адраджэнне беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадскім і духоўным жыцці народа, пашырэнне яе ўжытку ва ўсіх сферах жыцця Рэспублікі Беларусь, усебаковае яе развіццё, вяртанне і захаванне яе чысціні і самабытнасці.

2.2. ТБМ мае на мэце садзейнічаць зберажэнню і развіццю нацыянальнай культуры і народных традыцый, гістарычнай памяці, фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці, пераадоленню нацыянальнага нігілізму, аказваць неабходную падтрымку ў сферы нацыянальна-культурнага развіцця беларусам, якія жывуць за межамі Рэспублікі Беларусь.

2.3. Адной са сваіх галоўных мэтаў і задач ТБМ лічыць адраджэнне на Беларусі нацыянальнай асветы, дашкольных установ і школ усіх тыпаў, забеспячэнне ўмоў для беспярапыннай адукацыі на беларускай мове.

2.4. Зыходзячы з суверэнных правоў народа, найменне якога замацавана ў назве дзяржаўнага ўтварэння, ТБМ удзельнічае ў распрацоўцы і ўвасабленні ў жыццё навуковай канцэпцыі адраджэння беларускай мовы, клапоціцца пра культуру літаратурнай мовы, яе адзінства і ўдасканаленне правапісу.

2.5. Таварыства выступае за пашырэнне культурных сувязяў беларусаў з народамі свету дзеля прапаганды беларускай і засваення здабыткаў сусветнай культуры, спрыяе развіццю непасрэднага перакладу ўсіх відаў літаратуры з замежных моў на беларускую і садзейнічае выкарыстанню беларускай мовы ў працы замежных прадстаўнікоў дзяржаўных органаў, установ, прадпрыемстваў і грамадскіх арганізацый Рэспублікі Беларусь.

2.6. Беспярашкодна атрымлівае і распаўсюджвае інфармацыю, якая мае дачыненне да дзейнасці ТБМ; заснoўвае ўласныя і карыстаецца ў вызначаным парадку дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі.

2.7. Прадстаўляе і абараняе правы і законныя інтарэсы сваіх сяброў у дзяржаўных, гаспадарчых і грамадскіх органах і іншых арганізацыях.

2.8. Утварае ў неабходных выпадках структурныя падраздзяленні і інш., ажыццяўляе вытворча-гаспадарчую дзейнасць, якая накіравана на вырашэнне статутных мэтаў і задач.

### 3. СТРУКТУРА, ВЫБАРНЫЯ ОРГАНЫ, УМОВЫ СТВАРЭННЯ АРГАНІЗАЦЫЙНЫХ СТРУКТУР ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

3.1. Вышэйшым кіраўнічым органам ТБМ з'яўляецца з'езд, які склікаецца не радзей як адзін раз на два гады.

З'езд прымае Статут і іншыя дакументы, уносіць у Статут змены і дапаўненні, выбірае старшыню ТБМ, Раду, Рэвізійную камісію і яе кіраўніка, заслухоўвае і зацвярджае справаздачу Рады і Рэвізійнай камісіі, зацвярджае рэдактара выдання, вырашае іншыя пытанні.

Нечарговы з'езд склікаецца Радай ці з патрабавання не менш, чым адной трэці раённых (гарадскіх) арганізацый ТБМ або Рэвізійнай камісіі.

Час і месца з'езда, норму прадстаўніцтва, парадак абрання дэлегатаў вызначае Рада ТБМ.

Рашэнні з'езда правамоцныя пры наяўнасці больш за 1/2 дэлегатаў. Парадак, форма і ўмовы галасавання вызначаюцца з'ездам.

3.2. Кіраўнічымі органамі ТБМ паміж з'ездамі з'яўляюцца:

— Рада, якая збіраецца не радзей, як два разы на год. Рада вырашае статутныя задачы ТБМ, выбірае сакратарыят, стварае іншыя рабочыя органы і камісіі, пры неабходнасці ўносіць змены і дапаўненні ў Статут;

3.3. Сакратарыят — выканаўчы орган, які працуе стала, выконвае пастановы і даручэнні з'езда і Рады, кіруе справамі ТБМ на падставе Статута ў межах правоў, нададзеных Радай.

3.4. Аснова ТБМ — першасныя суполкі і рэгіянальныя арганізацыі (абласныя, раённыя, гарадскія) арганізацыі. Суполкі ствараюцца па тэрытарыяльным і вытворчым прынцыпах, пры наяўнасці не менш чым трох сяброў ТБМ.

3.5. Суполкі могуць аб'ядноўвацца ў раённыя (гарадскія) арганізацыі пры наяўнасці не менш трох суполак.

3.6. Абласныя арганізацыі ТБМ ствараюцца пры наяўнасці не менш чым трох раённых (гарадскіх) арганізацый.

3.7. Вышэйшым органам рэгіянальных арганізацый (абласных, раённых, гарадскіх) з'яўляецца канферэнцыя, якая вызначае формы і метады іх работы і структуру выбарных органаў (рады, рэвізійнай камісіі), формы і ўмовы галасавання.

3.8. Мясцовыя арганізацыі ТБМ (абласныя, раённыя/гарадскія) маюць тыя ж мэты і задачы, дзейнічаюць у адпаведнасці з гэтым Статутам.

Азначаныя арганізацыі рэгіструюцца і каардынуюць сваю дзейнасць праз рэспубліканскія кіраўнічыя органы ТБМ.

3.9. Старшыня ТБМ валодае паўнамоцтвамі кіраўніка Таварыства як юрыдычнай асобы. Старшыня можа дэлегаваць паўнамоцтвы на вядзенне гаспадарча-фінансавай і іншай статутнай дзейнасці аднаму са сваіх намеснікаў.

3.10. Рэвізійная камісія:

— кантралюе дзейнасць выбарных органаў і структурных падраздзяленняў Таварыства;

— правярае арганізацыю справаводства, тэрміны і змест адказаў на лісты і заявы сяброў ТБМ і іншых грамадзян, кантралюе выкананне Статута сябрамі ТБМ.

Рэвізійная камісія ажыццяўляе сваю дзейнасць у адпаведнасці з Палажэннем, якое зацвярджаецца з'ездам ТБМ.

Пасяджэнні Рэвізійнай камісіі праводзяцца па меры неабходнасці, але не радзей чым 1 раз у паўгода.

Работай Рэвізійнай камісіі кіруе старшыня. Сябры Рэвізійнай камісіі не могуць абірацца ў іншыя выбарныя органы, а таксама займаць пасады кіраўнікоў і адказных спецыялістаў у структурных падраздзяленнях і іншых гаспадарча-разліковых структурах.

Сябры Рэвізійнай камісіі могуць удзельнічаць у пасяджэннях усіх выбарных органаў з правамі дарадчага голасу.

3.11. Пасяджэнні калегіяльных органаў афармляюцца пратаколамі.

3.12. Тэрміны паўнамоцтваў выбарных органаў — два гады. Тэрміны абрання сяброў ТБМ на кіраўнічыя пасады вызначаюцца з'ездам або іншымі кіраўнічымі органамі ТБМ.

### 4. СЯБРЫ ТБМ, ІХ ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ

4.1. Сябрам ТБМ можа быць кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, старэйшы за 16 гадоў, а таксама іншыя грамадзяне і асобы без грамадзянства, хто прызнае мэты ТБМ, спрые іх ажыццяўленню.

4.2. Вучні агульнаадукацыйных школ, маладзейшыя за 16 гадоў навучэнцы прафесійна-тэхнічных вучылішчаў і сярэдніх спецыяльных навучальных установ могуць аб'ядноўвацца ў юнацкія секцыі ТБМ.

4.3. Сябрамі ТБМ таксама могуць быць юрыдычныя асобы, якія дзейнічаюць праз сваіх прадстаўнікоў. Прадстаўнікі юрыдычнай асобы бяруць удзел у рабоце грамадскага аб'яднання на падставе службовых паўнамоцтваў альбо па даверанасці.

4.4. Прыём сяброў у склад ТБМ ажыццяўляецца першаснымі суполкамі, а пры іх адсутнасці адпаведнымі кіраўнічымі органамі на падставе пісьмовай або вуснай заявы. Прыём юрыдычных асоб у сябры ТБМ здзяйсняе сакратарыят на падставе пісьмовага звароту.

4.5. Сябрам ТБМ выдаюцца асабовыя пасведчанні і нагрудныя значкі. Узоры пасведчанняў і нагрудных значкоў зацвярджае Рада ТБМ.

4.6. Сябры ТБМ маюць права выбіраць, быць абранымі ва ўсе органы Таварыства, карыстацца яго маральнай і матэрыяльнай падтрымкай у межах магчымасцяў ТБМ.

4.7. Сябры ТБМ абавязаны:

— імкнуцца дасканала авалодаць беларускай мовай, карыстацца ёю ў штодзённым ужытку, у сям'і, на працы, тым самым спрыяць выхаванню паважлівага стаўлення да яе;

— дапамагаць іншым авалодаць беларускай мовай;

— прапагандаваць перыядычныя беларускія выданні, кнігі на беларускай мове, садзейнічаць адкрыццю беларускамоўных дзіцячых садоў і школ, спрыяць пераходу вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установ на беларускую мову;

— зберагаць, захоўваць і памнажаць скарбы беларускай літаратурнай мовы, а таксама клапаціцца пра захаванне, збіранне і вывучэнне мясцовых народных гаворак, тапонімаў, народнай тэрміналогіі;

— клапаціцца пра павышэнне культуры як уласнай пісьмовай і вуснай мовы, так і ў грамадскіх сферах жыцця;

— падтрымліваць ТБМ матэрыяльна.

4.8. Прыпыненне сяброўства ў ТБМ наступае:

а) па ўласным жаданні,

б) па рашэнні суполкі або адпаведных кіраўнічых органаў ТБМ у сувязі з парушэннем Статута, а таксама ў сувязі з учынкамі, якія шкодзяць аўтарытэту ТБМ.

### 5. МАТЭРЫЯЛЬНА-ФІНАНСАВАЯ АСНОВА ДЗЕЙНАСЦІ ТБМ

5.1. ТБМ мае свае сродкі, якія фарміруюцца:

— з узносаў сяброў ТБМ;

— з дабрачынных складак яго сяброў;

— з ахвяраванняў і іншых укладаў прыватных асоб, установ, прадпрыемстваў, кааператыўных гаспадарак, іншых арганізацый Рэспублікі Беларусь, а таксама замежных дзяржаў;

— з паступленняў ад правядзення лекцыйнай, выдавецкай і іншых відаў дзейнасці, не забароненых заканадаўствам;

— з даходаў ад вытворча-гаспадарчай дзейнасці.

5.2. Суполкі, рэгіянальныя арганізацыі штоквартальна або (са згоды сакратарыята) з іншай перыядычнасцю робяць адлічэнні на цэнтральны рахунак ТБМ ад сваіх фінансавых даходаў у памеры не менш як 25%.

5.3. Сродкі ТБМ ідуць на прапагандысцкую, арганізацыйную, гаспадарчую і іншую статутную дзейнасць на карысць нацыянальнай мовы і культуры.

5.4.Рада і сакратарыят ТБМ выконваюць свае абавязкі на грамадскіх асновах.

5.6. Памеры складак сяброў ТБМ вызначаюцца рашэннем Рады ТБМ.

### 6. СПЫНЕННЕ ДЗЕЙНАСЦІ ТБМ

6.1. Спыненне дзейнасці ТБМ ажыццяўляецца шляхам рэарганізацыі ці ліквідацыі па рашэнні 2/3 дэлегатаў з'езда або судовых органаў Рэспублікі Беларусь у парадку, прадугледжаным заканадаўствам.

6.2. Рэарганізацыя ТБМ адбываецца згодна з рашэннем з'езда, маёмасць і грашовыя сродкі пры гэтым пераходзяць да правапераемніка.

6.3. Ліквідацыя ТБМ ажыццяўляецца згодна з пастановай з'езда або на падставе рашэння судовага органа Рэспублікі Беларусь, якое ўступіла ў законную сілу.

6.4. Ліквідацыя ТБМ праводзіцца ліквідацыйнай камісіяй, створанай па рашэнні з'езда ці суда. Маёмасць і грашовыя сродкі ТБМ пасля пагашэння абавязковых плацяжоў і крэдыторскай запазычанасці накіроўваюцца на ажыццяўленне мэтаў, прадугледжаных Статутам.

*Уражанні*

# А Леніна ведаць трэба, «Товарищ»

Больш за 30 гадоў з'яўляўся актыўным членам КПСС — ажно да яе самаліквідацыі. Калі пачала выходзіць у свет газета «Товарищ», я спачатку яе купляў, затым выпісваў. Хацелася ведаць пазіцыю новых беларускіх камуністаў па асноўных праблемах сучаснасці. І што ж я ўбачыў? Што супрацоўнікі і аўтары «Товарища», калі меркаваць па іх публікацыях, выяўляюць поўнае няведанне тэорыі марксізму-ленінізму, у прыватнасці, прац У.Леніна па нацыянальным пытанні, яго адносінаў да беларусаў і беларускай мовы.

Першыя ўпаміны У.Леніна аб Беларусі адносяцца да 1895 г. У 1903 г. пры распрацоўцы першай праграмы партыі (РСДРП) Ленін сфармуляваў пункт аб праве нацый атрымліваць адукацыю на роднай мове (т.7, с.277), дзе сцвярджаецца, што пытанне аб мовах — гэта зусім не пытанне аб мовах, а пытанне адносін да нацыянальнай культуры і да носьбіта мовы — народа.

У 1911 г. у Расійскай імперыі адбыўся перапіс пачатковых школ, які выявіў, што заняткі ў іх праводзяцца выключна на расійскай мове. Ленін крытыкаваў вынікі гэтага перапісу, абураўся: дзе беларускія і ўкраінскія школы? Чаму дзеці не вучацца на сваёй роднай мове? На самай справе, пісаў Ленін, павінны быць не толькі расійскія школы, а і беларускія, украінскія і іншыя (т.24, с.195). Вялікадзяржаўныя нацыяналісты аб'явілі беларусаў і ўкраінцаў іншародцамі, не разумеючы таго, што Расія не можа быць дэмакратычнай, пакуль не прызнае беларусаў і украінцаў раўнапраўнымі нацыямі са сваёй культурнай спадчынай (т.24, с.325). Абаронцы вялікадзяржаўнай палітыкі, даводзіў Ленін, гарой стаяць за адзіную дзяржаўную расійскую мову, выключаючы з навучання беларускую, украінскую і іншыя. У.Ленін рэзка выступаў супраць падобных «абаронцаў» расійскай дзяржаўнасці, культуры і мовы. Гэтай тэме ён прысвяціў шэраг артыкулаў. Галоўныя з іх, на маю думку, наступныя: «Нужен ли обязательный государственный язык?», «Либералы и демократы в вопросе о языках», «О национальной гордости великороссов». Довады лібералаў ён назваў «вредными для России и лицемерными». Ленін разважаў так: расійская мова вялікая і магутная, таму яна павінна дапамагчы беларускай і ўкраінскай мовам развівацца: «Мы не хотим только одного, — элемента принудительности. Мы не хотим загонять в рай дубинами... Мы думаем, что великий и могучий русский язык не нуждается в том, чтобы кто бы то ни был должен был изучать его из-под палки... А принудительность (палка) приведет только к одному: она затруднит великому и могучему русскому языку доступ в другие национальные группы, а главное, — абострит вражду, создаст миллион новых трений, усилит раздражение, взаимонепонимание и т.д.» (т.24, с. 294—295).

Ставячы пытанне развіцця нацыянальных культур, У.Ленін, такім чынам, рэзка выступаў супраць вялікадзяржаўнага шавінізму, грэблівых адносін да асаблівасцей нацыянальных культур іншых народаў, недаацэнкі іх нацыянальных інтарэсаў. У.Ленін пераконваў: вялікадзяржаўнікі павінны зразумець, што кожная культура развіваецца на сваёй роднай нацыянальнай глебе ў сваіх гістарычных нацыянальных формах, увабраўшы ўсё багацце непаўторных нацыянальных фарбаў, лепшых традыцый, вызваленчых ідэй. Сацыял-дэмакраты павінны патрабаваць неадкладнага аднаўлення поўнай свабоды Украіны і Беларусі (т.34, с.299). Расійская культура, даводзіў Ленін, складаецца з дзвюх культур; культуры Раманавых, Бобрынскіх, Пурашкевічаў, якія выступаюць супраць развіцця культур украінцаў і беларусаў, і культуры, якая спарадзіла Радзішчава, Дабралюбава, сацыял-дэмакратаў, што разумеюць сэрцам прыгнёт беларусаў і ўкраінцаў царскім самадзяржаўем. Трэба разумець, што для ўкраінцаў і беларусаў нацыянальна-вызваленчы рух яшчэ толькі здзяйсняецца, абарона бацькаўшчыны з'яўляецца абаронай дэмакратыі, роднай мовы, палітычнай свабоды, свабоды друку, супраць прыгнечання з боку расійскай нацыі (т.30, с.89—90).

31 студзеня 1918 г. У.Ленін падпісаў дэкрэт аб стварэнні Беларускага Нацыянальнага Камісарыята, у задачу якога ўваходзіла садзейнічаць культурнаму і нацыянальна-дзяржаўнаму будаўніцтву народа, развіццю мовы. Прадстаўнік Беларускага Нацыянальнага Камісарыята меў права дарадчага голасу на пасяджэннях Савета Народных Камісараў, на якіх разглядаліся пытанні, што датычылі інтарэсаў беларускага народа.

Як зараз бачым, у Леніна бралі тое, што каму было выгадна. А 150 яго работ, дзе ідзе гаворка пра беларусаў і мову, здадзены ў архіў.

З сумам і абурэннем сёння прыгадваю вядомую заяву ў Белдзяржуніверсітэце «ленінца» Хрушчова аб тым, што «кто раньше овладеет русским языком, тот раньше придет к коммунизму». Пасля ад'езду Хрушчова з Беларусі наш урад атрымаў тэлеграму міністра культуры СССР Фурцавай аб пераводзе ВНУ, тэхнікумаў, вучылішчаў на расійскую мову навучання. На такой пазіцыі стаіць і рэдакцыя «Товарища». Прадстаўнікі «новых» беларускіх камуністаў не любяць беларускую гісторыю, беларускую культуру, беларускую мову, усё беларускае. Мяркую, што прыйшоў час стварыць у Беларусі дзейсную камуністычную партыю, якая б па-ленінску бараніла права беларускай дзяржавы на незалежнасць, гонар і свабоду беларускага народа, свабоднае развіццё ягонай культуры.

**Леанід ЦЫГАНКОЎ.**

Аля ТАКІНДАНГ

# Спатканне ў ліцэі

На вуліцы Кірава ў зацішным куточку месціцца непрыкметны будынак былой партыйнай школы. І наколькі гэтая будова незаўважная звонку, настолькі ж, яшчэ пакуль, незвычайная знутры тым, што ўсюды чуецца выключна беларуская мова. І пажылыя прыбіральшчыцы, і вахцёры, і сучасныя, модна апранутыя навучэнцы, і паважаныя выкладчыкі нязмушана і натуральна гавораць па-беларуску. Зразумела, я не магла ўтрымацца і разгаварылася з адной з ліцэістак. Даведалася, што ўсе гэтыя людзі — адзіны калектыў Беларускага гуманітарнага ліцэя, што ліцэй працуе з 1991 г. Займаюцца тут з 8 па 11 клас прыкладна 160 навучэнцаў. Прымаюць толькі тых, хто вытрымае конкурс з 3-х і больш чалавек. Уступныя экзамены па гісторыі Беларусі, дыктоўка па беларускай мове і сумоўе.

Ліцэістам «дазваляецца» мець не больш як дзве здавальняючыя гадавыя адзнакі па гуманітарных прадметах, інакш — адлічэнне, што, на жаль, з некаторымі і адбываецца.

Асноўная накіраванасць і мэта ліцэя бачна з яго назвы — гуманітарная адукацыя на роднай мове. Выхаванне будучай беларускай інтэлігенцыі.

Зрэшты, знаёмцеся: вучаніца 11 класа згаданай навучальнай установы Насця Падаляка.

**— Скажыце, калі ласка, што паўплывала на вашае рашэнне пайсці вучыцца ў гуманітарны ліцэй?**

— Калі я вучылася ў школе, то мне хацелася мець адукацыю па ўсіх прадметах на роднай мове, але там гэта было немагчыма. І таму я адначасова займалася ў нядзельным ліцэі, дзе заняткі праводзіліся раз на тыдзень па асноўных гуманітарных прадметах. Нядзельны ліцэй дае добрую падрыхтоўку, каб паступіць вучыцца стацыянарна. Пазаймаўшыся тут паўгода, я змагла паспяхова здаць экзамены. І вось з 1992 г. — я студэнтка Беларускага гуманітарнага ліцэя.

**— Вы сказалі, што хацелі вучыцца па-беларуску. Як узнікла такое жаданне? Гэта даніна часу ці нейкія Вашыя асабістыя прынцыпы і перакананні?**

— Я думаю, што ўсё пачалося з сям'і. Мая маці заўсёды была цудоўнай гаспадыняй, гасціннай і дабразычлівай. Дзякуючы ёй у нас дома прыемна і ўтульна, сюды часта прыходзілі разумныя інтэлігентныя людзі, у асноўным бацькавы сябры. Бацька ж мой, Уладзімір Сымонавіч Падаляка, быў у свой час даволі вядомым спартсменам, шмат ездзіў па свеце, сустракаўся з самымі рознымі людзьмі. У яго вялікае кола інтарэсаў; ён цікавіцца мастацтвам, літаратурай, археалогіяй, гісторыяй роднага краю. І бацька заўсёды хацеў, каб мы з братам выраслі свядомымі беларусамі.

**— Ну вось Вы прыйшлі сюды вучыцца. Якія былі Вашыя першыя ўражанні? Ці не напаткала Вас расчараванне?**

— Не, я не расчаравалася! Наадварот, мяне сустрэла прыемная неспадзяванка. Атмасфера тут была зусім іншай, чым у школе. Здзівіла тое, што вучні свабодна трымаюцца адзін з адным, з выкладчыкамі. Паміж вучнямі і настаўнікамі — атмасфера сяброўства. І гэта ўсё не выглядае штучна, а вельмі натуральна. Настаўнікі лічацца з асабістымі меркаваннямі вучняў, адчуваецца, што яны аб'яднаныя адной ідэяй, што аднадумцы. Не дзіўна, што ў ліцэі няма атмасферы прыгнечанасці і маральнага ціску. У сярэдняй школе былі іншыя дачыненні, там не было калектыву, а тут такое адчуванне — як быццам нас спецыяльна падбіралі не толькі па адзнаках, але і па маральных рысах — так шмат у нас агульнага.

**— А калі гаварыць пра методыку выкладання. На Вашу думку, Насця, ці ёсць істотная розніца паміж школай і ліцэем?**

— Несумненна! Па -першае, настаўнік дае тут цікавыя звесткі, якіх няма ў падручніку. Па-другое, усе лекцыі мы канспектуем. Форма нашых заняткаў падобная да ВНУ, большасць прадметаў ідзе па парах. Нашыя выкладчыкі — людзі, якія займаюцца навуковай працай, працуюць у ВНУ. Сярод іх такія вядомыя навукоўцы і літаратары, як Люба Тарасюк, Міхась Тычына, Анатоль Сідарэвіч.

**— А як праходзяць заняткі па мове і літаратуры?**

— Беларускую мову і літаратуру вядуць розныя выкладчыкі. На апошнім курсе на беларускай мове ў групе 9—10 чалавек (адна група разбіваецца яшчэ на падгрупы). І таму выкладчык паспявае займацца з кожным вучнем.

Можа таму, што літаратуру выкладаюць у нас у асноўным творчыя людзі, многія студэнты і самі спрабуюць сілы ў паэзіі і прозе. Тым больш, што заўсёды можна атрымаць кансультацыю і параду.

**— Можа, і Вы таксама пішаце вершы ці прозу?**

— Мяне больш цікавіць проза.

**— Скажыце, а што яшчэ адрознівае ліцэй ад школы, апрача методыкі выкладання? Можа, тут ёсць нейкія дадатковыя прадметы, якія не вывучаюцца ў школе?**

— Так, мы вывучаем асновы логікі, асновы філасофіі, асновы рэлігіязнаўства, асновы права-знаўства, гісторыю беларускага дойлідства, гісторыю этнаграфіі і фальклору Беларусі. У агульны курс гісторыі культуры ўваходзіць гісторыя тэатра, кіно, музыкі. Часам лекцыі ў нас цягнуцца да 18 гадзін. Паколькі ўсе гэтыя прадметы ўваходзяць у навучальную праграму, то няма патрэбы ў дадатковых факультатывах.

**— Вядома, што цяпер асаблівая ўвага надаецца вывучэнню замежнай мовы. Ці адчуваецца гэта ў вашым ліцэі?**

— Канешне. Наш ліцэй дае магчымасць атрымаць грунтоўныя веды па замежных мовах. Ліцэісты вывучаюць дзве абавязковыя мовы, а трэцюю — па жаданні. У кожнага адна ас-ноўная замежная мова — французская, англійская, нямецкая альбо іспанская. На асноўную мову адво-дзіцца 3 гадзіны на тыдзень. Прапануюцца і дадатковыя мовы — польская, чэшская, лацінская, англійская ці нямецкая (апошнія для тых, у каго асноўная мова іншая). На дадатковую мову адводзіцца 4 гадзіны на тыдзень. У групах па вывучэнні замежнай мовы не больш за 8 чалавек.

Асабіста мне ліцэй даў магчымасць карыстацца англійскай мовай на практыцы. Часта да нас прыязджаюць нашыя равеснікі з замежжа, і мы маем добрую моўную практыку.

**— Сёлета, Насця, Вы заканчваеце ліцэй, калі гэта не сакрэт, то падзяліцеся сваімі планамі на будучыню?**

— Зараз я пакуль не вырашыла, куды пайду вучыцца. Але шмат пра гэта думаю. Тым больш, што ліцэй даў мне магчымасць шырокага выбару для паступлення. Нашыя выпускнікі вучацца на журфаку, гістфаку, філфаку БДУ, у педагагічным універсітэце, у Акадэміі мастацтваў. Але, на жаль, мы не маем такіх прывілеяў, як нашыя папярэднікі, бо раней выпускныя экзамены ў ліцэі былі адначасова і ўступнымі ў ВНУ.

**— А што б Вы хацелі сказаць будучым ліцэістам, якія прыйдуць вучыцца пасля вас?**

— Мяркую, што наш ліцэй — гэта яшчэ адзін крок да праўдзівага адраджэння Беларусі. Тут выхоўваюцца шчырыя патрыёты і адукаваныя людзі. Хацелася б, каб пра гэта памяталі тыя вучні, якія прыйдуць сюды пасля нас.

**— Дзякуй вялікі, Насця! І поспехаў табе ў жыцці.**

# *Ахоўвайце, людзі, мову сваю!*

Мне было сорамна і балюча за наш беларускі народ, калі Прэзідэнт віншаваў нас з Новым 1995 годам на недзяржаўнай, расійскай мове. Я не мог зразумець: гэта здзек ці выразная палітыка. Зразумеў пазней, калі кіруючыя асобы пачалі напорыста выступаць супраць беларускай мовы, не звяртаючы ўвагі на тое, што гэта супярэчыць поглядам большасці творчай інтэлігенцыі — цвету нацыі. У мяне такое ўражанне, што нас зноў заганяюць у «калхоз» з такой паспешнасцю, як калісьці бальшавікі, пры гэтым кажучы, што сяляне ўступаюць туды добраахвотна. Так і цяпер — кажуць, што няма супрацьстаяння. Не, супрацьстаянне ёсць і будзе.

Я інжынер. Вучыўся і доўга працаваў за мяжой Беларусі. Але калі вярнуўся на радзіму, я, перш за ўсё, вярнуўся да роднай мовы. На жаль, гэтай цудоўнай мовай мала карыстаюцца нашыя людзі — прычыны вядомыя.

Сярод маіх калег нямала расійцаў. Шмат хто разумее: калі іх дзеці, унукі нарадзіліся ў Беларусі — тут іх радзіма, яны павінны ведаць яе мову, гісторыю, культуру. Але ёсць нямала людзей — беларусаў, расійцаў, украінцаў, — якія жывуць, як кажуць, сённяшнім днём, таму паспешліва вырашэнне пытання аб мовах можа даць сумныя вынікі.

Я лічу, што ахова мовы нацыі нагадвае ахову сваіх варотаў хакеістамі, таму што без яе, мовы, нацыя поспехаў дабіцца не зможа.

**Антон МАНКЕВІЧ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## Першы нумар «Рэгіянальнай газеты» — беларускамоўны!

У Маладзечне пачала выходзіць «Рэгіянальная газета» — сціплы, фарматам «раёнкі», штотыднёвік. Ды нягледзячы на ўсю яго сціплую танклявасць, «Рэгіяналка» мае цэлы шэраг пераваг перад сваімі правінцыйнымі «сёстрамі». Па-першае, выкарыстоўваючы адраснасць, «Рэгіянальная газета», як інфармацыйна-рэкламная, выпускаецца для ўмацавання міжгаспадарчых сувязяў і чалавечых кантактаў жыхароў Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Ашмянскага, Валожынскага, Мядзельскага, Астравецкага раёнаў і г.Менска. Па-другое, газета не стараецца адназначна заняць палітычную пазіцыю нейкай партыі ці руху. І калі журналіст Міраслаў Гром выказвае свае крытычныя адносіны да святкавання першамая на Беларусі . («Я не люблю гэты дзень»...), то гэта не азначае, што калега, скажам, прапагандуе тут погляды БНФ і не падзяляе прыхільнасці да 1 Мая БСДГ ці ПКБ. Аўтар даводзіць: сёлета ў рэспубліцы па афіцыйных звестках колькасць беспрацоўных дасягнула лічбы 109235 чалавек. У тым ліку ў Менску — 9190, Маладзечне і раёне — 2560, Менскай вобласці — 21160, Гродзенскай — 12434 чалавекі. А колькі, акрамя зарэгістраваных беспрацоўных, уваходзіць у «рэгіён» прыхаванага беспрацоўя на прадпрыемствах, што тыднямі стаяць без усялякага руху... Дык якое ж тут «свята працы»?

«РГ» друкуе ў асноўным інфармацыю, нядужа вялікую па аб'ёму. Прычым, інфармацыю, якую будзе чытаць любы па сваіх палітычных перакананнях чалавек. Вось толькі загалоўкі некаторых матэрыялаў: «Будуем царкву. Жывём у згодзе» (рубрыка «Суграмадзяне»); «Ці пагуляем сёлета на фестывалі?» (пра верагоднасць таго, што сёлета ў Маладзечне не адбудзецца трэці Рэспубліканскі фестываль беларускай эстраднай нацыянальнай песні і паэзіі); «Галоўнаму кантралёру-рэвізору ў рэгістрацыі адмоўлена» (рубрыка «Сенсацыя»); «Скачок без парашута...» (рубрыка «Нашы знаёмствы»); «Злодзей-вартаўнік» (рубрыка «Крымінал»).

Ухвальна, што, арыентуючыся на масавага чытача, «РГ» тым не менш выпускаецца на беларускай мове. Акрамя тыднёвай праграмы тэлебачання, усё тут друкуецца па-беларуску. Так што ў нашай нацыянальнай журналістыцы — папаўненне, з чым «Наша слова» віншуе і «Рэгіянальную газету», і ўсіх калег-газетчыкаў краіны.

У заснавальніках выдання: рэдактарат «РГ», ЗАТ «Інтэрмаркет», фірма «Фаварыт». Рэдактар газеты — вопытны журналіст Аляксандр Манцэвіч, выканаўчы дырэктар — Ігар Вейс, прадстаўнік «Інтэрмаркета» ў Вілейцы. Рэдакцыя знаходзіцца ў Маладзечне: 222310, вул. Хмяльніцкага, 22 А, фірма «Фаварыт», тэлефон — 52-9-53.

**Грамадска-культурны аддзел «НС».**

# В Е Р У Е М

## Атрыбуты Боскага пачатку...

***Прапануем чытачам гутарку нашага карэспандэнта са старшынём Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў Матрунчыкам Мікалаем Аляксандравічам.***

**— Мікалай Аляксандравіч, адразу з самой назвы Брацтва ўзнікла пытанне — чаму «мучанікаў» — не «пакутнікаў»?**

— У царкоўным ужытку ёсць строга зафіксаваная сістэма вызначэння святых. Мучанік — той, хто за свае хрысціянскія перакананні быў фізічна закатаваны. Слова ж «пакута» не супадае па сэнсавым напаўненні з царкоўнаславянскім «мучэнне». Пакута можа быць духоўная. Гэтак жа называюць часам епіцім'ю, накладзеную духаўніком. А ў народзе, калі хто стоміцца, кажуць: «Я змучыўся». Фізічная стома, адпаведнасць фізічнаму стану — вось што вызначае ўжытак менавіта гэтага слова.

**— Як узнікла Брацтва?**

— У 1991 годзе, у снежні, вакол настаяцеля толькі што адкрытага прыходу Петрапаўлаўскага сабора а.Георгія Латушкі пачалі збірацца прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі. Для арганізацыі гэтых людзей найлепшым чынам адпавядала форма брацтва. З беларускай гісторыі ведаем, што праваслаўныя брацтвы былі ў нас традыцыйнымі. Да таго ж Петрапаўлаўскі сабор у XVII ст. быў у лучнасці з Віленскім Святадухавым Брацтвам. І вось мы па пераемнасці ўсвядомілі сябе Брацтвам і братчыкамі. На свята Багаяўлення, 19 студзеня 1992 г., пачалося наша брацкае жыццё. Духоўнымі патронамі абраныя Віленскія Мучанікі Антоній, Іаан і Яўстафій.

Брацтва — арганізацыя рэлігійная, як царкоўны прыход, кляштар. «Братчыкі» падзяляюцца на некалькі групаў: тыя, хто прафесійна працуе ў Брацтве — займаецца, напрыклад, выдавецкай дзейнасцю; тыя, хто актыўна супрацоўнічае з Брацтвам, і вялікае кола сімпатызуючых, прыхільнікаў з ліку інтэлігенцыі — пісьменнікі, мастакі, навукоўцы. З імі мы падтрымліваем шчыльныя сувязі, запрашаем на брацкія споведзі. Гэтыя споведзі адбываюцца падчас Вялікага і Каляднага посту, у Кафедральным саборы. Увесь чын перакладзены на беларускую мову, і ўся споведзь ідзе па-беларуску.

**— А як увайсці ў Брацтва?**

— Напачатку трэба наведваць царкву, быць дастаткова ўцэркаўлёным чалавекам. Калі ж такі чалавек прымае нашы духоўныя каштоўнасці, мэты Брацтва, ён не можа застацца па-за ім... Кожнаму даецца сваё паслушэнства, любыя таленты паслужаць святой справе.

**— Аснову Брацтва складае інтэлігенцыя. Але ж чалавеку інтэлігентнаму, адукаванаму цяжэй прыйсці да веры, бо ён прывык усё павяраць розумам...**

— Так, сучаснаму інтэлігенту цяжэй пераадолець сваю асабовасць, перагледзець творчыя набыткі, заснаваныя на свецкай дзейнасці. Але ёсць іншы шлях — адданасці вышэйшаму ідэалу. Гэты шлях патрабуе ад чалавека ўзнесціся над сабою, але і дае трывалы грунт для выяўлення асобы. Інтэлігентны чалавек усведамляе веру інакш, чым «просты» вернік. У яго душы злучаюцца каштоўнасці свецкай культуры з каштоўнасцямі вечнымі, хрысціянскімі. Гэта ўнутраная сімфонія — у ідэале. Ёсць і іншы фактар. Сумленны творца лічыць сваім абавязкам праз сваю творчасць умацоўваць беларушчыну ў праваслаўі. Напрыклад, Анатоль Клышка пераклаў Акафісты Святым Мучанікам Віленскім, Алесь Разанаў дапамагае знаходзіць новыя словы для перакладаў, мастачка Антаніна Лапіцкая афармляе ўсе нашы выданні...

**— Дарэчы, пра беларушчыну ў праваслаўнай традыцыі... Вы ж ведаеце, многія вінавацяць праваслаўе ў русіфікатарскай палітыцы...**

— Царква не можа быць сацыяльна-культурнай структурай. Яе прызначэнне — быць містычным Целам Хрыстовым, дзе адбываюцца незразумелыя чалавечаму розуму Таінствы. Але Царква прымае вялікія каштоўнасці нацыянальнай культуры, традыцыі, мову, бо гэта ёсць атрыбуты Боскага пачатку. Ці Царква мусіць мяняцца да гэтых каштоўнасцяў? Ці, увайшоўшы ў царкоўнае ўлонне, не парушаючы яго лад, прыўносіць свае каштоўнасці? Ніколі не будзе само гэтае містычнае Цела Хрыстова супраць такога прыўнясення. Царкоўныя ўлады ніколі не забаранялі нам займацца беларусізацыяй царквы. Некаторым людзям здаецца, што праваслаўная царква не адпавядае мэтам Адраджэння. А мне здаецца, што гардыня не зломленая ў гэтых людзей, і царква не прымае іх у сваё ўлонне. Каб нешта змяніць, трэба самім змяніцца. Царква не можа будавацца на ідэі, няхай і ўзнёслай. Інтэлігенцыя, якая б хацела стварыць сваё, нацыянальнае, забывае, што жыве сярод народа, які цалкам не ўсвядоміў сябе як нацыю, і спрыяць гэтаму ўсведамленню праз царкву — ёсць задача інтэлігенцыі. Праваслаўе — гэта не менавіта Масква. Праваслаўе ёсць ва ўсім свеце — і ў Афрыцы, і ў Амерыцы, і ў Заходняй Еўропе. На Беларусі яно набыло выразныя нацыянальныя рысы, адметныя ад расійскага абраду. А пра дзейнасць Брацтва, міжнародныя імпрэзы найлепш раскажа іх удзельнік **Яўген Грамыка,** сябар Брацтва, студэнт багаслоўскага факультэта Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта.

**— Яўген, на тваёй куртцы — значок з Пагоняй і нашыўка з бел-чырвона-белым сцягам... Ты размаўляеш па-беларуску... Адначасова ты — праваслаўны вернік. Напэўна, беларушчына для цябе сапраўды каштоўнасць ад Бога... А як ты, яшчэ зусім малады, прыйшоў да веры?**

— Да белага — праз чорнае... У сям'і маёй вернікаў не было. Цяпер хіба маці пад маім уплывам уверавала. А так — цікавіўся экстрасэнсорыкай, НЛА і г.д. Пераканаўся, што ёсць вышэйшая сіла над намі. На Вялікдзень 1990 года першы раз прыйшоў у царкву. Праз год хрысціўся. Факультэт, на які я паступіў, рыхтуе людзей, якія будуць займацца і грамадскай дзейнасцю на карысць Царквы — напрыклад, выдавецкай справай, перакладам Святога Пісання, і святароў. Вучацца ў нас і дзяўчаты. На беларускай мове выкладаюцца два прадметы — «Гісторыя і культура Беларусі» і «Беларуская мова ў сям'і славянскіх моў».

**— Раскажы пра імпрэзы Брацтва, у якіх ты браў удзел.**

— Кожны год брацтва запрашае на лета студэнтаў — хрысціян з розных краін Заходняй Еўропы выкладаць англійскую мову для ўсіх жадаючых. Я апекаваўся гасцямі, тым больш што ведаю англійскую мову — скончыў спецшколу. У ліпені мінулага года з сябрамі брацтва ездзіў у маладзёжны летнік у Белавежу на Беласточчыне. Туды прыехалі прадстаўнікі Польшчы, Шатландыі... У гэтым годзе напрыканцы лютага хрысціянская моладзь усяго свету сабралася на семінар, які праводзіла ў нас сусветнае праваслаўнае Брацтва «Syndesmos» («Супольнасць»). Зараз збіраюся ехаць у горад Лявоча ў Славакіі. Там будуць курсы для лідэраў маладзёжных меншасцяў. Наша брацтва — меншасць. Людзей праваслаўнай веры, якія б хацелі ўвасабляць беларускую культуру, мала. Я буду прэзентаваць там наша Брацтва, каб голас беларуса прагучаў у Еўропе.

Магу яшчэ дадаць, што ад пачатку праваслаўная вера на нашай зямлі ішла з Усходняй Еўропы, з Канстанцінопаля. На нашых землях склалася поле праваслаўнай ментальнасці, не тоеснае Маскоўскай традыцыі. І толькі ў канцы XVIII ст., калі нас паглынула Расійская імперыя, пачаўся ўплыў з боку Расіі. А розніца вельмі адчувальная — асабліва, скажам, тады, калі на семінарах сустракаюцца святары з Беласточчыны і з Масквы... Розначасць нават у перакананнях.

**— Напэўна, гэта і ёсць прыкметы нацыянальнай царквы. І ад нас залежыць — ці будзе яна, ці станецца сапраўды нацыянальнай... Няхай дапаможа нам Бог.**

**Распытвала**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ.**

# Беларуская мова мусіць станавіцца моваю царквы...

***Вынікі і практычныя рэкамендацыі семінара «Спадчына святых братоў Кірылы і Мяфодзія і славянскія мовы»***

З 30 верасня да 1 кастрычніка ў Менскім Епархіяльным Упраўленні адбыўся навукова-практычны семінар «Спадчына святых братоў Кірылы і Мяфодзія і славянскія мовы». Гэтае мерапрыемства праводзілася з благаславення Мітрапаліта Менскага і Слуцкага Філарэта па ініцыятыве Беларускага Экзархата і Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў.

Семінар аб'яднаў навукоўцаў і багасловаў Беларусі, Польшчы, Расіі для абмеркавання шырокага кола праблемаў гісторыі сучаснага стану мовы, пісьменства і культуры ў кантэксце традыцыі і цяперашняга стану царкоўнага жыцця Беларусі.

Асаблівая ўвага была нададзена **перакладам на сучасную беларускую мову Святога Пісання, богаслужбовых тэкстаў, духоўна-асветнай і жыццяпіснай літаратуры**.

Удзел у семінары бралі 36 чалавек, сярод іх святары, навукоўцы АНБ, БДУ, Беларускага універсітэта культуры, Беларускага дзяржаўнага лінгвістычнага універсітэта, выкладчыкі Менскай Духоўнай Семінарыі, перакладчыкі, пісьменнікі, члены Біблійнай камісіі Беларускага Экзархата. Было заслухана 21 выступленне.

Вынікам сумеснай працы сталі наступныя тэарэтычныя абагульненні і практычныя рэкамендацыі:

I. Перш за ўсё была адзначана духоўная і культурная каштоўнасць спадчыны святых братоў Кірылы і Мяфодзія ва ўсіх яе формах і праявах. Як найкаштоўнейшая частка іх спадчыны разглядалася царкоўнаславянская мова. Удзельнікі семінара былі адзінадушныя ў наступным:

а) Захаванне ў царкоўным ужытку царкоўнаславянскай мовы з'яўляецца неабходнай асновай для дасканалага выкладання праваслаўнага багаслоўя, для адпаведнага і благадатнага выканання літургічнага кола царкоўных службаў, для нескажонага раскрыцця высокай духоўнасці хрысціянскай маралі.

б) Багацце царкоўнаславянскай мовы не павінна ігнаравацца на шляху развіцця сучаснай беларускай мовы ў накірунку фармавання высокага стылю. **Беларуская мова мусіць станавіцца моваю царквы і быць здольнай да раскрыцця глыбіні праваслаўнага богаслужэння.**

II. **Удзельнікі семінара ўхвалілі актывізацыю выданняў беларускай праваслаўнай літаратуры ў Беларусі і замежжы** (найперш «Беларускага Праваслаўнага Календара», газеты «Царкоўнае слова», часопіса «Праваслаўе ў Беларусі і сьвеце», «Службоўніка») **і адзінадушна падтрымалі неабходнасць перакладу Святога Пісання і царкоўных тэкстаў, які выконваецца Біблійнай камісіяй Беларускага Экзархата.**

Разам з тым, ухваляючы вынікі перакладу, здольныя сапраўды спрыяць нацыянальнаму атаясамленню беларусаў і станаўленню мовы нашага народа як духаноснай, удзельнікі семінара звярнулі ўвагу на неадпаведнасць гэтым мэтам павярхоўнага, «неўцаркоўленага», чыста літаратурнага і выключна аўтарскага падыходу. Падкрэслівалася, што ў будучых перакладах абавязкова павінен улічвацца сучасны вопыт перакладу Святога Пісання ва ўсіх памесных Праваслаўных Цэрквах, асабліва славянскіх.

III. Асноўную нагрузку па выкананні гэтай працы можа ўзяць на сябе Лабараторыя Царкоўнай гісторыі і Выдавецкі аддзел Беларускага Праваслаўнага Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў пад духоўнай апекай Беларускага Экзархата. Адначасова Брацтва заклікала да сумеснай дзейнасці падобныя структуры ў Беларусі і праваслаўнай дыяспары, а таксама іншыя зацікаўленыя ўстановы і арганізацыі.

Першачарговымі задачамі ў гэтым накірунку з'яўляюцца:

складанне пашыранага «Зводу імёнаў святых», першы варыянт якога на семінары быў абмеркаваны;

**падрыхтоўка да выдання «Беларускага слоўніка багаслоўскіх тэрмінаў»**;

выданне зборніка «Багаслоўская думка» ў якасці дадатку да часопіса «Праваслаўе ў Беларусі і сьвеце».

IV. Апрача таго, удзельнікамі семінара было ўзнята пытанне аб недапушчальнасці існуючай практыкі безадказнага выдання літаратуры хрысціянскага зместу дзяржаўнымі і камерцыйнымі выдавецтвамі. У сувязі з гэтым была выказана прапанова аб стварэнні пры Беларускім Экзархаце спецыяльнай дарадча-кансультацыйнай камісіі, якая б давала абавязковую экспертную адзнаку падрыхтаваным да друку ў любым выдавецтве Беларусі рэлігійным выданням.

V. Беручы пад увагу важнасць і шматаспектнасць закранутай праблематыкі, віталася прапанова арганізатараў праводзіць падобныя семінары сістэматычна, запрашаючы для ўдзелу ў іх зацікаўленых даследчыкаў і багасловаў. У прыватнасці, прызнана неабходнасць правядзення наступнага семінара (у лютым-сакавіку 1995 г.), прысвечанага:

а) пошукам і выпрацоўцы асноўных прынцыпаў і шляхоў праваслаўнага перакладу Святога Пісання, багаслоўскіх і літургічных тэкстаў;

б) складанню праваслаўнага багаслоўска-літургічнага слоўніка **для ўнармавання ўжывання беларускай мовы ў царкоўным жыцці**.

**Аргкамітэт па правядзенні семінара.**
Менск, 01.10.1994 г.

## *Да 150-годдзя з дня нараджэння Яна Чэрскага*

*Валеры АНОШКА, Міхась БРЫЛЕЎСКІ*

# Нашы славутыя землякі — даследнікі прыроды і землепраходцы

*У Менску 22—24 траўня адбудзецца міжнародная навуковая канферэнцыя, прысвечаная нашаму земляку Яну Чэрскаму. Публікацыю матэрыялаў пра славутага геолага пачынаем артыкулам пра беларусаў, якія даследавалі невядомыя краі.*

Апошні час мы ўсё часцей сталі звяртацца да гісторыі Бацькаўшчыны. З небыцця да нас вяртаюцца імёны грамадскіх дзеячаў, паэтаў і пісьменнікаў, мастакоў і вучоных. Але адшукаць гэтыя звесткі вельмі цяжка, бо большасць іх знаходзіцца ў архівах Польшчы, Летувы і Расіі. Навуковыя працы нашых землякоў захоўваюцца ў славутых бібліятэках іншых краін, ды і друкавалася большасць з іх не на Беларусі, а ў Заходняй Еўропе і ў Расіі, вельмі часта на замежных мовах.

У гэтым артыкуле нам хацелася б закрануць адну старонку гісторыі Беларусі і нагадаць пра тых знакамітых даследнікаў і землепраходцаў, нашых землякоў-прыродазнаўцаў, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё геаграфічных ідэй не толькі нашай краіны, але і свету, якія праводзілі свае падарожжы і даследаванні ў розных кутках планеты і пакінулі пасля сябе навуковыя працы і проста апісанні экзатычных краін, свае імёны на геаграфічных картах і карты невядомых тэрыторый. Але ці шмат мы пра іх ведаем? Не, прозвішчы выхадцаў з Беларусі, якія здзейснілі шмат захапляючых падарожжаў і праславілі сябе цікавымі працамі ў розных галінах прыродазнаўства, этнаграфіі, краіназнаўства, амаль невядомы нават спецыялістам. Яны не былі прафесіянальнымі географамі, а хутчэй даследнікамі прыроды, высокаадукаванымі людзьмі, людзьмі еўрапейскай культуры, якія змаглі праявіць свой талент у розных, нават самых цяжкіх умовах жыцця.

Дзякуючы карпатлівай працы Валянціна Грыцкевіча, Адама Мальдзіса і іншых даследнікаў, а таксама ўвазе да гэтага Геаграфічнага таварыства Беларусі ў апошні час з'явіліся матэрыялы, якія дазваляюць атрымаць дакладныя звесткі пра нашых славутых землякоў, пра іх навуковыя працы і дасягненні. Па розных прычынах траплялі за межы Беларусі нашы землякі. Хто па сваёй волі падарожнічаў, а хто вымушаны быў эмігрыраваць, хавацца ад праследаванцаў альбо знаходзіўся ў ссылцы. Прыемна адзначыць, што нават дзеці і ўнукі беларусаў, якія апынуліся далёка ад радзімы, працягвалі іх справу і заставаліся высокакультурнымі, адукаванымі людзьмі-беларусамі.

Не абышла бокам нашу Беларусь эпоха вялікіх геаграфічных адкрыццяў. Нашы землякі таксама ўдзельнічалі ў падарожжах і паломніцтвах і пакінулі цікавыя апісанні ўбачаных зямель. На самы канец XIV ст. прыпадае паломніцтва Ігнація Смалянiна ў Канстанцінопаль, Іерусалім, Грэцыю. Мы памятаем са школьнай гісторыі «Хаджэнне за тры моры Афанасія Нікіціна» і нічога не ведаем пра «Хаджэнне Ігнація Смалянiна», які быў адным з першых славянскіх падарожнікаў, апісаўшых малаазіяцкае ўзбярэжжа.

А што мы ведаем пра «Падарожжы Мікалая Крыштафа Радзівіла» — нясвіжскага князя, больш вядомага пад прозвішчам Сіротка? У канцы XVI стагоддзя ён наведаў Усходняе Міжземнамор'е, апісаў прыроду і гаспадарку краін, народныя звычаі. Ён увогуле быў вельмі адукаваным і няўрымслівым чалавекам. Чаго варта складзеная ім разам з Т.Макоўскім «Радзівілаўская карта Вялікага Княства Літоўскага», якая на працягу доўгіх гадоў была самай дакладнай і поўнай картай нашай Радзімы і ўзорам сусветнага картаграфавання вялікіх тэрыторый.

У сярэдзіне XVIII ст. на Балканах і ў Турцыі працавала лекарам наша землячка Саламея-Рэгіна Русецкая. І хоць яна была лекарам, але яе дзённік, які быў надрукаваны пазней, стаў цікавым і своеасаблівым геаграфічным дакументам, з падрабязным апісаннем прыроды краін Блізкага Усходу, побыту і звычаяў жыхароў Турцыі. Крыху пазней прадстаўнік старажытнага княжага роду Аляксандр Сапега пабываў у Істрыі, Далмацыі і Герцагавіне. Яго пісьмы з апісаннем прыроды даследуемага краю, эканомікі і мясцовага насельніцтва склалі кнігу, якая выдавалася тройчы.

Шмат прадстаўнікоў беларускага народа пасля шматлікіх войнаў з Масковіяй, асабліва пасля вайны 1654—1657 гг., і паўстанняў трапілі ў Сібір. І гэта былі высокаадукаваныя, прагрэсіўныя людзі. Яны праявілі сябе як даследнікі прыроды, гаспадаркі, як этнографы. Ужо ў XVII стагоддзі нашы землякі Іван Цякуцэў і Рыгор Міхайлаў узначальвалі пасольскія наведванні Тувы, Манголіі і далі першае ў Еўропе апісанне побыту народаў, што жылі ў вярхоўях Енісея і Паўночнай Манголіі, ахарактарызавалі асаблівасці прыроды гэтага краю.

Асаблівасці прыроды Сібіры, звычаі і норавы мясцовых жыхароў апісвалі ў сваіх нататках сасланыя ў Якуцію аршанскі шляхціц Адам Каменскі і другі наш зямляк Людвік Сяніцкі. Праявілі сябе і нашчадкі пераселеных з Беларусі ў розныя куткі Расіі іншых шляхецкіх родаў. Першае апісанне Камчаткі і Курылаў даў унук беларускага шляхціца Іван Пятровіч Казырэўскі, у гонар якога названы мыс і горад на Курыльскіх астравах, горад на Камчатцы. Зацікавіўшыся паведамленнямі І. Казырэўскага пра Камчатку і Курылы, Пётр I паслаў туды геадэзістаў, каб скласці карту гэтай мясцовасці. Кіраваў гэтымі даследаваннямі Іван Яўрэінаў. Ён, верагодна, быў нашчадкам знакамітага беларускага шляхецкага роду з Мсціслаўшчыны, з якога выйшлі і міністры, і дыпламаты Расіі ў Іспаніі і Нідэрландах. І.Яўрэінавым была складзена першая карта тэрыторый Камчаткі і Курыльскіх астравоў. Даследаванні Казырэўскага і Яўрэінава далі падставу замацаваць Курыльскія астравы за Расіяй.

Нашчадак беларускага шляхціца Дзмітрый Іванавіч Паўлуцкі таксама больш за 20 гадоў аддаў даследаванню прыроды Чукоткі і Камчаткі, склаў першую карту Чукоткі. З сям'і пераселеных беларусаў і вядомы даследнік — кіраўнік III-га марскога атрада Вялікай Паўночнай экспедыцыі Васіль Васільевіч Прончышчаў, імя якога засталося на геаграфічнай карце Таймыра.

Канец XVIII ст. азначыўся актывізацыяй барацьбы нашых землякоў за незалежнасць Беларусі. На гэты перыяд прыпадае паўстанне 1794 г. пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Саратнікамі і блізкімі паплечнікамі апошняга былі шляхціцы Юліян Урсын Нямцэвіч і Язэп Копаць. Першы з іх, вядомы беларускі пісьменнік, пасля паражэння паўстання вымушаны быў эмігрыраваць у Паўночную Амерыку і першы з славян даў апісанне маладой краіны — ЗША, другі, сасланы на Камчатку, напісаў «Дзённік падарожжа Я.Копаця праз усю Азію», які па аб'ёму матэрыялу аб прыродзе Камчаткі ўступаў бадай толькі знакамітай працы С.П.Крашаніннікава «Апісанне зямлі Камчацкай».

*(Працяг на с.8.)*

АЛЕ!

## Чачня, Таджыкістан і далей

Бывае крыху дзіўна апошнім часам чытаць газету, якая па-ранейшаму называе сябе народнай. Міжволі ўспамінаецца знакаміты Жорж Сіменон, які заўважыў, што ў гэтым слове ён бачыць па меншай меры два сэнсы. Адзін з іх той, які трапна ўвасабляе паняцце «народны суп» — поліўка для беднякоў, калі ім нічога не застаецца, як сёрбаць, што даюць. Недарма, відаць, Павел Якубовіч, які меў нават калонку свайго імя, махнуў у «(Советскую) Белоруссию». Што, праўда, зноў жа досыць займальна, бо па апломбу згаданага журналіста здавалася, ён скіраваны хутчэй на «Свободные новости плюс».

Ды па-сапраўднаму ўражвае, калі «Народная газета» публікуе кароценькія паведамленні пра бойню ў Чачні ці гэтак жа лапідарна пра крывавыя будні на граніцы Таджыкістана. Заўсёды ў гэтых паведамленнях колькасць забітых «баевікоў» ці нават «бандытаў» у некалькі разоў, па-першае, большая, чымся расійскіх федэралаў, а па-другое, гэта падаецца з нейкай нават ганарлівасцю — забіваюць! Хутчэй за ўсё такая інфармацыя на тэлетайп «Народнай газеты» паступае ад нейкіх службаў, звязаных з расійскай арміяй. Але чаму б тады не даць і паведамленні з іншых крыніц — чачэнскай, таджыкскай ды ад заходніх карэспандэнтаў. Гэта было б куды карысней для беларускага народа, які «пэўныя сілы» ўсімі спосабамі ўцягваюць у шырокія абдымкі па-праімперску настроенай Расіі, дзе ўжо не хапае салдат (пры арміі ў два з лішкам мільёны), так што вырашана прызываць радавымі і студэнтаў, ды на падоўжаны тэрмін. Спакушаюць нас нібыта таннай нафтай ды газам, але ж як бы не давялося аднойчы за гэта плаціць жыццямі ды здароўем беларускіх хлопцаў. З народа, вядома ж, бо высокае начальства сваіх чадаў як-небудзь скарыстае ў больш камфортных месцах, накшталт апарату пасольстваў.

А Расія, па ўсім бачна, збіраецца ваяваць ды ваяваць з суседзямі. Нездарма ж яе нядаўні «голуб» міністр замежных спраў Козыраў абвясціў, што для абароны «русскоязычного» (!) насельніцтва ў былых савецкіх рэспубліках трэба прымяняць усе сродкі, уключаючы сілу. Ці не напамінае гэты пасаж сумнавядомых дзеячаў і ўвогуле падзеі, з якіх усчыналася Другая сусветная вайна? Праўда, там хоць вонкава «абараняялі» ды бралі «пад апеку» грамадзян чужых краін па нацыянальным і расавым прызнаку. А цяпер дык ужо і ўвогуле ў залежнасці ад мовы, на якой хто гаворыць?

Паміж тым, акрамя Чачні, дзе партызанская вайна скончыцца не заўтра, нічога добрага не чакае расійскую моладзь у вайсковай форме і ў Таджыкістане. «Расійскіх салдат тут забівалі і будуць забіваць. Вайна тут можа цягнуцца гады і нават дзесяцігоддзі», — піша самая інфармаваная і аўтарытэтная расійская газета «Известия» (№ 75, 95). «Таджыкі ўпэўнены ў адным, — паведамляе яе карэспандэнт, — расійскія войскі прыйшлі ў іх краіну для таго, каб абараняць кіруючы рэжым. Таму байцы апазіцыі ставяцца да расійскіх салдат як да акупантаў.

Апазіцыя, — заўважае журналіст, — гэта не асобныя групкі людзей. Апазіцыю падтрымлівае немалая частка насельніцтва... гэта сур'ёзная палітычная і ваенная сіла... Апазіцыя, як гэта ўласціва ісламскаму Усходу, гатова паміраць у барацьбе за звяржэнне кіруючага рэжыму бясконца. Ці гатова Масква бясконца класці галовы сваіх салдат у Таджыкістане?.. З кожным месяцам узброенай барацьбы ісламісцкія настроі ў Таджыкістане толькі ўзмацняюцца. І набываюць антырускі характар... Рана ці позна з Таджыкістана ўсё роўна давядзецца пайсці. Толькі магіл у Расіі за гэты час прыбавіцца», — канстатуе карэспандэнт «Известий».

У гэтым святле вельмі ўважліва трэба ўглядзецца ў фігуры тых палітыкаў на Беларусі, якія трызняць пра нейкае асаблівае «славянское единство». Пад сцягам, зразумела ж, Расіі.

**Ул.АС.**

ЗАМЕЖЖА

## На старонках амерыканскага «Беларуса»

Першую старонку лютаўскага нумара адкрывае некалькі матэрыялаў пад рубрыкай «Беларусь перад гістарычным выбарам», а таксама публікацыя Рагнеды Грышкевіч-Аляхновіч «Ці выжывем?», з якой па словах аўтара можна зрабіць выснову: беларусам патрэбна мэтанакіраваная свая, беларуская нацыянальная дзяржаўная палітыка.

Да 100-годдзя з дня нараджэння генерала Францішка Кушаля друкуюцца ўспаміны д-ра В.Тумаша, якімі ён падзяліўся з сябрамі значна раней. Тут жа змешчаны невялікі артыкул Францішка Кушаля « Мой прабег вайсковай службы».

Томас Бэрд падаў цікавую інфармацыю пра канферэнцыю на тэму «Зрабаваныя скарбы: наследкі 2-й сусветнай вайны», якая адбылася ў Нью-Йорку 18—22 студзеня гэтага года. Арганізатарамі яе былі Каледж Барда — Вышэйшая Школа Дэкаратыўнага Мастацтва, Французскі Інстытут Амерыкі і некалькі іншых навукова-даследчых устаноў. У канферэнцыі ўзялі ўдзел каля 250 прадстаўнікоў з Нямеччыны, Францыі, Італіі, Бельгіі, Галандыі, Польшчы, Расіі, Украіны, Беларусі, ЗША, Канады. Прадстаўніком ад Беларусі быў д-р Адам Мальдзіс, дырэктар Навукова-Асветнага Цэнтра імя Ф.Скарыны ў Менску. Даклад д-ра Мальдзіса «Трагедыя беларускіх музейных і бібліятэчных збораў падчас Другой сусветнай вайны» быў вельмі змястоўны, утрымліваў канкрэтныя дадзеныя аб вывезеных з Беларусі каштоўнасцях і іх магчымым месцазнаходжанні ў пасляваенны час. У нумары друкуецца пераказ даклада Адама Мальдзіса на канферэнцыі.

А.Зданковіч распавядае пра візіт Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыслава Грыба і народнага дэпутата, пісьменніка Ніла Гілевіча ў Лондан, пра іх сустрэчу ў культурным цэнтры імя Ф.Скарыны, якую арганізавалі пасольства Рэспублікі Беларусь і Згуртаванне Беларусаў у Вялікабрытаніі. У сваім артыкуле спадар А.Зданковіч паведаміў таксама, што на гэтай імпрэзе сп.М.Шведзюк звярнуўся да прысутных з просьбай ахвяраваць грошы на газету «Наша слова». У выніку было сабрана каля 300 англійскіх фунтаў. (Ад рэдакцыі: нам яны яшчэ не паступілі).

Цікава прадстаўлена ў нумары рубрыка «З жыцця ў Чыкага». Чытачы даведаюцца, што падрыхтоўка да каляднага фестывалю ў Музеі Навукі і Індустрыі пачалася яшчэ летась у першай палове лістапада. Беларуская ялінка была ўбрана старымі арнаментамі, а таксама вырабамі з саломкі мастачкі Людвікі Беленіс. Музей наладзіў таксама выставу нацыянальнай вопраткі. На стэндзе былі выстаўлены экспанаты мужчынскага і жаночага касцюма. 15 снежня спадарыня Вера Рамук прадэманстравала перад публікай у музеі тэхніку нарыхтоўкі арнаментаў з саломкі розных колераў. Яна ўручыла некалькі вырабаў з саломкі, прывезеных з Беларусі, губернатару Джыму Адгару. Калядны фестываль працягваўся да 3 студзеня. 2 лістапада Чыкага наведаў а.Аляксандр Надсан. Ён расказаў беларусам Чыкага пра стан рэлігійнай і нацыянальнай справы ў Беларусі і ўвогуле падзяліўся весткамі пра агульную сітуацыю на Бацькаўшчыне. 9 кастрычніка ў зале царквы Хрыста Збаўцы была наладжана фотавыстава дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. 35 фотаздымкаў прывёз менскі фатограф Анатоль Кляшчук.

Прафесар Томас Бэрд прачытаў двухгадзінную лекцыю на тэму «Агляд сучаснай беларускай літаратуры на Бацькаўшчыне і ў замежжы» для студэнтаў кандыдацкага ўзроўню Ласальскага універсітэта. Ён гаварыў як пра творчасць айчынных пісьменнікаў: Дубоўкі, Пушчы, Чорнага, Зарэцкага, Быкава, Гілевіча, Барадуліна, Караткевіча, Арлова, Вярцінскага, Макаёнка, Геніюш, Бічэль-Загнетавай, Іпатавай, так і пісьменнікаў-эмігрантаў Арсеннеавай, Глыбіннага, Салаўя, Сяднёва, Крушыны і Кавыля.

Напрыканцы нумара друкуецца шмат абвестак і паведамленняў з жыцця беларускай эміграцыі.

**Л.Б.**

ЗГАДКІ

Валеры АНОШКА, Міхась БРЫЛЕЎСКІ

# Нашы славутыя землякі — даследнікі прыроды і землепраходцы

## Да 150-годдзя з дня нараджэння Яна Чэрскага

*(Працяг.)*

У наступным стагоддзі ў Віленскім універсітэце былі заснаваны таварыствы філаматаў, філарэтаў ды іншыя гурткі, дзе вялі рэй Адам Міцкевіч, Ігнат Дамейка, Юзаф Ходзька, Тамаш Зан, Восіп Кавалеўскі. Пра іх, апроч Адама Міцкевіча, амаль нічога не ведаюць на Радзіме. А, прыкладам, Ігнат Дамейка пакінуў прыкметны след у самых розных галінах навукі, ён быў абвешчаны народным героем Чылі, у Сант'яга Дамейку пастаўлены помнік і выбіты медаль у яго гонар.

Юзаф Ходзька праявіў сябе як выдатны ваенны тапограф, непасрэдна ўдзельнічаў у правядзенні тапаздымкі Віленскай губерні (складаў знакамітыя карты-«трохверсткі»), а затым на Балканах, у сучаснай Румыніі, на Басфоры і ў Закаўказзі. Пры гэтым картыраванне тэрыторыі суправаджалася складаннем тлумачальных запісак. І нездарма Ходзька быў узнагароджаны залатым медалём Расійскага геаграфічнага таварыства (РГТ).

Адзін з заснавальнікаў таварыства філаматаў (аматараў навук), Тамаш Зан, высланы ў Арэнбург, склаў геагнастычную карту Паўднёвага Прыўралля, Паволжа, адкрыў радовішчы медзі і золата, напісаў шэраг артыкулаў, у якіх апісаў геалагічную будову, клімат і расліннасць тых краёў.

«Бацькам расійскага манголазнаўства» быў прызнаны Восіп Кавалеўскі. Былы выгнаннік, ён змог стаць рэктарам Казанскага універсітэта. Наш зямляк Іосіф Гашкевіч не толькі склаў першы японска-расійскі слоўнік, але і сабраў у Кітаі і Японіі багатую этнаграфічную калекцыю, за што атрымаў Дзямідаўскую прэмію. Навуковым подзвігам можна назваць тытанічную працу ссыльнага Эдуарда Пякарскага, які стварыў слоўнік якуцкай мовы.

За ўдзел у паўстанні 1830—31 гг. трапіў у Сібір Адольф Янушкевіч. У Табольску ён паступіў на службу ў Пагранічнае ўпраўленне, удзельнічаў у шматлікіх экспедыцыях па Казахстану, пазнаёміўся з прыродай, побытам і фальклорам казахаў, што і апісаў у «Дзённіку падарожніка», надрукаваным на польскай і расійскай мовах.

У Бярозаў, што на поўначы Заходняй Сібіры, была выслана Ева Фелінская. У сваім дзённіку яна апісала асаблівасці прыроды Заходняй Сібіры, быт і звычкі мясцовага насельніцтва. Такім чынам адна з першых змагарак за незалежнасць Бацькаўшчыны праявіла сябе як даследнік прыроды Сібіры.

Падобная доля і ўдзельнікаў паўстання 1863 года. Канстанцін Ельскі вымушаны быў эміграваць у Турцыю, дзе склаў геалагічную карту акругі Тузла, затым у Парыж, адкуль быў накіраваны ў далёкую Гвіяну. І ўжо там, у Паўднёвай Амерыцы, ён сабраў багацейшую калекцыю флоры і фаўны, апісаў жывёльны свет і расліннасць Гвіяны, адкрыў новыя віды жывёл і раслін.

Бенедыкт Дыбоўскі быў сасланы на бестэрміновую катаргу ў Іркуцк. Але нават і там не згінуў талент гэтага даследніка, географа і заолага, медыка і антраполага, лінгвіста, аўтара каля 130 навуковых прац. Найбольш вядомыя яго даследаванні Байкала: назіранні за ўзроўнем вады ў возеры, меранне яго глыбіні, вывучэнне тэмпературнага рэжыму вады і дэтальнае апісанне байкальскай фаўны. Некалькі тысячаў чучалаў жывёл гэтага унікальнага кутка прыроды ён паслаў у розныя музеі Еўропы. Даследаваў Б.Дыбоўскі Забайкалле, Прымор'е, Прыамур'е, Камчатку і Камандорскія астравы. Пад яго рэдакцыяй былі выдадзены слоўнікі камчадальскай і бурацкай моваў. Ужо пасля рэвалюцыі Б.Дыбоўскі паспрыяў адкрыццю лімналагічнай станцыі на Байкале. Былы паўстанец быў узнагароджаны залатым медалём РГТ і абраны членам-карэспандэнтам АН СССР.

Не з свае волі трапіў у Іркуцк Ян Чэрскі. Там захапіўся геалогіяй і палеанталогіяй, вывучаў геалагічную будову берагоў Байкала, басейна рэк Селенгі і Ніжняй Тунгускі, склаў першую палеатэктанічную схему Сібіры і быў адзначаны залатым медалём РГТ. Ён удзельнічаў у геалагічных даследаваннях Паўночна-Усходняй Сібіры, адкрыў і апісаў некалькі горных хрыбтоў і радовішчаў карысных выкапняў. Там на Паўночным Усходзе Ян Чэрскі і памёр. Яго імя засталося на геаграфічных картах: горная сістэма і горад на Паўночным Усходзе, хрыбет Чэрскага ў Забайкаллі, даліна Чэрскага ў Саянах, гара Чэрскага каля Іркуцка.

Вымушаны быў эміграваць і трапіў на Гавайскія астравы Мікалай Судзілоўскі. Там ён працаваў лекарам, падарожнічаў, падрабязна апісаў у сваіх артыкулах дзеючыя вулканы і лававыя палі, асаблівасці клімату, расліннасці і жывёльнага свету, быт карэнных жыхароў — канакоў, стварыў партыю і нават выбіраўся прэзідэнтам сената краіны.

Але не толькі ссыльныя беларусы займаліся навуковай дзейнасцю ў розных кутках свету. Ураджэнец Мядзельшчыны, вайсковы медык Томаш Аўгусціновіч пасля выхаду ў адстаўку аб'ездзіў Сібір і Далёкі Усход і сабраў багаты гербарый — больш за 40 тыс. экземпляраў раслінаў, які стаў пачаткам вывучэння флоры Паўночна-Усходняй Азіі.

Шмат зрабілі нашыя землякі дзеля вывучэння Арктыкі. У складзе 1-ай Расійскай Палярнай экспедыцыі, што шукала славутую Зямлю Саннікава, былі аршанскі шляхціч Бялыніцкі-Біруля і сын святара з Случчыны Канстанцін Валасовіч. Першы з іх даследаваў флору і фаўну. Пазней наш зямляк на аснове матэрыялаў гэтай ды іншых экспедыцый напісаў больш за 100 навуковых артыкулаў і стаў членам-карэспандэнтам АН Расіі. Канстанцін Валасовіч кіраваў саннай дапаможнай групай экспедыцыі і займаўся геалагічнымі і палеанталагічнымі даследаваннямі, сабраў калекцыю мінералаў і склаў геалагічную карту Новасібірскіх астравоў. У пачатку XX стагоддзя ён узначальваў геалагічныя экспедыцыі Расійскай Акадэміі навук у Паўночную Якуцію, удзельнічаў у інжынерна-геалагічных работах па аднаўленню Архангельскага марскога порта.

Шляхціч з-пад Барысава Андрэй Вількіцкі ўсё сваё жыццё звязаў з марской службай у Арктыцы. Ён узначальваў экспедыцыі на Новую Зямлю, Карскае мора. Пад яго кіраўніцтвам былі ўдасканалены карты паўастравоў паміж вусцямі Енісея і Абі, праведзена маршрутная здымка берага ад Лены да Берынгава праліва. А.Вількіцкі марыў пра скразное плаванне па Паўночным марскім шляху і наладзіў будаўніцтва першых ледаколаў «Таймыр» і «Вайгач». Але ён памёр, не дачакаўшыся здзяйснення сваіх692 мараў. Бацькаву справу прадоўжыў Барыс Вількіцкі. Ягонай экспедыцыі на згаданых ледаколах ў 1913 годзе ўдалося (другі раз у гісторыі чалавецтва — пасля шведа І.Нордэншэльда — і першы раз з усходу на захад) прайсці ўвесь Паўночны Марскі шлях. Тады было апісана ўзбярэжжа ад мыса Дзяжнёва да мыса Чалюскіна. Экспедыцыя адкрыла шмат астравоў, у тым ліку архіпелаг Паўночная Зямля. За гэтыя навуковыя адкрыцці наш зямляк быў узнагароджаны залатымі медалямі Рускага і Французскага геаграфічных таварыстваў, Швецкага таварыства антрапалогіі і этнаграфіі.

Такім чынам, уклад нашых суайчыннікаў у геаграфічныя даследаванні свету не малы, нягледзячы на тое, што Беларусь не была марской дзяржавай, ды і ўвогуле на працягу многіх гадоў уваходзіла ў склад розных дзяржаў. І таму, напэўна, вельмі часта лічаць нашых землякоў то польскімі, то расійскімі даследнікамі, а мы, беларусы, не дужа прыкладаем намаганняў, каб ушаноўваць сваіх суайчыннікаў, як гэта робяць людзі.

Мы згадалі толькі пра некаторых нашых славутых даследнікаў. Запрашаем іншых навукоўцаў далучыцца да тэмы: «Нашы славутыя землякі» і прадоўжыць яе.

СТУДЭНЦКІЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

# Згадалі педагогаў XVI стагоддзя

У Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце штогод праводзяцца самыя разнастайныя студэнцкія навукова-практычныя канферэнцыі. Пад кіраўніцтвам псіхолага-педагагічных кафедраў арганізоўваюцца, у прыватнасці, канферэнцыі па праблемах дыдактыкі, методыкі навучання і выхавання, майстэрства прафесійнай дзейнасці і інш. Сярод тых, што адбыліся, асабліва цікавай аказалася канферэнцыя «Якуб Колас — выдатны пісьменнік і творчы педагог Беларусі», на якой выступіў Д.К.Міцкевіч з успамінамі пра жыццё і педагагічную дзейнасць свайго бацькі, а нашыя выкладчыкі і студэнты звярнулі асаблівую ўвагу на характарыстыку педагагічнага вопыту Я.Коласа, настаўніка і выхавальніка моладзі, а таксама на творчае выкарыстанне і прапаганду ім спадчыны шмат якіх айчынных і замежных асветнікаў-педагогаў. Улічваючы, што ў суверэннай Беларусі асаблівая ўвага павінна надавацца будове і ўдасканальванню дзейнасці нацыянальных школ, у МДЛУ пастанавілі дзеля лепшай прафесійнай падрыхтоўкі будучых настаўнікаў праводзіць спецыяльныя канферэнцыі, якія б асвятлялі гісторыю развіцця педагагічнай думкі ў Беларусі, гісторыю нашых школ і дзейнасць асветнікаў і педагогаў. Першая такая канферэнцыя на тэму: «Дзейнасць і спадчына выдатных беларускіх педагогаў XVI—XVII стст.», ініцыяваная кафедрай педагогікі, адбылася 26 красавіка г.г. З агульнымі дакладамі на ёй выступілі доктар філалагічных навук, прафесар Арнольд Міхневіч («Францыск Скарына і ўзнікненне беларускай педагогікі») і кандыдат педагагічных навук, дацэнт Аляксандр Рычагоў («Беларускія асветнікі і развіццё нацыянальнай школы»).

Прафесар А.Я.Міхневіч адзначыў, што беларускі першадрукар, доктар медыцынскіх навук Францыск Скарына, які падрыхтаваў і выдаў 19 кніг пад назвай «Біблія руская», а затым «Малую падарожную кніжыцу», «Апостал» і інш., у прадмовах і пасляслоўях да сваіх кніг асаблівую ўвагу надаваў пытанням асветы, паколькі ўся яго літаратурная і выдавецкая дзейнасць была накіравана на тое, каб «вучыць простых людзей, дапамагчы ім пазнаць мудрасць і навуку». Ф.Скарына меркаваў, што ў беларускіх школах, як і ў заходнееўрапейскіх, павінна выкладацца «сем свабодных мастацтваў»: трывіум (граматыка, рыторыка, дыялектыка) і квадрывіум (арыфметыка, геаметрыя, астраномія, музыка). Разам з тым ён адзначаў, што «мастацтва навучае і выхоўвае, прыводзіць нас да мудрасці і да добрых звычаяў шляхам розуму, да святасці і да добрых спраў шляхам прыкладу». Асаблівую ўвагу дакладчык звярнуў на тое, што педагагічныя погляды і кнігі Ф.Скарыны сталі першай, яркай і чыстай крыніцай святла і мудрасці, якая ў далейшым дапамагла змагацца з невуцтвам і цемрай народа. Вось чаму, сказаў Арнольд Яфімавіч, не толькі асветнікі і педагогі XVI—XVII стст., але і мы, удзячныя нашчадкі, свята захоўваем аб ім памяць, высока шануем і цэнім яго як асветніка.

Аўтарам другога даклада дацэнтам А.Рычаговым было адзначана, што ўсе беларускія асветнікі XVI—XVII стст. выказвалі, прапагандавалі, ажыццяўлялі важныя элементы асветніцтва, своеасаблівага рацыяналізму. Пад іх уплывам у школах Беларусі пачалі навучаць дзяцей не толькі чытаць і пісаць, а і засвойваць згаданых Скарынам «сем свабодных мастацтваў», прычым не толькі ў брацкіх праваслаўных, але і ў тагачасных каталіцкіх, пратэстанцкіх, езуіцкіх, уніяцкіх, піярскіх школах. Пад уплывам выдатных асветнікаў у гэтых школах пачала развівацца класна-ўрочная сістэма навучання. Літаральна кожны беларускі выкладчык ажыццяўляў адначасна навучанне і выхаванне, прычым у залежнасці ад здольнасцяў і патрэб школьнікаў. З гэтай мэтай настаўнікі-выхавальнікі ў той ці іншай меры займаліся, карыстаючыся сучаснай тэрміналогіяй, праблемамі псіхолага-педагагічнай дыягностыкі. Вельмі цікава, што з мэтай развіцця нацыянальных школ педагогі павінны былі валодаць майстэрствам навучання і выхавання. Некаторыя з нашых асветнікаў выказвалі думку, што прафесійнае майстэрства педагогі павінны набываць у спецыяльных вучэбных установах.

На канферэнцыі прагучалі выступленні студэнтаў аб асобных праблемах педагагічнай думкі і практыкі: «Дзейнасць брацкіх школ на Беларусі» (В.Чарвяковай), «Падрыхтоўка і выданне школьных падручнікаў» (В.Фут), «Ажыццяўленне маральнага выхавання як асновы ўсебаковага развіцця школьнікаў» (В.Рагаўцова). У іх ішла размова аб ролі і значэнні навучальных устаноў на Беларусі ў XVI—XVII стст., якія мелі свой статут, сваю арганізацыю навучання, што ўжо выходзіла за межы «сямі вольных мастацтваў»; пра тэарэтычны ўклад беларускіх асветнікаў і педагогаў у школьніцтва, падручнікі якіх выкарыстоўваліся не толькі на Беларусі, але і за яе межамі, як, напрыклад, «Граматыка...» Мялеція Сматрыцкага; аб задачах і метадах сучаснага маральнага, фізічнага, працоўнага і эстэтычнага выхавання, а таксама на некаторыя іншыя тэмы.

З паведамленнямі пра дзейнасць і творчасць беларускіх асветнікаў і педагогаў Спірыдона Собаля, Мялеція Сматрыцкага, Лаўрэнція Зізанія, Міколы Гусоўскага, Мацея Сарбеўскага, Саламона Рысінскага, Сымона Буднага, Яна Намыслоўскага, Васіля Цялінскага і Сімеона Полацкага выступілі студэнты Н.Дзем'янкова, В.Палякова, Ю.Брагінец, І.Шавярнёва і іншыя. Рыхтуючыся да сваіх выступленняў, студэнты выкарысталі шматлікую навуковую і публіцыстычную літаратуру па гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі на Беларусі. Вельмі важна, што разам з тым яны пазнаёміліся непасрэдна з творамі нашых выдатных асветнікаў і з бібліяграфіяй па іх.

Па выніках канферэнцыі была зроблена выснова, што ідэі выдатных беларускіх асветнікаў, у тым ліку і асветнікаў XVI—XVII стст., пэўным чынам улічваюцца ў законах «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», «Аб правах дзіцяці», у разнастайных педагагічных канцэпцыях па пытаннях навучання і выхавання, а таксама ў стратэгічных напрамках рэфармавання адукацыйнай і выхаваўчай сістэм, якія зараз абмяркоўваюцца. Канферэнцыя пад назвай «Дзейнасць і спадчына выдатных беларускіх педагогаў XVI—XVII стст.» садзейнічала ўдасканальванню літаральна кожнага з прысутных — і выкладчыкаў, і студэнтаў. Вось чаму, звяртаючы асаблівую ўвагу на выкладанне гісторыі школы і педагогікі ў студэнцкай аўдыторыі, на творчае выкарыстанне гісторыка-педагагічных ідэй у будучай вучэбна-выхаваўчай дзейнасці маладых спецыялістаў, кафедра педагогікі сумесна з кафедрамі псіхалогіі і методыкі МДЛУ плануе ў далейшым праводзіць канферэнцыі, прысвечаныя дзейнасці і спадчыне асветнікаў, якія жылі і працавалі на Беларусі ў XVIII—XX стст., юбілейным датам дзеячаў на ніве асветы (Сімеона Полацкага, Алаізы Пашкевіч(Цёткі), Льва Выгоцкага), а таксама праблемам кантактаў беларускіх настаўнікаў-выхавальнікаў з замежнымі. Гэта пасадзейнічае творчаму выкарыстанню ў Беларусі на сучасным этапе новых законаў, канцэпцый, стратэгій па праблемах навучання і выхавання, удасканаленню работы нашых нацыянальных школ і нават вышэйшых навучальных устаноў.

Аляксандр РЫЧАГОЎ,
дацэнт кафедры педагогікі МДЛУ.

КЛУБ АБІТУРЫЕНТАЎ

Яўген БЯЛАСІН

# Граматыка ў вобразах

## Адказы на заданні кроку І.

1.1а.1 1. машыны/ ходзяць; 2. трава/зелянела; 3. ein Kanarienvogel/flog; 4. der Geograph/ sollte berichten; 5. die Rechtsprechung/sieht aus

1.1а.2. прамы: № 3, 4
адваротны: № 1, 2, 5
(інверсаваны)

1.1а.3. 1. Die Entscheidung blieb auch heute aus. 2. Er hat das von vornherein beschlossen. 3. Ich will das nicht akzeptieren. 4. Wir sahen sie durch den Wald Laufen. 5. Das ist auch in vier Tagen durchaus möglich.

1.1б.1. Гэтаксама на прэдыкацыі (выказніку) збалансаваны просты развіты сказ нямецкай мовы.

## КРОК II

### Складаны сказ

2.1. *Тэорыя.*

Складаназлучаны і складаназалежны сказы адрозныя так, як катамаран адрозны ад грузавіка з прычэпам.



Мал.І.



Мал.ІІ.

Раздымеш гэты трымаран — будзеш мець багата чаўнакоў (праўда, паасобку яны будуць не такія астойлівыя).

Прычэп (даданы сказ) без грузавіка ехаць не можа.

Заданне 2.1а.1. Перапішы сказы, рассартаваўшы іх на сказы-шматкарпусныя судны і сказы-грузавікі з прычэпам. 1. Завязку гэтай маленькай і даволі сумнай гісторыі трэба шукаць у тых снягах, што даўно сплылі веснай вадой у раку, а потым, з ракою, у сіняе мора (Караткевіч).

2. Хлопцы нямала што ўжо хапалі за пер'е акалечану птушку, але яна не давалася, уцякала, выбіваючыся з апошніх сіл (Цётка).

3. Auch dieser harte Winter ging vorüber, und es kam eine Nacht, da krachte das Eis wieder über dem Fluß Struminka (Roth).

4. Was ich hörte, schienen nur menschliche Laute zu sein, die noch nicht zu Worten geworden waren (Remarque).

5. Seit drei Jahrhunderten herrschten diese arabischen Fürsten über die Stadt Edessa, sie waren vertraut mit griechisch-römischer und parthischer Kultur, aber das Herz des Königs Mallukh, das wußten alle, war arabisch geblieben (Feuchtwanger).

6. Ein magisches blendendes Licht verbreitete sich überall, ohne das man bemerken konnte, wo es herkam, da durchaus Kein Fenster zu sehen war (Hofmann).

Заданне 2.1а.2. На прыкладзе гэтых трох сказаў назаві, у чым адрозненне нямецкіх прычэпаў ад беларускіх.

1. Дзяўчаты ля дрэў толькі зараз зразумелі, што ў хлопцаў адбылося нешта незвычайнае (Караткевіч).

2. Sie überlegte, warum sie aufgewacht war (Borchert).

3. Eidechsen, schildkröten und Frösche suchen Sümpfe auf, wo sie vor den Zitteraalen sicher sind (A. von Humboldt)

Заданне 2.1б.1. Вось табе словы, зачараваныя ў каменьчыкі. Калі ты моцны чараўнік (чараўніца), то, падкінуўшы каменьчык уверх, злові беларускі злучнік ці злучнікавае слова. Чым ты больш фізічна моцны, чым вышэй кідаеш — тым слабей ты як чараўнік. Наймацнейшы той, хто кідае і ловіць імгненна.




Мал.ІІІ.

Заданне 2.1в.1. Прачытай і паспрабуй зразумець без слоўніка наступны тэкст.

**MARGUERITE**

Einmal waren wir uns sehr böse.

Im Kino marschierte die Pariser Feuerwehr. Sie hatte Jubiläum. Sie marschierte ausgesprochen komisch. Deswegen lachte ich. Marguerite stand auf und setzte sich auf einen anderen Platz. Mir war klar, daß ich sie beleidigt hatte. Eine halbe Stunde ließ ich sie allein. Dann konnte ich nicht mehr. Das Kino war leer und ich schlich mich unbemerkt hinter sie: Ich liebe dich. Dein Haar liebe ich und deine Stimme. Ich liebe deine Sprache und all das Fremde an dir. Und diene Hände. Marguerite! (Borchert).

Заданне 2.1в.2. Гэты тэкст — футбольная пляцоўка. На ёй толькі што адбыўся матч паміж камандай «Катамаран» і «Грузам» з аўтапарка № 1. Хто каму нагрузіў і з якім лікам?

Заданне 2.1в.3. Палічы суадносіну сказаў з прамым парадкам слоў і сказаў з інверсіяй. Сказы занадта пустыя (эліпсісы) і занадта поўныя (складаныя) апускаем.

*Адказы і працяг будуць.*

---

# «Давайце парадуемся таму, што зроблена

## *Прэзентацыя энцыклапедыі «Беларуская мова»*

У Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце адбылася прэзентацыя Энцыклапедыі «Беларуская мова» (пад рэдакцыяй А.Я.Міхневіча), у якой узялі ўдзел вядомыя мовазнаўцы, грамадскія дзеячы, супрацоўнікі Беларускай энцыклапедыі, студэнты. Перад прысутнымі выступілі доктар філалагічных навук, прафесар Арнольд Міхневіч, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, доктар філалагічных навук, прафесар Леў Шакун, доктар філалагічных навук Генадзь Цыхун, рэдактар аддзела часопіса «Спадчына» Вінцук Вячорка і іншыя.

**Арнольд Міхневіч**. Ідэя выдання Энцыклапедыі прыйшла адразу да многіх асоб, бо наспела. Хутка склаўся калектыў — з ліку прадстаўнікоў ВНУ і акадэмічных інстытутаў Беларусі, які з ахвотай і энергіяй узяўся за справу. Сёння мы маем дастаткова вялікі і падрыхтаваны атрад знаўцаў і даследчыкаў беларускай мовы.

Каму ж адрасуецца праца аўтарскага калектыву і рэдактараў Энцыклапедыі? Перш за ўсё тым, хто цікавіцца жывым беларускім словам, яго гістарычным лёсам, шляхамі станаўлення нацыянальнага пісьменства, праблемамі лінгвістыкі і беларусазнаўства, дасягненнямі беларускай філалогіі; для каго мова стала жыццёвым клопатам, аб'ектам рупнай прафесійнай працы. Але найперш чытачом гэтай кнігі хацелася бачыць беларускага хлопца і беларускую дзяўчыну, якім наканавана стварыць новую, дэмакратычную, адукаваную Беларусь і якія закліканы несці ў свет беларускае слова — жывую душу свайго народа.

Спецыфіка Энцыклапедыі ў тым, што пад адным дахам жыве некалькі кніг: граматыка і гісторыя беларускай мовы, гісторыя беларускай літаратурнай мовы, беларуская дыялекталогія, мова пісьменнікаў, мова гістарычных і іншых помнікаў, жыццяпіс вядомых айчынных і замежных мовазнаўцаў-беларусістаў, гісторыя беларускага мовазнаўства. Ёсць артыкулы надзвычай цікавыя і надзённыя, як, напрыклад, Генадзя Цыхуна («Беларуская мова сярод іншых славянскіх моў»), Паўла Сцяцко («Народнае словаўтварэнне»), Алеся Каўруса («Мілагучнасць мовы»), Уладзіміра Конана («Беларусізацыя»), Яўгена Цумарава («Дзяржаўная мова»), Лідзіі Сямешкі («Рэформа беларускага правапісу 1933 г.») і інш. Спадзяюся, што разнастайны «моўны вопыт», які мы атрымалі пры падрыхтоўцы гэтай Энцыклапедыі, пэўным чынам прыдасца і ў працы над новай 18-томнай нацыянальнай энцыклапедыяй. Маю на ўвазе, у першую чаргу, вяртанне да незіншамоўленага, уласнага беларускага сінтаксісу і выпрацоўку адпаведнай тэрміналогіі, неабходнай для сённяшняй энцыклапедыі. Падкрэслю, 18-томная энцыклапедыя, над якой зараз ідзе работа, павінна стаць узорнай для ўсіх выданняў на сучаснай мове.

**Янка Саламевіч**. У Энцыклапедыі больш за 600 артыкулаў, сярод якіх шмат узбуйненых. Рэдакцыя свядома пайшла на вялікія аб'ёмы некаторых артыкулаў, каб пазбегнуць раздраблення матэрыялаў.

Пры падрыхтоўцы Энцыклапедыі мелася на ўвазе, што яна будзе забяспечана прадметна-тэматычным паказальнікам, — як вядома, чытачу, асабліва недасведчанаму, цяжка без яго абысціся. Атрымалася ж так, што падрыхтоўка Энцыклапедыі зацягнулася, узнікла пагроза, што яна можа не выйсці ў прызначаны тэрмін, і тады Галоўная рэдакцыя Беларускай энцыклапедыі прыняла рашэнне выдаць кнігу без паказальніка. Мяркуецца, што ён выйдзе пазней асобна. Хацелася б, каб гэта выданне было паўторана з улікам усіх заўваг і пажаданняў спецыялістаў і чытачоў і на гэты раз — з паказальнікам. Станоўчая рыса выдання — наяўнасць артыкулаў пра мову беларускіх пісьменнікаў (усяго каля 40). У свой час я даказваў, што такія артыкулы ў Энцыклапедыі неабходны, бо дазваляюць лепш ацаніць майстроў слова, выявіць іх адметнасці. Пісьменнік — стваральнік літаратурнай мовы, найперш яе рупліўца. На жаль, не для ўсіх запланаваных артыкулаў удалося знайсці аўтараў. У Інстытуце мовазнаўства такой праблемай не займаюцца. Упершыню ў Энцыклапедыі даюцца артыкулы пра замежных даследчыкаў беларускай мовы, да якіх адносяцца Рудольф Абіхт і Карл Гутшміт (Германія); Антаніна Абрэмбская-Яблонская, Альжбета Смулэк, Альбрэхт Барташэвіч, Міхал Кандрацюк, Мсціслаў Аляхновіч (Польшча); Лілі Лашкава і Іван Лекаў (Балгарыя); Антуан Мартэль (Францыя); Пітар Джон Маё і Арнольд Макмілін (Англія); Герман Бідар (Аўстрыя); Міласлаў Зіма і Мікалаш Затаўканюк (Чэхія); Ян Пятроўскі (ЗША); Валянціна Пашкевіч (Канада); Віктар Баркоўскі, Фядот Філін, Рубен Аванесаў (Расія) і інш. Артыкулы пра гэтых даследчыкаў засведчылі, што **беларускай мовай цікавіцца практычна ўвесь свет.**

Рэдакцыя выдання ставіла мэтай паказаць, што беларуская мова вельмі старажытная, багатая і цікавая, аб чым сведчаць і надзвычай важныя артыкулы пра мову помнікаў літаратуры. Спадзяюся, што, нягледзячы на недахопы выдання, аўтарскаму калектыву Энцыклапедыі ўдалося ўпісаць беларускую мову ў кантэкст сусветнай лінгвістыкі.

**Леў Шакун**. Галіновыя энцыклапедыі ствараюцца з такім разлікам, каб усебакова і поўна, але ў сціслай форме раскрыць сістэму панятцяў адпаведнай навукі ці паказаць найбольш істотную з'яву пэўнай сферы нашага жыцця, наваколнага нам свету і даць чытачу дакладную інфармацыю па ўзнікшым пытанні. Наша Энцыклапедыя сабрала ў адно цэлае надзвычай багаты матэрыял пра структуру беларускай мовы, яе грамадскія функцыі на розных гістарычных этапах, пра літаратуру, створаную на ёй, пра тых, хто найбольш спрыяў яе развіццю і вывучэнню. Энцыклапедыя не толькі падвяла вынікі шматгадовай навуковай распрацоўкі беларускай мовы. У ёй па-новаму асветлены, а то і ўпершыню даследаваны многія актуальныя праблемы беларускага мовазнаўства. Удала падабрана да кожнага артыкула бібліяграфія. Усё гэта робіць выданне выключна каштоўным не толькі для суайчыннікаў, але і для замежнага чытача, які, на жаль, мае абмежаваныя магчымасці знаёміцца з літаратурай пра беларускую мову. Рэдактары Энцыклапедыі прыклалі вялікія намаганні, каб найбольш поўна ахапіць праблематыку беларускага мовазнаўства і дасягнуць паслядоўнасці ў падачы матэрыялаў, які стваралі рознымі аўтарамі і на працягу некалькіх гадоў. Не ўсё атрымалася найлепшым чынам, калі падыходзіць да Энцыклапедыі з патрабаваннем сённяшняга дня. Але прыйдзе час перавыдання, і першы вопыт стварэння энцыклапедычнага даведніка пра родную мову дапаможа зрабіць яго больш узорным.

**Ніл Гілевіч**. Прэзентацыя Энцыклапедыі «Беларуская мова» — гэта, як я разумею, не навуковая канферэнцыя, а больш святочны акт. І я хацеў бы спыніцца на дзяржаўнапалітычным аспекце гэтай падзеі. У нашых умовах выхад у свет такой незвычайнай кнігі падтрымлівае наш дух, нашы намаганні, нашу веру ў тое, што мы ўсё, каму дарагая наша Бацькаўшчына, яе культура і мова, згуртаваны і пяддваны святой ідэяй. Усе мы ведаем, чаго хочам, што павінны рабіць, дзе наш шлях. Я нядаўна на старонках «Советской Белоруссии» сустракаўся з адным фізікам. Ведаеце, як сумна, што нават дактарам навук, членкорам даводзіцца тлумачыць, што наша мова не можа быць перашкодай для развіцця любой навукі. Вядома, я спасылаўся на нашы шматтомныя акадэмічныя выданні, энцыклапедычныя выданні. Вы добра ведаеце, колькі напераджэ працы, каб выйсці з таго заняпаду, у якім мы апынуліся. Варта пачытаць старых пісьменнікаў, пісьменнікаў 20-х гадоў, пачытаць фальклор, каб пераканацца, які менавіта **наш** сінтаксіс, **наша** фразеалогія, а што нам навязана і, на жаль, прыжылося. Тым не менш кідацца ў роспач не варта. Трэба верыць у свае магчымасці. Я спяшаюся сказаць «дзякуй» тым, хто ажыццявіў выданне Энцыклапедыі, і выказаць некалькі заўваг. Напрыклад, мяне цікавіла, як у Энцыклапедыі прадстаўлены пісьменнікі, паколькі я пераканаеы, што літаратурная мова, якой карыстаюцца кнігавыданні, школа, сродкі масавай інфармацыі, апрацоўваецца менавіта імі. Прызнаюся, мяне ўразіла, што такі волат слова, ён жа і навуковец, Максім Гарэцкі атрымаў, калі ўжо лічыць на знакі, у два разы меншую плошчу, чым нехта з сучаснікаў, які, вядома ж, не можа ісці ў параўнанне з Гарэцкім. Апошні, як вы ведаеце, далучыў да беларускай літаратурнай мовы агромністы пласт мовы Магілёўшчыны — яе лексіку, фразеалогію і сінтаксіс. Калі мова Віцебшчыны прыйшла да нас праз творчасць Быкава і Барадуліна, мова цэнтральных гаворак Беларусі — праз творчасць Купалы, Коласа, Бядулі, Крапівы, то мова Магілёўшчыны менавіта праз творчасць Гарэцкага, найвялікшага пісьменніка і майстра слова. Аднак давайце ўсё-такі парадуемся таму, што зроблена, нам ёсць чым ганарыцца і ёсць над чым працаваць далей. Выдатна, што наша мова выходзіць на мітынгі і крычыць: «Не дамо! Не дамо знішчыць нашу гісторыю, нашу культуру!» Не менш выдатна, калі ў падтрымку

*(Заканчэнне на с.10)*




Тытульны ліст Энцыклапедыі

Мікалай КРЫЎКО

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**2. ПЕРАМАГЧЫ́** (дабіцца перамогі над кім-, чым-н. у якой-н. справе, мерапрыемстве, рабоце, сварцы, у барацьбе са стыхіяй і пад., справіцца з кім-, чым-н.) *Людзям уласціва змагацца і перамагаць нават там, дзе справа здаецца безнадзейнай* (Місько). *Коўбец перамог. На аорту ён наклаў шоў, і цячэнне крыві было абноўлена* (М.Ткачоў). *Цікава, чым кончыца гэта слоўная дуэль? Хто каго пераможа? — Бачыш, ты перамагла ў конкурсе, — радаваўся за яе [Алаізу] і Мацей* (Арабей). **АТРЫМА́ЦЬ ПЕРАМО́ГУ** *Перамогу атрымала звяно Салаўёвай*, **ЗДО́ЛЕЦЬ І ЗДАЛЕ́ЦЬ** *Увёсцы ён [Лямяшэвіч] залішне лёгка заваёўвае аўтарытэт, яму нецяжка было здолець Арэшкіна* (Кучар), **АДО́ЛЕЦЬ** *Тым часам гульня працягвалася, і мы з Вандай урэшце адолелі сваіх праціўнікаў* (Марціновіч). *[Якаў:] — Я ўжо цябе [Мацвея] не адолею. Няма ў мяне сілы з табою ваявацъ* (Лобан). *Світанне доўга не магло адолець змроку — на зямлі густым даўкім пластом ляжаў туман, сонца не было відаць* (Мележ). *Разганяць балты і на самай справе было не вельмі ўжо складана, а галоўнае вельмі выгадна. Мэта: адолець ржаўчыну* (Харкевіч), **АСІ́ЛІЦЬ** *Адмыкае наглядчык турму: Навакола стаіць такі скрогат. Спрабаваў перапець. Але ўбачыў: яму Не асіліць шуму такога* (Сіпакоў). *Відаць ніхто і не асіліць Крыніцу, што бяжыць да рэк! Прыпаўшы к ёй, жывыя сілы Бярэ з вадою чалавек* (Ляпёшкін). *—Бачыце, як тут у нас, — адказвае Віктар Антонавіч на маё пытанне пра будаўнічыя справы. — Восень, бездарожжа ніяк не можам асіліць...* (Хадкевіч). *Усміхнуцца часамі асеннія краскі: Бялюткія астры, чырвоныя ружы, Якіх не асілілі золкія сцюжы* (Пушча), **ПАСІ́ЛІЦЬ** размоўнае *Мы доўга гадалі, Як багну пасіліць* (Броўка), **АДУ́ЖАЦЬ** *—Кінь піць, даўно табе кажу я, дружа. Няўжо сябе не можаш ты адужаць?* (Вяршынін). *Раскажуць яны [людзі], як лепей жыць нам, як адужаць вясковую цемень* (Каваль). *[Карнейчык:] — Нам трэба было б падумаць, як хутчэй балота адужаць* (Барашка), **ЗДУ́ЖАЦЬ** разм. *Значыць — глупства! Усіх клікушаў здужым!* (Лявонны). *Дажджы, вятры, палярныя завеі Не аднялі, не здужалі любоў* (Звонак). *Служыць [зямля] людзям заўжды, сагрэтая сонца праменнем. Усё яна здужыць — сухмень, халады. На усё ў яе хопіць цярпення* (Прыходзька). **ЗВАЯВА́ЦЬ** разм. *Кажуць, твае драўляныя хвігуры Мінск бачылі?.. Дрэвам можна ўсё зваяваць* (Карамазаў). *А сам [камбайнер] нікім не зваяваны, сядзіць высока, нібы птах , — У Тэнісцы, глядзіш, падранай, у замазучаных штанах* (Лось), **ПЕРАСІ́ЛІЦЬ** *Месяц, выплыўшы над лесам, стараўся і не мог перасіліць агнёў, якія палалі навокал* (Броўка). *Міхал ніколі не стане панскім слугой да канца, службовы абавязак не перасіліць у ім чалавека* (Навуменка). *У купэ я быў адзін. У акно глядзеў нядоўга — кніга перасіліла, пацягнула да сябе* (Янкоўскі). *Чалавек працы здабывае сабе шчасце, часам волатаўскімі намаганнямі перасільвае прыроду* (Юрэвіч), **ПЕРАПЕРЦІ** разм. *А Сурвіла дык гэты мае галаву тупейшую і мазгі павальнейшыя. Але ўжо затое калі наважыць што, дык тады ніхто яго не перапрэ* (Чорны), **ЗМАГЧЫ́** разм. *Хто з Кратом спрачацца можа? Ў гэтай справе ўсіх ён зможа, — колькі Крот зямлі капае, мабыць, ён і сам не знае...* (Дубоўка). *Вясна холад змагла, вясна свет ажывіла, З вясной меней на свеце і смутку і слёз!* (Купала). *А хочаш спяваць, дык згаджайся адразу: Мая рашучасць, твая адвага Прыступам возьмуць любую базу, Змогуць любога мага* (Вітка), **СХО́ДАЦЬ** разм., узмацняльнае *Грыміць няземны гімн, аж увесь свет ад тых гукаў дрыжыць... Па-над усім вышэй стаіць музыкаў гімн, няма той сілы ў свеце, якая б яго сходала* (Гарэцкі). *Агонь пад купай Поўзае праходамі. Няўжо згараць кусты, карчы і мох? Няўжо ніхто, няўмольнага не сходае, Няхай бы дождж балоту дапамог* (Свірка), **УЗЯ́ЦЬ** (або **АТРЫМА́ЦЬ**) **ВЕРХ** *Ён [пан] выхваляўся, што з людзей ніхто, ніколі, анідзе не зможа ашукаць яго. А ў дадатак да ўсяго ён абвясціў людзям усім: хто ўсё ж возьме верх над ім, таму ён без ніякіх слоў дасць падарунак — сто рублёў* (Дубоўка). *[Алесь:] «Не ляжаць трэба было, не прыдумляць абы-чаго, быццам ты над усімі верх узяў, а сысці на гэты час з дому, схавацца ў хвойніку»* (Пецка). *На гэтых выбарах ізноў мы атрымалі верх* (Паўлаў). — *Незакончанае трыванне:* **Перамагаць, атрымліваць перамогу, здольваць, адольваць, асільваць, пасільваць, адужваць, здужваць, зваёўваць, перасільваць, змагаць, сходваць, браць (атрымліваць) верх.**

*Уладзімір СВЯЖЫНСКІ, кандыдат філалагічных навук*

*Гісторыя моваў на Беларусі*

# Беларуская мова

*(Працяг.)*

*«Кажучы праўду, не такъ виноватъ король, як гетые радные баломуты, што пры нимъ сидятъ да крутятъ. Много тута гетакихъ есть, што хоть наша костка, однако собачым мясомъ обросла и воняетъ».*

**Прамова Івана Мялешкі (канец XVI — XVII ст.).**



Баркалабаўскі летапіс, акрамя таго, вылучаецца з шэрага іншых помнікаў дакументальнага жанру народнай асновай свайго лексічнага складу. Бадай што ніводзін іншы старабеларускі пісьмовы помнік не адлюстроўвае ў такой меры лексічную стыхію жывой народнай мовы. Фактычна, у помніках тыпу Баркалабаўскага летапісу пазначылася тэндэнцыя, якая пазней, пры фарміраванні новай беларускай мовы стала вызначальнай. Змест і форма Баркалабаўскага летапісу абумоўлены камунікатыўным асяроддзем, статусам членаў сацыяльнай групы, у якіх ствараўся гэты помнік. Гэта — мясцовыя жыхары вёскі Баркалабава (цяпер Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл.), сфера жыццёвых інтарэсаў якіх абмежавана ў асноўным сельскай гаспадаркай, вясковым побытам. Дабрабыт аратага, як і любога іншага вясковага жыхара, залежыць ад пагодных умоў, ад якіх залежыць ураджай. Аўтар удзяляе шмат увагі надвор'ю, якое мела месца ў рэгіёне пры яго жыцці. Гэта высокамастацкія замалёўкі стыхійных бедстваў, якія наносілі сялянам вялікія шкоды. Замалёўкі вясковага побыту багатыя на адпаведныя рэаліі. Вось адзін з характэрных урыўкаў, які прадстаўляе адну з істотных рыс мовы летапісу: «а потом почали жати-горовати по снегу у стужу, были теж морозы великие, огне клали, сами грелися, ижъ страшно і жалосно было гледети, три-два члвки на ден ледво сноповъ 40 нажнут овса албо ярицы, бо велми к земли. Люди убогие яр на весне жали-горевали, але вже толко для статку, а того много статками на весне сами господари свое збоже травили, макиг горохи, бобы, проса, репа, то все згола погинуло, а которые молотили ярь, зерня толко знакъ, а коли змелетъ, спечетъ, то у печи испечется, а з лопаты у печъ не зложит, с печи ажъ ополоникомъ выберет, также и жито велми было не умолотно, а коли муку житную у хлебе спекут, то тесто печеное солодко, а за скорину хотя ложки клади, а в печи не печется».

Тая ж тэндэнцыя збліжэння з жывой народнай мовай заўважаецца і ў блізкіх па жанру да мемуарных публіцыстычных помніках (часта ў адным творы спалучаюцца рысы мемуарыстыкі і публіцыстыкі, як, напрыклад, у «Дырыушы» Афанасія Філіповіча). У публіцыстычных тэкстах мастацкі пачатак часам дасягае ўзроўню літаратурна-мастацкіх твораў. Ва ўказаных адносінах значную цікавасць уяўляе Прамова Івана Мялешкі (канец XVI — пачатак XVII ст.) — вострасатырычны памфлет, невядомы аўтар якога выступае ў абарону беларускага народа супраць іншаземнага засілля. У трапных, дасціпных выразах, параўнаннях, фразеалагізмах, прымаўках аўтар выкрывае норавы замежных гасцей, выяўляе пры гэтым неперасягненае майстэрства сатырыка. Вось адзін з характэрных урыўкаў, які дазваляе атрымаць уяўленне аб мове твора: «И то, милостивые панове, не мала шкода, слуги ховаемъ Ляхи: давай же іему сукню хваленды-шовую, корми ж его тлусто; а зъ нихъ службы не пытай, — и только, убравшися, на высокихъ подковкахъ до девокъ дыбле и ходыть, а зъ великого кубка трубитъ: ты, пане, за столъ, а слуга собе за столъ; ты борщикъ, а слуга за пукатую штуку мяса; ты за фляшку, а онъ за другую, а коли слабо держышъ, то онъ и ту зъ рукъ вырветь! Только пильнуетъ: скоро зъ дому ты, то онъ моучкомъ пріласкается до жонки. И такого чортополоха зъ Немцами выгнаты, што до насъ влезли противъ праву нашему».

Блізка да прамовы Мялешкі па стылі стаіць яшчэ адзін вядомы твор публіцыстычнага жанру — так званы Ліст да Абуховіча — тыповы твор палітычнай сатыры, напісаны невядомым аўтарам у 1655 г. з выпадку здачы смаленскага гарнізона войску маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча ў 1654 г. Ліст уяўляе сабой каштоўную крыніцу народнай фразеалогіі. Увесь тэкст твора складаецца, фактычна, з трапных выразаў, уласцівых народнай мове. Здаецца неверагодным, як аўтару ўдалося сканцэнтраваць у адным, невялічкім па аб'ёму творы такую вялікую колькасць моўных самацветаў. Вось некаторыя з іх: Лепей было, пане Филипе, седет у Липе; уваляусе у великою славу, як сьвиня у граз; в соромоте седит, як діавел у дупли; выкурыли нашых мужыков, як веребиов з веника; надулсе в сенати, как петух галагуцкий; зблудився теперечныи розум, як коза по лисе; як слижа в Ніемен упустит і г.д. Месцамі твор напісаны рыфмаванай прозай, густа расквечанай трапнымі выразамі: «От нам за тое, што дешаво Москва соболи прадавала: всіу Русь з людми одебрала. И коли мы обачыли густыіе соболіе колнеры, познали зараз, што худо будут битсіа нашыіе жолніеры, а што мы, дурныіе, в кожухах, сіем лит Смолинска добывали, то вы, мудрыіе, в соболях, за четернацать недіель аддали». Немінучасць мастацкіх каштоўнасцяў гэтых твораў робіць іх актуальнымі і ў нашы дні: асобныя выразы з іх зноў пачынаюць выкарыстоўвацца ў творах публіцыстычнага і аратарскага жанраў.

Яркім сведчаннем прэстыжнасці беларускай мовы ў старажытным грамадстве з'яўляецца пераклад на яе з іншых моваў. Здаўна ва ўсходніх славян вялікай папулярнасцю карысталіся творы аб Траянскай вайне і Аляксандры Македонскім. Яны перакладаліся на беларускую мову неаднаразова, аб чым сведчаць тэксты перакладаў, адны з якіх адносяцца да XV ст. другія — да XVI ст. Менавіта выключна свецкі характар гэтых твораў вызначаў характар мовы іх перакладаў. Свецкасць, а значыць другараднасць у адносінах да царкоўных твораў аповесцяў аб Траянскай вайне і Аляксандры Македонскім падкрэсліваў Францыск Скарына: «Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей, или книги Махавеев, более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии или во Тройи (Прадмова да ўсёй Біблії).

Культура мовы

## Будзе жыць — жыціме — жыцьме

Тыя, што цікавяцца беларускай мовай і актыўна чытаюць беларускамоўную літаратуру, часам заўважаюць форму будучага часу: я **жыцьму** (**жыціму**) — мы **жыцьмем** (**жыцімем**) — ты **жыцьмеш** (**жыцімеш**) — вы **жыцьмеце** (**жыцімеце**) — ён **жыцьме** (**жыціме**) — яны **жыцьмуць** (**жыцімуць**). Узнікае пытанне — ці мэтазгодна ўжываць гэткую форму ў беларускай літаратурнай мове? І тут погляды, вядома ж, не супадаюць: а) ужываць трэба, бо гэтая форма даволі характэрная беларускай мове; б) ужываць не трэба, бо гэтая форма дыялектная (паўднёва-заходнія гаворкі).

У «Беларускай граматыцы для школ» Б.Тарашкевіча (Вільня, 1929) чытаем: «...Здараюцца формы будучнага часу, зложаныя інакш: рабіц**іму**, рабіц**імеш**, рабіц**іме**, рабіц**імем**, рабіц**імеце**, рабіц**імуць**. Замест *буду* тут ужыта дзеяслова *іму*» (с. 97).

Вядома, што за гады радавай улады, калі вялася палітыка, скіраваная на зліццё моваў, дык спакваля ўсё больш вынішчалі тое, што было ў нашай мове своеасаблівым і аздабляла яе, як непаўторны дыямент. Гэтак сталася і з разглядаемай намі формай. Часам яна ўжывалася ў літаратуры, але ў вучэбных дапаможніках па беларускай мове адзначалася і адзначаецца цяпер, што названая форма ёсць дыялект. Значыць, у афіцыйнай граматыцы яна не прызнаецца за літаратурную. Такім чынам, атрымліваецца цікавая супярэчнасць: непрызнаная ў граматыцы форма будучага часу дапускаецца ў літаратуры не проста ў гамане героя, а нават у мове аўтара. Як прыклад прывяду цытату з апавядання Я.Гашака «Змена прозвішча» ў перакладзе П.Місько: «Цяпер ужо нічога не паправіш, бо позна, і ў міністэрстве фінансаў будзе сядзець нейкі Блатэнскі, але ж **сядзецьме** пасля таго, як там доўгія гады праціраў штаны пан Выжралек...» (Гашак Я. Госць у хату. Мн., 1984, с. 91). І П.Місько, і В.Куртаніч, і шэраг іншых пісьменнікаў ужывае гэтую форму:

*Клікацьму буду пакорлівай служкай,*
*Ценю надаўшы пачуццяў гасподу.*

(Куртаніч В. Птушыным шляхам. Мн., 1990, с. 16).

У кнізе «Новы Запавет і псальмы» (Таронта, Канада, 1985) чытаем:

12. Зноў кажа Ісус да народу: Я сьвятло сьвету; хто пойдзе за Мною, той ня будзе хадзіць у цемры, але **мецім**е сьвятло жыцьця». (С. 137).

Чытач, напэўна, запытаецца: чаму і ў згаданым прыкладзе з перакладу П.Місько і ў цытаце з «Новага Запавету» ўжываюцца побач дзве формы, як **будзе хадзіць** і **меціме**. Адказ можна даць наступным чынам: дзеля таго, каб пазбегнуць таўталогіі слова *будзе*, што недапушчальна ў стылістыцы, акрамя вымушанай таўталогіі, аўтары блізка ад першай формы ўжываюць другую. Ужываць у такім выпадку два разы другую форму таксама трэба не заўсёды, бо, напрыклад, у П.Місько атрымалася б таўталогія слова **сядзецьме**. Як бачна, суіснаванне дзвюх формаў — **будзе жыць** і **жыцьме** (**жыціме**) — рэч абгрунтаваная і карысная. Калі гаварыць, што апошняя форма ўласціва толькі беларускай мове, дык гэта не адпавядацьме сапраўднасці. Тут можна прывесці прыклад з украінскай літаратуры:

*«...На дзиглику, як гетьманшу,*
*Та й дивитись буду;*
*Поки не вмру, **дивитимусь**».*
*«А може, й забудеш?..»*

(Шевченко Т. Кобзар. Київ, 1993, с. 67).

«До грошей я не дуже ласий. Аби була ласка слухати, поки не охрип, ***співатиму***...»

(Тамсама, с.75).

У першым выпадку аўтар таксама пазбягае таўталогіі. Ва ўжытай ім форме **дивитимусь** мы бачым постфікс **-сь**. Сапраўды, магчымы і такі варыянт: **смяяцьмуся, ламацьмуцца**... Возьмем 4-ы том Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. Знаходзім слова **смяяцца** з яго варыянтамі (с. 512). Заўважаем сярод прыведзеных прыкладаў двухварыянтнасць будучага часу: «*Будэ смыятысь з ёго.* Дзмітравічы, Кам. *Змэнэ смэяцімуцца бабы, як пойдзэм до грэчкі.* Смаляніца, Пруж.».

У сваім артыкуле «Між былым і наступным» Ніл Гілевіч (гл. «ЛіМ», № 8, 1989) пашкадаваў, што ў беларускай мове сталі рэдка ўжывацца і клічны склон (браце, пане), і форма дзеясловаў загаднага ладу (сядайма, гуляйма...) і форма будучага часу, аб якой ідзе гаворка. І гаворачы аб цяперашняй скалечанай мове, аўтар адзначаў: «У выніку ўсіх гэтых калечанняў — нявечанняў наша літаратурная мова страціла жывое натуральнае гучанне і стала падобнай на кепскі, непісьменны, калькаваны пераклад з рускай. Карыстацца такой мовай — усё адно што дыхаць забруджаным, удушлівым паветрам. Дык ратуйма яе, панове-братове, а то не мецьмем чым дыхаць свабодна!» (с.12).

Ці пачуюць гэты запавет? Ці жыцьме сапраўдная, незнявечаная беларуская мова?

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

# «Давайце парадуемся таму, што зроблена»

*(Заканчэнне. Пачатак на с.9.)*

гэтага «Не дамо!» з'яўляюцца вось такія энцыклапедыі, падручнікі, ладзяцца спектаклі, канцэрты і вечарыны, выконваецца іншая канкрэтная работа. Няхай у Вярхоўным Савеце, на ўсіх узроўнях улады, ва ўсіх установах будуць людзі, якія сваёй арганізацыйнай працай дапамагаюць сцвярджэнню нашага слова, нашай культуры, а побач, у падтрымку, павінна рабіцца вялікая навуковая работа, тады мы будзем непераможныя і будзем весялей глядзець у твар эпохі.

**Генадзь Цыхун**. Гэта першае выданне Энцыклапедыі «Беларуская мова», таму яму суджана назаўсёды застацца ў гісторыі. Я ўдзельнічаў у абмеркаванні канцэпцыі гэтага выдання, у абмеркаванні слоўніка, артыкулаў і бачу, як паступова акрэсліўся яго профіль. Спачатку сутыкаліся розныя ідэі, падыходы: адны хацелі зрабіць нешта папулярнае, іншыя — вельмі навуковае. З тых абмеркаванняў я вынес перакананне, што ад сутыкнення падыходаў Энцыклапедыя нават выйграла. Няма палітызацыі, няма нейкай адной ідэалагічнай лініі, і гэта вельмі добра. Чытач знойдзе шырокую сітуацыю, з якой можа сам зрабіць вывады. І такіх артыкулаў, што пярэчаць адзін аднаму, даволі многа, у чым я бачу вялікую заслугу рэдактара, які не паспрабаваў іх нівеліраваць. Думаю, што Энцыклапедыя дае шырокую панараму жыцця нашай мовы. Яна не горшая, а ў некаторых адносінах і лепшая за тыя, што выходзяць у іншых краінах. Прыкладам, вось такая блокавасць падачы матэрыялу, калі размеркаваны вялікія комплексы, дзе можна знайсці шырокі падыход. Вялікія артыкулы даюць магчымасць чытачу атрымаць цэласнае ўяўленне пра некаторыя з'явы мовы.

Скажу і пра тое, што не зусім атрымалася. Спадар Вячорка тут выступіў у абарону навуковага даследавання нашай «трасянкі». Я быў тым аўтарам, які прапанаваў для Энцыклапедыі артыкул «Трасянка», нават асабіста ўручыў яго галоўнаму рэдактару Беларускай энцыклапедыі. На жаль, відаць, яму месца не хапіла. Заўважаюцца недахопы і ў плане персаналіі, і ў плане асвятлення таго, як беларускай мовай цікавяцца і вывучаюць яе за межамі рэспублікі. Лічу, што замежныя беларусісты прадстаўлены далёка не поўна. Напрыклад, няма вядомага даследчыка беларускай мовы з Ізраіля Пола Векслера, аўтара гістарычнай фанетыкі беларускай мовы — цудоўнай кніжкі, якую варта перакласці і перавыдаць у нас, не гаворачы пра іншыя яго працы; няма Юрыя Шэраха, аўтара арыгінальнай канцэпцыі паходжання беларускай мовы. На гэтым жа ўзроўні павінен быў фігураваць і вядомы ўсім даследчык беларускай мовы Джын Дынглі з Англіі і іншыя; адсутнічае асобны артыкул пра Міжнародную асацыяцыю беларусістаў (МАБ), якая аб'ядноўвае звыш 400 навукоўцаў у свеце, для якіх Беларусь, у тым ліку і беларуская мова, з'яўляюцца адным з прыярытэтаў у іх навуковай дзейнасці.

**Ірына КРЭНЬ.**

*Падрабязнасці*

# Растуць на Беларусі рыцары...

*Сёння ў Беларусі існуе мноства дзіцячых арганізацый — ад посткамуністычнай піянерскай да міжнароднай скаўцкай. Але «Рыцарскі клуб», створаны ў сталіцы, істотна адрозніваецца ад іх усіх, перш за ўсё — сваёй выразнай беларускай арыентацыяй.*

*Гісторыі паўстання клуба і аспектам яго дзейнасці прысвечана гутарка карэспандэнта «Нашага слова» з навуковай супрацоўніцай Нацыянальнага інстытута адукацыі, адной са стваральнікаў аб'яднання «Рыцарскі клуб»* **Арынай Вячоркай.**

**— Калі ўзнікла аб'яднанне, кім і дзеля чаго яно было створана?**

— Клуб паўстаў два гады таму, а ля яго вытокаў сталі дзве асобы: я, педагог, і Сяргей Шаўцоў, мастак. Стварэнне клуба стала ажыццяўленнем нашай ідэі заснавання дзіцячай суполкі з выхаванцаў летніка «Грунвальд». Гэты летнік, створаны Менскім гарадскім бацькоўскім камітэтам беларускамоўных школ і класаў, працаваў пачынаючы з 1990 года і ўжо меў пэўныя традыцыі работы з беларускамоўнымі дзецьмі. Напачатку я бачыла «Рыцарскі клуб» як цэнтр пазашкольнай работы, як новы асяродак, створаны для дзяцей найперш з беларускамоўных сем'яў. Першымі ўдзельнікамі клуба сталі 10—13-гадовыя хлопцы — навучэнцы беларускамоўных школ і класаў, а таксама дзеці маіх знаёмых і іх знаёмых.

**— У краіне існуе створаная яшчэ ў савецкі час сістэма пазакласнай работы з дзецьмі. Чаму Вы палічылі неабходным заняцца стварэннем новай структуры?**

— Менавіта таму, што арганізацыі для пазашкольнай работы з падлеткамі — спадчына савецкай сістэмы, створанай дзеля выхавання савецкага чалавека. А існаванне беларусаў як народа гэтая сістэма папросту не ўлічвала. Калі школу і сапраўды закрануў працэс беларусізацыі, калі, акрамя ўжо існуючых беларускіх школ, пачалі з'яўляцца новыя, дык сістэма пазашкольнай работы з дзецьмі, якая, на мой погляд, не менш за школу спрычыняецца да фармавання светапогляду падлетка, засталася практычна без ніякіх змен. Дагэтуль няма беларускамоўных пазашкольных гурткоў. Няма асяродкаў для дзяцей, куды б яны маглі прыйсці ў вольны час, каб набыць і развіць нейкія творчыя ці мастацкія здольнасці, карыстаючыся пры тым роднай мовай. Таму і стала актуальным стварэнне ў сталіцы нашай дзяржавы, напрыклад, такой арганізацыі, як ГБК, камітэта, які б прадстаўляў і абараняў інтарэсы школьнікаў з беларускамоўных класаў. І з тае ж прычыны ўзнікла патрэба ў стварэнні арганізацыі, якая дазваляла б ім знаходзіцца ў вольны час не ў асяроддзі людзей з чужой мовай і ментальнасцю, а ў коле сваіх аднагодкаў і аднадумцаў.

Тут зноў варта згадаць летнік «Грунвальд». Новым у ім было ўжо тое, што стварыла яго грамадская арганізацыя ГБК — людзі, якіх непакоілі лёс і будучыня іхніх дзяцей, якія жадалі бачыць іх сапраўднымі грамадзянамі незалежнай Беларусі. І ад звычайных піянерскіх лагераў летнік розніцца ўжо тым, што ў ім не было арганізацыі жыцця дзяцей на казарменны лад — з маршыроўкай, «летнікамі» і «салютамі», не было нецікавых, палітызаваных мерапрыемстваў, не было здушэння дзіцячай ініцыятывы і свабоды. І, перш-наперш, выхаванне дзяцей там вялося адпаведна сямейным і нацыянальным традыцыям. На той час гэта быў адзіны ў краі беларускамоўны летнік, дзеці ў якім жылі ў родным ім асяродку.

Менавіта там, у летніку, я пераканалася: праз тое, што дарослым падаецца проста забавай, — праз гульню — можна дастукацца да душы дзіцяці, адкрыць для сябе гэтую душу і што менавіта гульня можа дапамагчы падлетку канчаткова вызначыць сваю моўную і нацыянальную арыентацыю, акрэсліць схільнасць да той ці іншай культуры і сістэмы каштоўнасцей. Ідэя стварэння дзіцячага аб'яднання, асновай існавання якога стане гістарычная гульня, у мяне ўзнікла менавіта тады. Але, як аказалася, гульня стала толькі першым крокам.

**— Стварэнне клуба далося Вам лёгка?**

— Гэтак жа сама лёгка, як і ўсё, што датычыць беларушчыны. На пачатку я звярнулася ў Менскі Палац дзяцей і моладзі. Там маю прапанову выслухалі прыязна, і 14 лютага 1993 года адбылося адкрыццё Клуба беларускіх рыцараў — так ён тады называўся. Але ў палацы ўсё мы сутыкнуліся з той жа праблемай, што існуе і ў школе, — абмежаваннем свабоды дзяцей і адсутнасцю хоць нейкай матэрыяльнай базы. Падлеткі, захапіўшыся чым-небудзь, губляюць пачуццё часу, бо новы занятак ім цікавы. А ў Палацы, як у школе: заняткі і перапынкі згодна са складзеным адміністрацыяй раскладам. Па-другое, мы жадалі займацца з нашымі дзецьмі свабодна, а не паводле акрэсленай праграмы, калі ўсе мусяць рабіць аднолькавую, адведзеную ім справу — маляваць адзін малюнак, майстраваць кожны тую ж самую рэч... Ая, а ўяшчэ большай ступені наш мастак Сяргей Шаўцоў хацелі даць ім свабоду творчасці. На жаль, гэта атрымлівалася не заўжды. Тым не менш, хлопцы хадзілі да нас — ім было цікава. У клубе былі сустрэчы з вядомымі людзьмі, такімі, як Леанід Акаловіч, Міхась Грыгор'еў, Генадзь Сагановіч, Юрась Бохан, Анатоль Грыцкевіч, Андрэй Карніенка, і многімі іншымі. Але, не маючы добрай матэрыяльнай базы і фінансавання, мы маглі займацца толькі маляваннем традыцыйных строяў, гербамі ды радаводамі. Бо ж рыцар мусіць, акрамя ўсяго іншага, мець уласны герб і ведаць свой радавод, традыцыі сваіх продкаў. Усё гэта і было закладзена ў нашу праграму. Нашы хлопцы вывучалі законы геральдыкі і згодна з імі стваралі ўласныя гербы. Яны распытвалі сваіх бацькоў і дзядоў і складалі ўласныя генеалагічныя дрэвы. Сяргей Шаўцоў вучыў іх працаваць з рознымі матэрыяламі, каб нашыя рыцары маглі самі зрабіць для сябе зброю і амуніцыю.



На здымку: Сяргей Шаўцоў з выхаванцамі клуба.

Дзеля далейшага развіцця спрабавалі адшукаць сабе іншую базу: хадзілі ў мастацкае вучылішча. У Акадэмію мастацтваў... Так працягвалася да часу, пакуль не адшукалі ў раёне вуліцы Арлоўскай закінуты стары дом. Дзеці і бацькі ачысцілі дом ад смецця, давялі да ладу, дарэчы, з дапамогай хлопцаў з Аб'яднання беларускіх скаўтаў, і пачалі сустракацца там. На жаль, гэта працягвалася нядоўга — з невядомай прычыны там здарыўся пажар. Сродкаў на рамонт мы не мелі, давялося вяртацца назад у Палац дзяцей і моладзі, дзе сустрэлі поўнае разуменне і падтрымку кіраўніцтва. І цяпер мы ўжо маем «Рыцарскі клуб», а пры клубе тры гурткі — гістарычнага адзення, рыцарскага рыштунку і фехтавання. Сёння клуб аб'ядноўвае хлопцаў рознага ўзросту — ад школьнікаў малодшых класаў да студэнтаў.

**— Вы казалі, што характар гульні аб'яднанне мела толькі напачатку...**

— Так, ад гульні ў рыцараў мы перайшлі да большага, самастойнага вырабу адзення і рыштунку з дапамогай прафесійных майстроў. Акрамя таго, мы падтрымліваем шчыльныя кантакты з клубам «Продыюс», дзе група нашых дзяцей вучыцца конніцтву. За два гады існавання клуба ў ім стварыліся ўласныя традыцыі, адна з якіх — правядзенне штогод у канцы траўня Рыцарскага турніру ў старым Лошыцкім парку. Гульня — толькі адзін са сродкаў фармавання асобы, адзін з этапаў на шляху да яе паўстання. А мэта стваральнікаў клуба і тых людзей, хто працуе ў ім сёння, — не гульня, а нешта большае. Мы хочам, каб нашы дзеці былі свабоднымі, шчырымі, таленавітымі, пазбаўленымі комплексаў людзьмі, каб яны, уваходзячы ў свет, ганарыліся тым, што яны — беларусы.

**— Вы лічыце, што аб'яднанні падобнай скіраванасці — сродак дасягнення гэтай мэты? Бо ж сёння прапаганда нацыянальнай культуры робіцца адным з кірункаў работы школ і пазашкольных устаноў...**

— У стваральнікаў і ўдзельнікаў нашага клуба сваё разуменне беларушчыны. Бо лапці альбо рушнік, якія можна павесіць на сцяне дзіцячага садка, ці вывучаны там народны танец у тым выглядзе, які ўяўляе яго сабе музычны кіраўнік, не далучаюць дзяцей да беларускай культуры. Недастаткова для гэтага і прачытаных у школе згодна з праграмай кніг і нават беларускай мовы ў сям'і. Бо дзецям патрэбна большае адчуванне сваёй прыналежнасці да ўсіх праяў культуры. Нашы продкі былі не толькі сялянамі ў лапцях і вышываных кашулях, але і рыцарамі, ваярамі, абаронцамі сваёй айчыны?

**— Ці не супярэчыць гэткая трактоўка вобраза абаронцы радзімы афіцыйнай, якая прадстаўляе яго ў вобразе выключна савецкага партызана ці нават «воина-интернационалиста» часоў акупацыі Афганістана?**

— Існуе цэлая сістэма вайскова-патрыятычнага выхавання, атрыманага Беларуссю ў спадчыну ад СССР і прызначаная дзеля выхавання моладзі ў традыцыях савецкага патрыятызму. Але ж патрыятызм беларусаў выхоўваўся не ў гады нямецка-савецкай вайны, а на сотні гадоў раней, у часы, калі нашыя продкі мелі ўласную дзяржаву і баранілі яе ад напаснікаў і з Захаду, і з Усходу. Таму ўдзельнікам «Рыцарскага клуба» не ўласцівы дух савецкага вайсковага патрыятызму. Патрыятызм, на мой погляд, увогуле не павінен быць агрэсіўным. І таму мэта стваральнікаў аб'яднання — выхаванне ў душах дзяцей разумення рыцарства як шляхетнасці, а не прагі вайны.

**— Колькасць удзельнікаў клуба — некалькі дзесяткаў асоб — сведчанне яго элітарнасці?**

— Нашыя дзверы адчынены для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй і беларускай гарадской культурай. Але ж такіх сярод падлеткаў не так ужо і шмат. Да таго ж адзін з нашых прынцыпаў — беларускамоўнасць, і таму нават сябрам нашых удзельнікаў, якія з цікаўнасці прыходзяць у клуб, але не ведаюць мовы, нялёгка адчуць сябе адразу сваімі ў гэтым асяроддзі. Тыя, якім тут цікава, з задавальненнем гавораць па-беларуску.

**— Ці не баіцеся Вы, што сённяшнія вашыя выхаванцы праз некалькі гадоў адчуюць сябе чужымі ў грамадстве, мова, інтарэсы і сістэма каштоўнасцей якога не супадаюць з іхнімі?**

— Рыцарства і шляхетнасць цаніліся і цэняцца заўсёды і паўсюль, таму я не баюся, што нашы дзеці апынуцца ў ізаляцыі, тым больш, што гэтага не адбываецца цяпер. А пэўная адасобленасць дазваляе ім захоўваць сваю нацыянальную тоеснасць і быць менавіта асобамі, а не шараговымі сябрамі масавай арганізацыі кшталту піянерскай.

**— Чытаючы літаратуру, выдадзеную Сусветнай арганізацыяй скаўцкага руху, я заўважыў значнае падабенства паміж мэтамі і спосабамі дзеяння скаўтаў і вашых рыцараў...**

— Скаўтынг — рух, найбольш пашыраны ў развітых краінах свету. Там ён з'яўляецца адной з формаў падрыхтоўкі дзяцей да жыцця ў добраўпарадкаваным грамадстве. У адрозненне ад яго дзейнасць «Рыцарскага клуба» скіравана на адраджэнне і захаванне амаль згубленых традыцый нашага народа, на выхаванне новага пакалення, якое, магчыма, будзе ў стане здзейсніць у нашай дзяржаве пераўтварэнні на карысць свайго народа.

**Распытваў У.ПАНАДА.**

*Папытай у кнігарні*

## «Акамянеласць мінулай рэчаіснасці», або «чароўны духоўны свет»

На паліцах кнігарняў з'явілася рэпрынтнае выданне этнаграфічнага нарыса Адама Багдановіча «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў». Наклад кнігі невялікі — 6000 асобнікаў. Цана, на жаль, адпаведная «рынычным». Выданне падрыхтаванае па асобніку, які захоўваецца ў фондах Літаратурнага музея М.Багдановіча. Дырэктар музея Алесь Бяляцкі напісаў прадмову да кнігі. «Этнаграфічны нарыс» А.Я.Багдановіча паслужыў крыніцай вобразаў народнай міфалогіі сыну даследчыка Максіму Багдановічу. Але сам Адам Ягоравіч ставіўся да матэрылаў нарыса з пазіцыі русіфікаванага інтэлігента. «Тое, што аўтар называе «акамянеласцю мінулай рэчаіснасці», па праўдзе з'яўляецца пацвярджэннем багатага, поўнага таямніц і чароўнасці духоўнага свету беларускага народа, якому можа пазайздросціць любая еўрапейская нацыя», — піша Алесь Бяляцкі ў прадмове. Думаецца, выданне зацікавіць многіх, і не толькі спецыялістаў.

**Л.Ш.**

*МІНІ-РЭЦЭНЗІЯ*

## Калі страх — будзённая справа...

У часопісе «Полымя» надрукаваны раздзелы з рамана Васіля Хомчанкі «Забытае — не забытае». 27 гадоў праслужыў Васіль Хомчанка ў Савецкай Арміі. А што ж да невядомых акалічнасцяў лёсу, то сёння ў адным з даведнікаў яны акрэслены даволі сціпла... 5 красавіка 1937 г. быў рэпрэсіраваны. Адбываў тэрмін на Далёкім Усходзе да красавіка 1941 г. у Ніжне-Амурскім лагеры.

І вось — невядомы дагэтуль твор.

Ці не ўпершыню за апошнія дзесяцігоддзі ў беларускай літаратуры набывае мастацкае адлюстраванне вобраз Убарэвіча, асобы неардынарнай і неадназначнай. Расказваючы пра рэпрэсіі ў воінскім калектыве, Васіль Хомчанка даследуе механізм знішчэння ў чалавеку, у людзях дабрыні, чуласці. Чалавек, якому дзень і ноч убіваюць у галаву і душу адно і тое ж, міжволі ўспрымае гэта за неабходную рэальнасць. Страх спакваля становіцца будзённай і звычайнай рэччу. У самай калектывісцкай з дзяржаў свету чалавек замыкаўся не толькі ў сям'і, але і ва ўласнай шкарлупіне. Навучыўшыся баяцца, людзі гэтай прывычкай абяззбройвалі сябе. Толькі моцны ідэалагічны рухавік, вялізнае жаданне простага люду выкараскацца з беднасці дазваляла падтрымліваць нейкае ўяўленне светласці і духоўнасці.

Што Сталін, што яго высновы і тэорыі... Пра іх у надрукаваных раздзелах — толькі штрышком. Прычыны — у людзях, у кожным вінціку грамадства. Нешта змяніць здольны толькі чалавек думаючы і вольны.

Калі меркаваць прымітыўнымі катэгорыямі надзённасці, то некаму раман «Забытае — не забытае» падаецца не зусім сучасным, не зусім актуальным. Маўляў, сталінскі генацыд — з'ява адкрытая і добра вядомая. Ды яшчэ і сёння не адкрыта як след і не даследавана тайна маўчання душы, тайна здрады. Твор Васіля Хомчанкі — не паўтарэнне вядомых ужо раманаў, аповесцяў і апавяданняў на антысталінскую тэму. «Забытае — не забытае» — яшчэ і напамінак, каб не змаўчалі літаратары-наступнікі. Каб не змаўчала грамадства. Каб не забываўся кожны з нас.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

Вам, школьнікі!

Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ

Сусветная літаратура ў школе

IX клас

## Уільям Фолкнер (1897—1962)

# Пах вербены

### (Урыўкі)

(Заканчэнне.)

Я вярнуўся ў дом. Горла ўжо не сціскала, як ўначы, але ўдушша прытаілася і чакала; яно было часткай агульных змен, нібыта са смерцю бацькі вытхнулася — цяпер ужо непатрэбнае — усё паветра, колькі яго было змешчана, абмежаванага паміж узведзеных бацькам сцен. Цётка Джэні ўжо чакала мяне; яна адразу ж выйшла з сталовай у хол, поўнасцю апранутая, гладка зачасаныя валасы, зусім бацькавы, але вочы не ганарыстыя, а ўважлівыя, сур'ёзныя і па-мудраму спагадлівыя.

— Ужо едзеш?

— Так. — Я ўважліва паглядзеў у яе вочы: не, дзякуй Богу, жалю ў іх няма. — Я хачу, каб пра мяне думалі добра.

— Я і так думаю пра цябе добра, — сказала яна. — Нават калі б ты на цэлы дзень схаваўся ў пуні, усё адно я б цябе паважала.

— Можа, калі б яна ведала, што я еду... што ўсё адно еду ў горад...

— Не, — адказала цётка Джэні. — Не, Баярд.

Потым, глянуўшы мне ў твар, спакойна дадала:

— Што ж, добра. Яна ўжо прачнулася.

І я пайшоў наверх. Я падымаўся па лесвіцы мерна, павольна, каб не абудзіць удушша, не прыпыніцца дзе-небудзь на павароце — тады ў мяне не стане сілы ісці далей. Я спакойна падышоў да яе дзвярэй, пастукаўся, адчыніў. Яна сядзела каля акна ў нечым ранішнім і прасторным, аднак яна ніколі не выглядала па-ранішняму, па-спальнаму, бо для гэтага патрэбны валасы, распушчаныя па плячах. Яна ўзняла галаву, утаропілася ў мяне ліхаманкава бліскучым поглядам, і я нагадаў, што ў пятліцы сурдута ўсё яшчэ вытыкаецца ўчарашняя вербена, і знянацку яна зноў засмяялася. Здавалася, смех вырваўся ў яе не з губ, а выступіў потам па ўсім твары; нібыта выверджаны нейкай пакутлівай ірвотнай сутаргай, якая ўзнікла ў зусім пустым страўніку, пырснуў з усяго твару, апроч вачэй, бліскучых вачэй, якія не маглі паверыць і пазіралі на мяне скрозь смех, нібы два чужародныя целы, два кавалачкі застылай смалы ці вугалю, кінутыя на дно бурлівай пасудзіны.

— А я яму руку пацалавала! Руку пацалавала!

Увайшла Лувінія. Пэўна, цётка Джэні адразу ж паслала яе наверх, услед за мной. І зноў я мерна і павольна, каб не задыхнуцца, спусціўся ўніз, туды, дзе цётка Джэні стаяла пад люстрай, як учора місіс Уілкінс. У руках яе быў мой брыль. /.../

...Я спыніў каня, пачакаў, пакуль спешыцца Рынга, злез з сядла сам і перадаў яму повад.

— Пачакай мяне тут, — сказаў я.

— Я пайду з табою, — адказаў ён пахмурна: мы стаялі, адчуваючы на сабе настойлівыя погляды, і ціха перагаворваліся як два змоўшчыкі. Пад кашуляй у Рынга я заўважыў пісталет, — відаць, той самы, які мы аднялі ў Грамбі, калі забілі яго.

— Не, ты застанешся тут, — сказаў я.

— Не, пайду.

— Ты застанешся тут.

І я пайшоў да пляца, пад гарачым сонцам. Быў амаль што поўдзень, вербена ў маёй пятліцы пахла так, нібы ўвабрала ў сябе ўсё сонца, усю яго пакуту ад нязздзейсненага павароту на зіму, і рабіла больш невыносным гэтую шалёную спякоту; і я ішоў у воблаку вербены, нібы ў воблаку тытунёвага дыму. Аднекуль знянацку побач са мной з'явіўся Джордж Уайэт, а за ім, крокаў за некалькі ззаду, яшчэ пяць-шэсць бацькавых аднапалчанаў. Джордж узяў мяне пад руку, далей ад прагных, што як бы сцішылі дых, вачэй.

— Бацькаў пісталет пры табе? — спытаў ён.

— Не, — адказаў я.

— Маеш рацыю, — ухваліў Джордж. — Яго пісталет — не дужа надзейны. Толькі палкоўнік сам па-сапраўднаму валодаў ім. А я дык і не навучыўся як след ім карыстацца. Вазьмі лепей гэты. Я сёння яго выпрабаваў — страляе выдатна.

Ён пачаў упіхваць пісталет мне ў кішэню, але тут з ім здарылася тое самае, што і з Друзілай, калі яна пацалавала мне руку, — вестка, варожая няхітраму кодэксу гонару, паводле якога ён жыў, перадалася яму праз дотык, мінуючы мозг, і ён раптам адхіліўся ад мяне з пісталетам у руцэ, утаропіўся ў мяне бледнымі, шалёнымі вачамі, зашыпеў сціснутым ад лютасці шэптам:

— Ты хто? Сарторыс ты ці не? Калі не ты — слова гонару, я сам яго заб'ю.

Не ўдушша цяпер адчуваў я, а неадольнае жаданне рассмяяцца, зарагатаць, як Друзіла, і сказаць: «Друзіла таксама здзівілася». Але я стрымаўся. Я адказаў:

— Гэта мая справа. Не трэба нікому ў яе ўлазіць. Я абыдуся без вашай дапамогі.

Вочы ў яго пачалі патухаць — чыста як лямпачка, якую выкручваюць.

— Добра, — сказаў ён, хаваючы пісталет. — Прабач, сынок. Я павінен быў ведаць, што ты не прымусіш бацьку варочацца ў дамавіне ад ганьбы. Мы пойдзем за табой і пачакаем на вуліцы. І памятай: ён храбры чалавек, але ўжо з учарашняга дня сядзіць там самотны ў канторы, чакае цябе, і нервы ў яго цяпер на ўзводзе.

— Я прыму гэта пад увагу, — сказаў я. — Я сам спраўлюся. Я ўсё зраблю сам. — І ўжо адыходзячы, я знянацку дадаў зусім неспадзявана: — Шыпучку побаку.

— Што? — перапытаў мяне Джордж.

Я не адказаў. Я пайшоў праз пляц, заліты гарачым сонцам, а яны пацягнуліся за мной, трымаючыся воддаль — так, што пабачыў я іх ужо пасля, — пайшоў пад пільнымі позіркамі тых, хто стаяў каля магазінаў і каля суда і сачыў за кожным маім крокам здалёк, чакаючы. Я ішоў павольна, ахутаны шалёным водарам вербены. Цень ад дома лягла на мяне, але я не прыпыніўся, толькі мелькам глянуў на пацьмянелую шыльду: «Б.-Дж.Рэдманд, юрыст» і стаў узыходзіць па лесвіцы, па драўляных прыступках, заплямленых тытунёвымі пляўкамі, вытаптаных цяжкімі, нязграбнымі ботамі сялян, якія прыходзілі сюды судзіцца; дайшоў па цёмным калідоры да надпісу «Б.-Дж.Рэдманд», стукнуў раз і адчыніў дзверы. Ён сядзеў за пісьмовым сталом, рупліва паголены, з найбялейшым каўнерам. Ён быў крыху вышэйшы за бацьку, ды грузнейшы — што сведчыла пра яго сядзячую прафесію; але твар у яго быў не падобны на твар адваката: надта хударлявы для такога тоўстага тулава, трывожны (нават трагічны — так, цяпер я гэта разумею), зморany і знясілены. Ён сядзеў, млява паклаўшы руку на пісталет (нікуды не нацэлены), які пляската ляжаў на стале. Акуратна прыбраны цьмяны пакой не пахнуў ні спіртным, ні нават тытунём, хоць я ведаў, што ён курыць. Я не прыпыніўся, а павольна ішоў на яго. Ад дзвярэй да стала было не болей дзесяці крокаў; але здавалася, я іду, як у сне, дзе няма ні часу, ні адлегласці, ні прасторы, і мае крокі так мала звязаны з пераадоленнем прасторы, як і яго сядзенне за сталом. Абодва мы маўчалі. Нібыта ведалі наперад усё, што можна сказаць, і ведалі: ніякай карысці ад размоў не будзе. Як ён скажа: «Ідзі, Баярд, ідзі адсюль, хлопча», — а потым: «Даставай жа пісталет. Я чакаю», — і ўсё застанецца такім, калі б нават гэтых слоў і не было. І мы маўчалі, я напрасткі ішоў да стала, на ўзняты пісталет, глядзеў, як рухаецца ўверх ягоная рука, як укарочваецца ў ракурсе ствол пісталета, і бачыў, што куля пройдзе міма, хоць рука ў яго і не трымцела. Я ішоў на яго, на руку з пісталетам, і не пачуў кулі. Магчыма, я нават не пачуў стрэлу, хоць памятаю, як знянацку расцвіла дымная аранжавая ўспышка на фоне белай кашулі (як памятаю я на фоне бруднага шыняля Грамбі); я па-ранейшаму глядзеў у рулю пісталета, ведаў, што яна на мяне нацэлена; другі раз убачыў аранжавы выбух і дым і зноў не пачуў кулі. Я прыпыніўся. На гэтым усё скончылася. Я глядзеў, як пісталет нахіляецца да стала кароткімі штуршкамі, як расціскаюцца пальцы, як Рэдманд адкінуўся назад, паклаўшы на стол рукі, і па ягоным твары я зразумеў, як яму цяжка — я ж ведаў ужо, што значыць, калі няма чым дыхаць. Ён падняўся, сутаргавым жэстам адкінуў убок крэсла, дзіўнавата і скоса нахіліў галаву, потым, выцягнуўшы адну руку перад сабой, як сляпы, а другой цяжка абапіраючыся аб стол, павярнуўся і, усё яшчэ з нахіленай галавой, накіраваўся да вешалкі каля сцяны, узяў брыль, пайшоў уздоўж сцяны, міма мяне, да дзвярэй і выйшаў прэч. Ён быў смелы: гэтага ў яго не аднімеш. Ён спусціўся па лесвіцы, надзеў брыль, выйшаў на вуліцу, дзе чакалі Джордж Уайэт і астатнія шасцёра бацькавых аднапалчан і куды ўжо пазбягаліся іншыя людзі. Ён прайшоў сярод іх з высока ўзнятай галавой (мне пасля ўжо казалі, што нехта крыкнуў яму наўздагон у спіну: «Ды вы і хлопчыка забілі?»), моўчкі, гледзячы прама перад сабой, дайшоў да вакзала, як быў, без анічога, сеў у адыходзячы на Поўдзень цягнік і з'ехаў, знік з горада і штата.

Пачуўся тупат мноства ног — па лесвіцы, на калідоры, у пакоі. Але я яшчэ некаторы час (не так ужо і доўга, зразумела) працягваў сядзець за сталом, як калісьці ён, паклаўшы на ўсё яшчэ цёплы ствол далонь, якая паволі здранцвела паміж пісталетам і лобам. Калі я ўзняў галаву, пакой быў перапоўнены людзьмі.

— Каб яго чорт узяў! — ускрыкнуў Джордж Уайэт. — Ты адняў у яго пісталет і прамахнуўся два разы запар? — І адказаў сам сабе: яму падказаў інстынкт Друзілы, у Джорджа яшчэ болей абвостраны: — Не, пачакай. Ты ўвайшоў — нават без сцізорыка — і дазволіў яму двойчы стрэліць, і ён прамахнуўся. Божухна літасцівы!

Ён павярнуўся і крыкнуў:

— Выходзьце адгэтуль усе! Ты, Вайт, едзь да Сарторысаў і скажы ім, што ўсё ўжо скончылася, і ён жывы-здаровы. Ну, хутчэй!

Усе пайшлі, застаўся толькі Джордж, які не зводзіў з мяне свайго бясколернага, раздумлівага (аднак, зусім не разважлівага) погляду.

— Вось гэта нумар ты выкінуў! — сказаў ён. — Выпіць хочаш?

— Не, — адказаў я. — Хачу есці. Я не снедаў.

— Разумею, калі такое задумаў, хіба якое снеданне ў рот палезе? Уставай. Пойдзем у гатэль.

— Не, — сказаў я. — Туды не хачу.

— Чаму? Саромецца табе няма чаго. На тваім месцы я зрабіў бы інакш. Хоць раз, ды стрэліў бы па ім. Але гэта твой клопат.

— Так, — сказаў я. — Я зноў бы зрабіў тое самае.

— Як сабе хочаш. Тады пойдзем да мяне. Перакусім, а потым паедзем і якраз паспеем на пахаванне.

Але я і на гэта не пагадзіўся.

— Не, — сказаў я. — Бадай, я і есці не хачу. Паеду дадому.

— А можа, усё-такі пачакаеш, разам паедзем?

— Не. Я паеду.

— Як хочаш, аднак тут табе заставацца няма чаго.

Міргаючы злымі, бледнымі, неразважлівымі вачамі, ён зноў абвёў імі пакой, спякотнае, змярцвелае паветра якога яшчэ захоўвала смурод пораха, хоць дым ужо разышоўся.

— Каб мяне чорт узяў, — ізноў вырвалася ў яго. — Можа, ты і сапраўды маеш рацыю, можа, хопіць ужо крыві на вашай сям'і. Пойдзем!

Мы выйшлі. Спусціўшыся па лесвіцы, я крыху пачакаў, пакуль Рынга не падвёў коней. Мы перасеклі пляц. Парэнчы веранды ўжо апусцелі (было дванаццаць), але каля ўваходу ў бар стаялі людзі, яны прыпаднялі брылі; я зрабіў тое самае, і мы з Рынгам паехалі далей.

Мы не спяшаліся. Калі даехалі да выгану, была ўжо гадзіна, а можа, і болей; неўзабаве экіпажы і брычкі пацягнуліся ад пляцу да нашага дома, і я звярнуў з дарогі, спыніў Бэтсі, пачаў адчыняць брамку, не сыходзячы з сядла. Рынга спешыўся і адчыніў. Коні пайшлі па выгане пад бязлітасным сонцам; адсюль ужо можна было пабачыць дом, але я не глядзеў у той бок. Мы спусціліся ў цень, душны, густы цень нізіны; у зарасніку тут яшчэ валяліся, дагніваючы, жардзіны ад выгану, дзе мы яшчэ хавалі падчас вайны ўзятых у янкі мулаў. Нарэшце, я пачуў цурчанне вады і ўбачыў блікі на яе паверхні. Мы спешыліся. Я паваліўся ніцма ў траву, падумаў: *«А цяпер хай сабе і ўдушша зноў...»*. Але камяк не падступаў; я заснуў на палове думкі. Праспаў я амаль пяць гадзін, і мне нічога не снілася, але я прачнуўся ад плачу і ніяк не мог спыніцца. Каля мяне на кукішках сядзеў Рынга; сонца ўжо закацілася, але нейкая птушка яшчэ спявала, і было чутно, як вячэрні цягнік на Поўнач свісціць і адрывіста пыхкае, кратаючыся з месца; відаць, рабіў у нас прыпынак. Нарэшце я сцішыўся, Рынга зачарпнуў сваім брылём вады, прынёс яе мне, але я сам пайшоў да рачулкі і апаласнуў твар вадой.

На выгане было яшчэ даволі светла, хоць ужо крычалі казадоі, а калі мы пад'ехалі да дому, на магноліі спяваў перасмешнік, па-начному дрымотна і летуценна; і зноў месяц быў вузкім адбіткам чалавечай пяткі на сырым пяску. У холе свяціўся толькі адзін кандэлябр, і, значыць, усё ўжо скончылася; але яшчэ пахла кветкамі, і вербена ў маёй пятліцы не заглушала іх. Я не развітаўся з бацькам раніцай. Хацеў зайсці перад ад'ездам, але не ўвайшоў. Так і не глянуў на яго зноў, а партрэты, што засталіся ад яго, усе благія, таму што фатаграфія гэтаксама бяссільная захаваць яго, мёртвага, як дом — зберагчы яго цела ад тлення. Але і так ён тут, і тут застанецца назаўсёды; тое, што Друзіла назвала ягонай марай, не пайшло з ім, а завешчана нам, не забудзецца; і варта толькі любому з нас — ці чорнаму, ці беламу — заплюшчыць вочы, як яно набудзе цялеснае аблічча бацькі.

Я ўвайшоў у дом. У гасцінай было пасмурна, толькі на заходнім акне, на каляровых шкельцах цёткі Джэні ляжаў апошні водбліск заходу сонца. Я хацеў прайсці наверх, але заўважыў, што яна сядзіць каля акна. Яна не паклікала мяне, і я не спытаў у яе пра Друзілу. Толькі стаяў нерухома ў дзвярах.

— Яна паехала, — сказала цётка Джэні. — Вячэрнім цягніком. Паехала да Дэнісана, у Мантгомеры.

Вэнні ўжо год як ажаніўся, ён жыў у Мантгомеры, вывучаючы права.

— Так, — сказаў я. — Значыць, яна не...

Але і пра гэта не варта пытацца: Джэд Вайт пэўна ж пабываў тут яшчэ а першай гадзіне дня і ўсё расказаў ім. Дый цётка Джэні нічога не адказала. Яна магла б схлусіць, але сказала толькі:

— Падыдзі да мяне.

Я наблізіўся да яе крэсла.

— Устань на калені. Мне цябе не відно.

— Можа, запаліць лямпу?

— Не. Устань на калені.

— Скажы, ты добра правёў суботні дзянёк? Ну-ка, раскажы мне ўсё.

Яе рукі ляглі мне на плечы. Я адчуваў, як гэтыя рукі імкнуцца ўверх, нібы самі сабой, супраць яе волі, быццам дзеля мяне яна змагалася з імі, але не змагла ці не вытрымала — рукі ўзняліся, абхапілі мой твар, моцна, і знянацку слёзы пакаціліся з яе вачэй па шчоках, пырснулі, як рогат у Друзілы.

— О, каб вы, Сарторысы, спрахлі! Няхай жа вам тройчы будзе ліха!

Калі я выйшаў з гасцінай, у сталовай запалілі святло — Лувінія накрывала стол для вячэры. Лесвіца была асветленая. Але наверсе было цёмна. Я ўбачыў, што дзверы ў яе пакой адчыненыя (так звычайна адчыненыя дзверы толькі ў нежылых пакоях), і зразумеў, што да гэтага часу не верыў у яе ад'езд. Я прайшоў міма, нават не зазірнуўшы туды. Увайшоў да сябе. Некалькі імгненняў я не мог зразумець, чаму гэта так пахне вербена ў маёй пятліцы, пакуль не падышоў да ложка і не ўбачыў на падушцы галінку (яна іх адшчыквала, не гледзячы, з паўтузіна запар, і ўсе галінкі выходзілі аднаго памеру, амаль аднолькавай формы, нібы машынай адштампаваныя) — галінку, якая напаўняла пакой, прыцемкі, вечар тым адзіным водарам, за якім ёй не быў чуцён пах коней.

Пераклад з англійскай
Вадзіма НЕБЫШЫНЦА.

*Выставы*

# У небяспечным жанры

Жанр сатырычнай графікі на Беларусі яшчэ не распрацаваны. Выстава, якая адкрылася 6 траўня ў майстэрні мастака Алеся Марачкіна, пэўным чынам запаўняе гэты «прабел». На ёй прадстаўлены творы Алега Карповіча, выкананыя менавіта ў згаданым жанры. Алег Карповіч працуе ў газеце «Свободные новости плюс», і практычна ўсе выстаўленыя творы былі апублікаваны на старонках гэтага выдання. На прэзентацыі выставы мастак гаварыў:

— Мае малюнкі — гэта мае дзеці. Апублікаваныя ў газеце, яны жывуць столькі ж, колькі і нумар — дзень, два. Хацелася б, каб пажылі яны падолей — для гэтага і зладзілася выстава.

Усе выступоўцы адзначалі высокі ўзровень майтэрства Алега Карповіча, яго непаўторны стыль, фантазію і грамадзянскую смеласць. Вось што сказаў пасля адкрыцця выставы гаспадар «глядзельнай залы» — майстэрні Алесь Марачкін:

— Ідэя падобных выстаў узнікла яшчэ ў 70-я — пачатку 80-х гадоў, калі мы, маладыя мастакі, усвядомілі — ёсць выставы афіцыйныя і неафіцыйныя. І гэта натуральна. Помніцца, у той час мы праводзілі гэтак жа ў майстэрні выставы, прысвечаныя 90-годдзю Язэпа Драздовіча, 100-годдзю Казіміра Малевіча — тады гэтыя імёны былі практычна невядомыя. Здаецца, цяпер ёсць шмат выставачных залаў, галерэй, але праблемы застаюцца — не так лёгка знайсці маладому мастаку сродкі для арганізацыі выставы. Таму я ахвотна прадастаўляю сваю майстэрню для падобных мерапрыемстваў.

Алега Карповіча ведаю даўно, з гадоў яго вучобы на аддзяленні графікі ў беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Тое, што ён робіць у беларускім мастацтве зараз, — не рабіў яшчэ ніхто. Кожная работа існуе ў часе і ў прасторы. Выстава гэтая — элітарная, сюды прыходзяць у асноўным людзі зацікаўленыя, разумеючыя. Яна будзе працаваць два тыдні.

Далей спадар Марачкін патлумачыў, што ў перспектыве ў яго майстэрні адкрыецца салон. Выставы, якія пройдуць у ім, будуць мець чыста эстэцкі, элітарны характар. Змогуць бясплатна выставіцца маладыя мастакі, студэнты. Асноўны крытэрый — каб было цікава. Бліжэйшая задуманая выстава — дзіцячага малюнка 20—30-х гадоў нашага стагоддзя. Наведвальнікі змогуць убачыць дзіцячыя малюнкі сённяшніх вядомых мастакоў, дзеячаў культуры і мастацтва.

**Л.Ш.**

*Майстры*



**Сяргей Палішчук** жыве ў вёсцы Галаўнінцы Ляхавіцкага раёна. Ён майструе кухоннае начынне, аздабляючы яго разьбой.

Фота Рамана **КАБЯКА**.

*Пародыі*

*Георгій ЮРЧАНКА*

## У скоўзанай нерушы

*Нічыіх не трэба апранах —*
*Мы й сваіх пакуль што не знасілі.*
*.................................................*
*Па чужых дарогах жыць — няўтульна.*

**Вольга КУРТАНІЧ.**

За сумліўным густым светакраем
Штось мара зашаптала спадцішна.
Верш няўчуты спаволь дагарае;
Я любоўства не прагну увішна.

Хай пунсовая птушка надзеі
Ў хісткім лесе маёй адзіноты
Залачком несагнёным нядзельным
Ловіць гнанага зайца самоты.

Заручальны пярсцёнак праменіць
Трапяткога малення няпомнасць.
Дык ці можна ў таёмістым сене
Галубіныя крыльцы прыпомніць?

Не аддам сябе ў рукі адчаю.
Расчыню сэрца насцеж даверна.
Родны кут бараніць паспяшаю
У апранасе чужацка-манернай.

*Афарызмы*

*Ілія МАРКАВІЧ*

Найлепш знізу відаць, дзе дах працякае.

Калі вас круцяць, як стрэлкі на гадзінніку, — гэта не значыць, што вы рухаецеся ў нагу з часам.

Вораг умела камуфлірусцца. Не адрозніць ад нас.

Дэманстрацыі праходзілі б мірна, каб народ не збіраўся.

Ад крадзяжу ўдаецца жыць прыстойна.

Мы ў такім крызісе, што пара ўжо думаць пра юбілей.

Народ не падманеш. Ты не камуніст.

Вас многа. Народ адзін.

Я сказаў, што думаю, і атрымаў заслужаную кару. Ён казаў, што думаюць іншыя, і атрымаў незаслужаную ўзнагароду.

Пакуль знайшла тое, што шукала, згубіла тое, што мела.

«Не хвалюйцеся, выплывем!» — казаў сом.

Новая рубрыка: «Вы пытаецеся — ніхто не адказвае».

Усё ў грошах. Ды ёсць, пэўна, штосьці і ў вас.

Вузкае разуменне не азначае спецыялізацыю.

Вашыя заслугі пераўзышлі вашыя магчымасці.

Дэпутацкае пытанне: «Якія сутачныя?»

На тайнай вячэры ўсе выступілі за адкрытасць дзеянняў.

Угнездзіўся, ды яек не нясе.

Праўда ўсё большае.

Набраўся сумлення. Крадзе толькі тое, што яму трэба.

Разумнейшыя саступаюць пад націскам.

З вышыні гары праблемаў гарызонты шырэйшыя.

Дзе-каму лягчэй верыць у тое, што чуюць, як у тое, што бачаць.

**З сербскай мовы пераклаў Іван ЧАРОТА.**

## ФРАЗЫ

Нам ёсць што сказаць адно аднаму, таму давай памаўчым.

**А.Давідовіч.**

Салодкая мана, але якія горкія вырастаюць плады.

**Г.Каставецкі, А.Папоў.**

Чарнавікі жыцця марылі перапісаць многія, але яшчэ нікому гэта не ўдалося.

Калі цябе ляснулі па шчацэ, падстаў другую. Дурасць не ад Бога, а ад нараджэння.

**Генадзь Малкін.**

Каханне без узаемнасці падобна на чаканне тых, хто загінуў без вестак: перакананне, што не маем каго чакаць, не перашкаджае чакаць надалей.

**Невядомы мысліцель.**

На шостым годзе жыцця я хацеў быць кухарам, на сёмым — Напалеонам. Але калі вырас, зразумеў, што заспакою свае амбіцыі, калі стану Сальвадорам Далі.

**Сальвадор Далі.**

*ПРЭСА-КУЛАМЕСА*

**Во-ось та-акая вільготнасць...**

«Між тым, выраблялася яна (каўбаса — *рэд.*) значна *боольшай* вільготнасці, чым патрабавалася».

*«Звязда»*

**Палітычныя перлы.**

«Як і чакалася, учора перад *перламентарыямі* выступіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка — як ён заўважыў, магчыма, у апошні раз».

*«Добры вечар»*

**Раз савецкае — дык свецкае...**

«На першым этапе конкурсу яна (песня — *рэд.*) была прапанавана грамадскасцю на годнасць Дзяржаўнага гімна, але, на вялікі жаль, большасцю членаў журы была адхілена як нібыта твор не *савецкага*, а рэлігійнага гучання. /.../ Свецкая гэта песня, безумоўна, *свецкая!*»

*«Звязда»*

**А быў Герой артылерыстам...**

«...узнагароду атрымлівае Герой Савецкага Саюза, былы *таксіст* Аляксандр Іванавіч Барданаў».

*«Звязда»*

**Беларуская мова з гусіным пранонсам?**

«Хіба што тагачасны саркатар атрымліваў лісты з папрокамі адносна правапісу, небеларускай будовы сказаў, *гусізмаў...*»

*«Наша слова»*

**З якога металу «пёры»?**

«...Асноўнымі *«залатымі пёрамі»* сталі людзі перадпэнсійнага ўзросту...»

*«Свабода»*

## Пачутае «У Лявона»

**Вертыкаль і гарызанталь**

— Які прадмет можа адначасова знаходзіцца ў вертыкальным і гарызантальным становішчы?

— Кіраўнік выканкама, прызначаны кіраўніком дзяржавы. «Вертыкальны» на пасадзе, ён гарызантальны, калі сустракаецца з Прэзідэнтам.

**Абвестка**

ПАВЕДАМЛЕННЕ НА СЛУПЕ: Дэпутаты ад дэмакратычнага блоку павінны плаціць за карыстанне тэлефонам у дзесяцікратным памеры ад тарыфу. Гэта звязана з дадатковымі затратамі на праслухоўванне іх тэлефонаў.

**Толькі хукнуць!**

— Уяўляеш, я прыехаў сюды на французскай машыне, якая ездзіць на вадзе?

— На вадзе? На адной вадзе?

— Так, толькі дзеля разгону неабходна трохі спірту.

— Табе ж, бачу, выязджаючы адсюль, дастаткова будзе толькі хукнуць у матор.

**З-за навінаў не прадам**

Да гандляркі, што сядзіць на самым бойкім месцы Камароўскага рынку, падыходзіць пакупнік і прапануе, што купіць увесь яе тавар, але з невялікай скідкай цаны. Тая адмаўляе. Не пагаджаецца нават тады, калі пакупнік згаджаецца набыць увесь тавар за названую цану.

— Чаму? — пытаецца той.

— А як гэта Вы сабе ўяўляеце, — кажа яму гандлярка, — вось я цяпер усё прадам, дык адкуль жа пасля я пра ўсе менскія навіны даведаюся.

**Начны ці дзённы?**

— Шынок «У Лявона» — ці гэта начны клуб?

— Ці ж ты не бачыш?

— А па чым я магу пазнаць?

— Каб быў начным, то жанчыны сядзелі б тут у начных кашулях.

*У старых фаліянтах*

## Пытанні астролагам

Адзін кароль вырашыў пабудаваць новае места. Дзеля гэтай мэты была выбрана прыгожая раўнінная мясцовасць. Астролагі пахвалілі месца, але сказалі, што трэба выканаць наступную ўмову: у сцяне першага пабудаванага ў месце дома мусіць быць замураванае жывое дзіця, якога маці аддасць па добрай волі.

Праз тры гады пасля гэтага адна маці прывяла свайго колькігадовага сына, каб прынесці яго ў ахвяру багам дзеля шчасця ўсяго будучага места.

Калі ж усё было прыгатавана для замуравання хлопчыка, той звярнуўся да прысутнага там караля:

— Дазволь мне, Ягамосці кароль, задаць тваім астролагам тры пытанні. Калі адкажуць на іх слушна, то значыцца, што яны добра расчыталі знакі, прадказаныя зорамі. Калі ж не адкажуць, то гэта будзе азначаць, што яны памыліліся.

Каралю спадабалася смеласць хлапчука, і ён дазволіў яму задаць пытанні.

— Што ў гэтым свеце найлягчэйшае, найсаладзейшае і найцвярдзейшае? — запытаўся хлапчук у астролагаў.

Астролагі папрасілі ў караля тры дні на роздум.

Калі тэрмін скончыўся, яны адказалі наступнае:

— Найлягчэйшае за ўсё ёсць пярына птушыная, найсалодшы — мёд пчаліны, а найцвярдзейшы — камень.

На гэта хлапчук рассмяяўся і гучна адказаў:

— Гэтак адказаць мог бы кожны. Але найлягчэйшае за ўсё на свеце гэта дзіця на руках маці. Яно ніколі не будзе для яе цяжарам. Найсалодшае за ўсё на свеце — малако, якое дзіця ссе з матчыных грудзей, а найцяжэйшае на свеце для маці — аддаць сваё дзіця ў ахвяру, каб яно было замураванае жыўцом.

Пасля гэтых словаў кароль загадаў выгнаць астролагаў, а хлапчука ўзнагародзіць і прыставіць да яго найлепшых настаўнікаў, каб яны дапамагалі яму развіваць прыроджаную мудрасць.

**Вычытаў Алег ДЫШЛЕВІЧ.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 2093

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5991 паасобнік.
Падпісана ў друк 29.05.1995 г. у 15 гадзін.